Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 31 (4626) 5 жніўня 2011 г.

У нумары:



**Заўтра з дня нараджэння вядомага жывапісца і вучонага Леаніда Дробава спаўняецца 85 гадоў. Напярэдадні ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрылася выстаўка работ пяцідзесяці адметных і незабыўных айчынных творцаў, чые юбілеі адзначаюцца сёлета. У кантэксце гэтай экспазіцыі годна прадстаўлена і яго асоба. А сёння ў Карціннай галерэі гарадскога пасёлка Акцябрскі, якую заснаваў Леанід Дробаў і якая цяпер носіць яго імя, ладзіцца мемарыяльная імпрэза “След майстра”, прысвечаная жыццю і творчасці знанага земляка — самабытнага мастака-рэаліста, доктара мастацтвазнаўства, прафесара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны.**



# На хвалі новага адраджэння

**Віктар ЗАЯЦ,**
**Лана ІВАНОВА,**
**фота Кастуся Дробава**

Родам ён з Гомельшчыны, з маляўнічай вёскі Растаў, што на зямлі легендарнай Рудабелкі — у Акцябрскім раёне. Тут па-сапраўднаму берагуць і шчыра шануюць памяць пра Леаніда Дробава: у гарадскім пасёлку Акцябрскі, ганаровым грамадзянінам якога быў Леанід Ніканоравіч, ён пакінуў сапраўды яскравы зямны след і часцінку свайго творчага духу. Гэта — ужо згаданая карцінная галерэя, куды мастак некалі перадаў 120 сваіх карцін. Казачна маляўнічая чарада жывапісных кампазіцый з чародкамі хвояў ды бяроз на сонечных пясчаных пагорках, зіхоткімі даляглядамі рачных краявідаў, гульнёю загадкавых святлаценяў у аблоках над нерушнага ляснога возера, графікай першых вясновых праталін у бялюткім снезе і золатам спелай збажыны... Вобразы такіх непаўторных і шчырых твораў мастаку падказвала родная прырода. А яго землякі ўспрымалі ды ўспрымаюць гэтыя палотны не толькі з пачуццём эстэтычнай асалоды і замілавання, але і з ціхім здзіўленнем, бо, пазнаючы на карцінах знаёмыя куткі наваколля, пачынаюць па-новаму бачыць іх невытлумачальную прывабнасць і прыгажосць.



Леаніда Дробава называюць адным з тых пераканаых і паслядоўных даследчыкаўпатрыётаў, якія зрабілі значны ўнёсак у развіццё беларускага і сусветнага мастацтвазнаўства. Працавіты, апантаны навукай і творчасцю, ён шмат вучыўся: у Мінскім педагагічным тэхнікуме, Мінскім мастацкім вучылішчы, на факультэце журналістыкі БДУ, на мастацкім факультэце Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (дарэчы, дыпломная работа Леаніда Дробава, кіраўніком якой быў прафесар Міхаіл Кацар, прысвячалася пытанням выяўленчага мастацтва на старонках газеты “Літаратура і мастацтва”), у аспірантуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Потым загадваў аддзелам выяўленчага мастацтва ў гэтым жа інстытуце акадэміі. У гісторыю айчыннага мастацтвазнаўства Л. Дробаў увайшоў як аўтар кніг, манаграфій і альбомаў “Жывапіс Савецкай Беларусі”, “Жывапіс Беларусі XIX — пачатку XX ст.”, “Беларускія мастакі XIX ст.”, “А. Шыбнёў”, “А. Бархаткоў”, “А. Шаўчэнка”, “А. Мазалёў”, адзін з аўтараў “Гісторыі беларускага мастацтва” (т. 1 — 6)…

Паводле слоў мастацтвазнаўцы Людмілы Налівайкі, навуковай паслядоўніцы гэтага энтузіяста ў даследаванні творчасці таленавітых суайчыннікаў, тое, што здзейсніў Леанід Дробаў супольна з такімі асобамі, як Адам Мальдзіс, Арсень Ліс, Уладзімір Караткевіч, можна вызначыць як сапраўднае другое адраджэнне ў беларускай мастацкай культуры. Пасля іх такога магутнага імпульсу на абсягу гэтай сферы дзейнасці больш не было, а іх энтузіязм і творчы патэнцыял раскрываліся пад уздзеяннем вялікіх ідэй, ідэй нашага адраджэння.

На працягу ўсяго свайго жыцця Леанід Дробаў натхнёна займаўся жывапісам: ствараў партрэты, нацюрморты, тэматычныя карціны, але з асаблівым натхненнем — пейзажы. Асноўныя работы Леаніда Ніканоравіча — палотны “Партызанская кузня”, “Трагедыя спаленых вёсак”, “Партызанская друкарня”, “Бацька”, “Вясковая прыгажуня”, “Сям’я партызана”… Сам мастак зазначаў: “Я — рэаліст. Можна нават сказаць — пішу Беларусь у карцінах прыроды. Мне хочацца перадаць прыроду праз “момант”, і я спрабую гэта зрабіць”.

Ён выхаваў нямала кандыдатаў навук, таленавітых вучняў, якія сталі яго спадкаемцамі ў навуцы ды творчасці. Цяпер гэта вядомыя вучоныя, мастацтвазнаўцы, першаадкрывальнікі і даследчыкі новых ці незаслужана забытых старонак беларускага мастацтва. Сярод іх кіраўнікі і супрацоўнікі музеяў, грамадскіх арганізацый, аддзелаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кафедраў акадэмій і ўніверсітэтаў, рэдакцый, выкладчыкі навучальных устаноў. А значыць, дух той, незабыўнай хвалі новага адраджэння ў беларускай мастацкай культуры 1970 — 1980-х, носьбітам якога быў Леанід Дробаў, працягвае жыць.

***На здымках:** Леанід Дробаў і яго пейзаж “Рака Пціч каля Ражанаў” (1992, Акцябрская карцінная галерэя), напісаны мастаком пад уражаннем ад вандроўкі па маляўнічых родных мясцінах.*

## Пункцірам

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку РСФСР Наталлю Белахвосцікаву. "Сыграныя вамі ролі ў цудоўных фільмах, якія сталі класікай кінематографа, — гэта бліскучая праява велізарнага таленту і прафесійнага майстэрства", — гаворыцца ў віншаванні.

Грамадскі савет па маральнасці ў Беларусі заклапочаны негатыўным уплывам камп'ютарных гульняў з элементамі жорсткасці (камп'ютарны герой прымае ўдзел у сцэнах гвалту, забойства, разбурэння) на псіхіку дзяцей і падлеткаў. Савет заявіў пра сваю гатоўнасць весці дыялог з зацікаўленымі дзяржаўнымі і грамадскімі структурамі для ўратавання дзяцей ад небяспечнага сегмента камп'ютарнай вытворчасці.

У 94-гадовым узросце пайшла з жыцця адна з першых беларускіх эстрадных артыстак Ірына Палянская. Яе называлі "беларускай Шульжэнкай". Але яна была не толькі цікавай спявачкай, а і выдатным педагогам па вакале. Сярод вучняў Ірыны Палянскай — Нэлі Багуслаўская, Надзея Мікуліч, Ядзвіга Паплаўская, Аляксандр Ціханові, Алёна Свірыдава.

У Гомельскім палацава-паркавым ансамблі імя Румянцавых і Паскевічаў учора адкрылася выстаўка "Планета Японії", якая праводзіцца ў межах праекта "Гомель — культурная сталіца Беларусі і Садружнасці 2011". На выстаўцы прадстаўлены вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: лялькі, веера, копіі гравюр з музея ў Токіа, нацыянальны касцюм, фамільны альбом з Нагасакі, а таксама фігуры персанажаў японскіх міфаў.

Фотаконкурс "Экалогія Беларусі вачыма вандроўніка" стартаваў у Беларусі. Ён праводзіцца пры садзейнічанні вядучай міжнароднай вяшчальнай кампаніі Travel Channel. Удзельнікам конкурсу можа стаць любы грамадзянін Беларусі. Рэгістрацыя работ завершыцца 30 верасня. Галоўным прызам конкурсу стане адпачынак на дваіх у Белавежскай пушчы.

Наваполацкі ўзорны хор "Звонкія галасы" прывёз пяць залатых медалёў з двух прэстыжных міжнародных конкурсаў. У аўстрыйскім горадзе Грацы беларускі хор заваяваў чатыры залатыя медалі на I чэмпіянаце свету сярод хароў розных краін. Яшчэ адзін медаль прынёс спевакам удзел у міжнародным харавым спаборніцтве "Гран-пры", якое праходзіла паралельна ў гэтым жа горадзе. Калектыў запрошаны на Алімпійскія харавыя гульні 2012 года, якія будуць праходзіць у амерыканскім горадзе Цынцынаці.

Першая чарга рэстаўрацыйных работ Касаўскага палаца XIX стагоддзя ў Брэсцкай вобласці набліжаецца да завяршэння. Фасады будынка ўжо практычна адрэстаўраваны, кроўля гатова. Спецыялісты распачалі археалагічныя доследы разбуранай заходняй брамы помніка архітэктуры, каб дакладна вылучыць, якімі былі яе габарыты, і выявіць характэрныя асаблівасці архітэктуры.

XII Міжнародны рыцарскі фестываль "Белы замак" пройдзе 19 — 21 жніўня ў вёсцы Астрашыцкі Гарадок Мінскага раёна, на тэрыторыі гісторыка-культурнага цэнтра "Рыцарскі замак". Праграма фестывалю разлічана на тры дні. Гледачоў чакаюць рыцарскія турніры, конкурс касцюмаў і сярэднявечнай моды, спаборніцтва лучнікаў, канцэрт менестрэляў і трубадураў і інш. Дарэчы, "Белы замак" мае багатую гісторыю, якая бярэ пачатак з 1994 года.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Славянскае яднанне майстроў пяра і пэндзля

Генадзь ВАСІЛЬЕЎ

**Прадстаўнікі Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Говар і Алег Ананьеў разам з членам Беларускага саюза мастакоў Леанідам Пружынай прынялі ўдзел у з'ездзе Міжнароднага саюза пісьменнікаў і майстроў мастацтваў ва ўкраінскім горадзе Сумы.**

Дэлегаты з'езду, якія прыехалі з розных рэгіёнаў славянскіх краін СНД, абмеркавалі мэты і задачы Міжнароднага саюза пісьменнікаў і майстроў мастацтваў. Яго старшыня, украінскі паэт і мастак, лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій, рэдактар міжнароднага альманаха "Междуречье" Анатоль Міроненка здзейсніў вялізную арганізацыйную працу, каб умацаваць сяброўскія зносіны славянскіх творцаў.

Падчас з'езду выступоўцы распавядалі калегам пра дасягненні культуры ў іх рэгіёнах. Гомельскія пісьменнікі расказалі, што пры падтрымцы аблвыканкама ўжо чацвёрты год выдаецца альманах "Літаратурная Гомельшчына". Па ініцыятыве Гомельскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, пры садзейнічанні абласнога аддзялення Беларускага фонду міру ўжо тры гады запар праходзіць абласны конкурс чытальнікаў, на якім выконваюцца творы пісьменнікаў Палескага краю. У Гомельскай абласной бібліятэцы імя Леніна быў ажыццёўлены сумесны выставачны праект мастакоў і пісьменнікаў Гомельшчыны, прысвечаны 25-годдзю Чарнобыля.

Прапаганда сучаснай славянскай літаратуры і мастацтва, выхаванне духоўнасці — вось тыя мэты, якія ставіць перад сабой Міжнародны саюз пісьменнікаў і майстроў мастацтваў. У кантэксце гэтых задач пры абласной бібліятэцы з верасня 2011 года пачне сваю работу арт-клуб "Парнас".

Праграма новага культурнага цэнтра, якую ўжо распрацаваў савет арт-клуба (дырэктар абласной бібліятэкі Валянціна Дуброва, Генадзь Говар і будучы вядучы арт-клуба Алег Ананьеў), складаецца з сустрэч, дыялогаў з прафесійнымі пісьменнікамі, мастакамі і самабытнымі аўтарамі, выстаў, дэманстрацый творчых праектаў, конкурсаў, майстар-класаў, семінараў, выступленняў артыстаў, музыкантаў, бардаў.

Арт-клуб "Парнас" будзе імкнуцца надаць новы імпульс узаемадзеянню культур славянскіх краін, узбагаціць гэты працэс новымі сустрэчамі, садзейнічаць развіццю патэнцыялу таленавітай моладзі, падтрымліваць розныя творчыя ініцыятывы.

## За падзеяй

# Дзень пераадолення

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Напрыканцы ліпеня на сцэне летняга амфітэатра ў Віцебску прайшоў гала-канцэрт парафестывалю "Запалі сваю зорку". Галоўнымі героямі яго сталі лепшыя выканаўцы і музычныя калектывы грамадскага аб'яднання "Беларускае таварыства інвалідаў па зроку". Аднак дзеля надання фестывалю большага размаху і прыцягнення да яго яшчэ большага інтарэсу публікі было вырашана далучыць да ўдзелу самых вядомых і папулярных эстрадных спевакоў Беларусі: Вікторыю Алешку, Пятра Ялфімава, Іскуі Абалян, Аляксандра Патліса, Ірыну Дарафееву, Аляксея Хлястова, Лесю Кодуш, Георгія Калдуна і іншых. Фестываль набыў рэспубліканскае значэнне.**

У сваім асяроддзі гэтыя хлопцы і дзяўчаты з моцнымі і прыгожымі галасамі ўжо даўно "зоркі". Той з відушчых, каму даводзілася жыць ці працаваць сярод інвалідаў па зроку, па-сапраўднаму ацэніць такое прызнанне. Чалавек, які не бачыць зусім ці то бачыць надта слаба, жыве пераважна ў свеце гукаў. І ён становіцца больш патрабавальным у дачыненні да іх. Але чаму тады нават самыя лепшыя з невідушчых спевакоў, нягледзячы на іх такі добры прыродны голас, на іх настойлівасць у развіцці здольнасцей, застаюцца невядомымі для шырокай публікі? Як гэта ні дзіўна можа падацца, але яны не ўмеюць. У большасці людзі з абмежаванымі магчымасцямі не ўмеюць спяваць на гэтак званай "вялікай сцэне": не адчуваюць сябе раскавана, апасаюцца перамяшчацца падчас спеваў, не знаходзяць кантакту з гледачом. А між іншым, вопыт Дзіяны Гурцкая паказвае, што гэта ўсё пераадольваецца, калі побач аказваюцца добрыя, прыхільныя настаўнікі. Вось такімі настаўнікамі для ўдзельнікаў парафестывалю і павінны былі стаць, на думку арганізатараў, вядомыя, тытулаваныя нашы "эстраднікі". Да гонару "зорак", усе, каму прапанавалі ўдзел у праекце, згадзіліся і, выкраіўшы час у сваіх насычаных графіках выступленняў, запланавалі рэпетыцыі са спевакамі-"белцізаўцамі".

Гала-канцэрт выглядаў феерычна. Пераадолеўшы скаванасць і няўпэўненасць, невідушчыя выканаўцы выходзілі рука ў руку на сцэну са сваімі настаўнікамі, каб дуэтам спець лепшыя песні з рэпертуару "зорак". Некаторыя дуэты атрымаліся такімі арганічнымі, што падавалася, нібыта ведаюць удзельнікі адно аднаго даўно і неаднойчы выступалі разам. Як быццам бы дзве аперэтачныя дзівы, глядзеліся ў ярка-чырвоным і таямніча-чорным "іспанскім" адзенні "зорка" Святлана Старадзетка і юная Паўла Лукашэвіч. Спявачка Улада проста прымусіла прысутных паверыць у тое, што з Аляксандрам Крывіцкім яе звязваюць закаханасць і ўзаемаразуменне. Вядомы хіт Георгія Калдуна "Снілася мне" зайграў іншымі фарбамі, стаў больш лірычным, калі ў яго "ўвайшла" са сваім цёплым голасам Наталля Чарнякова. А песні Ганны Шаркуновай "Я хачу побач з табою быць…" надаў драматызму Дзяніс Голубеў, у якога, як аказалася, ёсць не толькі цудоўныя вакальныя дадзеныя, але і пластыка, і артыстызм, і "нерв". Аляксандр Патліс, спявак, які неаднойчы ўжо станавіўся ўдзельнікам разнастайных сацыяльных праектаў, стварыў цудоўны сцэнічны нумар з Аксанай Сідарук, якая навучылася побач з ім не толькі нязмушана рухацца па сцэне, але і іграць ролю моцнай, незалежнай у жыцці і каханні жанчыны. Але найбольшыя апладысменты заслужылі дуэт Пятра Ялфімава і Аляксея Крэчэта, які падрыхтавалі надзвычай складаны нумар з рэпертуару Фрэдзі Меркуры "Мы — чэмпіёны". Ужо, здаецца, які голас трэба мець, каб вытрымаць напружанае спаборніцтва з Ялфімавым! А Аляксей не глядзеўся ў пары з "зоркай" слабым і бясколерным выканаўцам. Яркі, страсны, моцны — сапраўдны!

Дзень прадстаўлення шырокай беларускай публіцы спевакоў Беларускага таварыства інвалідаў па зроку стаўся для гледачоў днём адкрыццяў, а для выканаўцаў — днём пераадолення. Першы крок зроблены. Яны запалілі свае зоркі на вялікай сцэне. Падтрымаць гэтае свята, каб несці далей, — цалкам у іх сілах.

## Духоўнасць

# Здаровая сям'я — здаровае грамадства

Міхась ЛАЗЕКА

Рэспубліканская духоўна-асветніцкая праграма "Сям'я — Яднанне — Айчына", ля вытокаў якой стаіць Выдавецтва Беларускага Экзархата, пашырае свае межы. Чарговым адрасам яе правядзення стаў пагранічны Брэст.

Маральныя каштоўнасці — гэта хрысціянскія каштоўнасці, тыя вартасці, якія і прапагандуе Праваслаўная Царква. У тым ліку і праз сваю выдавецкую дзейнасць. Таму ў дзень старту праграмы ў Палацы прафсаюзаў была разгорнута выстаўка-продаж літаратуры, што выпускаецца Выдавецтвам Беларускага Экзархата. Набыць было што, бо дзейнасць выдавецтва надзіва шматгранная. Сярод кніг, што выходзяць пад ягонай эгідай, ёсць вельмі ўнікальныя. Зразумела, што на выстаўцы-продажы яны і карысталіся павышаным попытам. Як, скажам, Закон Божы, адрасаваны дзецям. Адметнасць гэтага выдання ў тым, што кніга адначасова выйшла і ў Мінску, і ў Маскве. А яшчэ — тое, што ў аснову яе быў пакладзены парыжскі выпуск "Закона Божага", ажыццёўлены больш як паўстагоддзя таму групай праваслаўных энтузіястаў.

Вялікую цікавасць у наведвальнікаў выклікала і кніга "Пад крыжам лёсу", напісаная ваенным гісторыкам, прафесарам Анатолем Шарковым, лаўрэатам прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне", публіцыстам Уладзімірам Грозавым і журналістам Юрыем Бясцвіцкім, у якой па-новаму асвятляюцца многія моманты Вялікай Айчыннай вайны.

У шэрагу мерапрыемстваў, што на працягу 10 дзён ладзіліся ў Брэсце, быў і праектна-распрацоўчы семінар "Дэмаграфічны дабрабыт: роля работнікаў сродкаў масавай інфармацыі і сферы культуры". У рабоце семінара прынялі ўдзел рэдактар аддзела часопіса "Полымя" Алесь Марціновіч; кінарэжысёр, аўтар духоўна-асветніцкай праваслаўнай тэлепраграмы "Крыніца душы" Юрый Азаронак; галоўны рэдактар часопіса "Алеся" Тамара Бунто; аўтар і вядучы праваслаўнай тэлепраграмы "Благовест" Арцём Махакееў; настаяцель праваслаўнага прыхода Ціхвінскай іконы Божай маці ігумен Ігнацій (Лукові) і начальнік аддзела па справах рэлігій і нацыянальнасцей Брэсцкага аблвыканкама Аляксандр Мурашкін.

Напрацоўкі семінара будуць выкарыстаны для далейшага развіцця і ўдасканалення праграмы "Сям'я — Яднанне — Айчына" і рэгіянальнага вопыту, набытага на Брэстчыне, у іншыя рэгіёны краіны.

Знамянальная падзея адбылася ў час урачыстага закрыцця праграмы: жыхары Брэста атрымалі ў падарунак знакамітае Слуцкае Евангелле, факсіміле якога ажыццёўлена Выдавецтвам Беларускага Экзархата.

## Вернісаж

# «Непасрэдныя» ў галерэі

Дар'я ШОЦІК

Галерэя сучаснага мастацтва "Ў" і кампанія "Вэлком" запрашаюць на прагляд другой з шасці выставак, якія выйшлі ў фінал конкурсу "Smart Art". Куратарам конкурсу маладых творцаў з'яўляецца мастак Сяргей Шабохін.

На пачатку прэзентацыі-выстаўкі праекту "Непасрэдныя" яго аўтар Раман Аксёнаў прапанаваў гасцям паглядзець фільм пра тое, як ішла праца. Ён зазначыў: "Конкурс дае магчымасць маладым мастакам паказаць вобразы і прыгажосць паўсядзённага жыцця, якія хаваюцца за праблемамі простых людзей".

Выстаўка набыла жанравы статус "сацыяльнага эксперымента": просты чалавек, які выказвае свае меркаванні, задумы, эмоцыі, можа стаць стваральнікам мастацтва, твора.

Раман Аксёнаў з'яўляецца не адзіным, хто прайшоў у наступны этап конкурсу. Сярод удзельнікаў Мікалай Бялько, Таццяна Прудзіннік, група txyz.info (Саша Іўлеў, Воля Карэлькіна, Кацярына Шах), група FAU (Іван Краўцоў, Арцём Паламаны), група Gonzai (Андрэй Анкуда, Тарас Калягін, Павел Кедыч). Пераможцу конкурсу "Smart Art" чакае персанальная выстаўка ў галерэі сучаснага мастацтва "Ў". Гэтая падзея, якая стане галоўнай як для ўдзельнікаў, так і для гледачоў, адбудзецца на пачатку 2012 года.

Літабсягі

# Ад Блонскай сядзібы…

Мікола БЕРЛЕЖ

Творчы праект быў распачаты ў 2010 годзе і разлічаны на некалькі гадоў. Выданне ажыццяўляецца па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі краіны. Тыраж — 3000 экзэмпляраў. У другі том увайшлі артыкулы ў межах "Блонская сядзіба — Гаўрыловіч". Сядзіба знаходзіцца ў вёсцы Блонь Пухавіцкага раёна. А заключны артыкул прысвечаны беларускаму празаіку, публіцысту, драматургу Уладзіміру Гаўрыловічу, які жыве і працуе ў Жыткавічах Гомельскай вобласці, узначальвае Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" выпусціла ў свет другі том энцыклапедыі "Культура Беларусі".**



Адметна, што значнае месца ў "Культуры Беларусі" займаюць артыкулы, прысвечаныя беларускай літаратуры, беларускім пісьменнікам. Таіса Бондар, Якуб Брайцаў, Пятрусь Броўка, Янка Брыль і іншыя паэты, празаікі, драматургі, літаратурныя крытыкі сталі персанажамі другога тома энцыклапедычнага выдання. Прыкметай часу становіцца ўключэнне такіх артыкулаў, як "Бог". У "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" такія тэмы ў асноўным былі па-за ўвагай. "Культура Беларусі" звяртае ўвагу на распрацоўку раней "непапулярнай" праблематыкі і ў мастацкім слове: "У беларускай літаратуры тэма Бога ўласціва творам Янкі Купалы, К. Сваяка, М. Сяднёва, А. Разанава, Д. Бічэль-Загнетавай, Р. Барадуліна. У цяперашні час пасля перыяду панавання атэістычнай ідэалогіі вера ў Бога зноў становіцца істотным чыннікам грамадскай свядомасці і культуры".

Шырока асвятляецца ў "Культуры Беларусі" рэгіянальная тэматыка. Пададзены артыкулы пра многія народныя творчыя калектывы. Як прыклад — брэсцкія: ансамбль віяланчэлістаў, ансамбль джазавай музыкі "Буг-бэнд", ансамбль народных інструментаў "Скарбонка", вакальны ансамбль "Мілавіца" і інш. І ў гэтым — сведчанне бязмежнай прасторы нашай нацыянальнай культуры.

Артлінія

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара

# Сакрэт залатога голасу

**На гэтай вечарыне гаварылі пра творчасць і прафесійнае сумленне. Пра талент, душу і духоўнасць, крытэрыі ў мастацтве і ўнутраную культуру. Пра адказнасць кожнага чалавека за вынікі сваёй працы... А камертонам размовы быў яе галоўны герой — Ілья Курган, легендарны "голас мільёнаў", захавальнік і сапраўдны рыцар эталона моўнай культуры, прапагандыст беларускага мастацкага слова і ўзораў нашай літаратурнай класікі, дыктар і педагог, заслужаны артыст БССР, прафесар, які нядаўна сустрэў свае восемдзесят пяць.**

Яго юбілей адзначыла ўся культурная грамадскасць краіны. "ЛіМ", як вядома, прысвяціў такой адметнай даце першую паласу нумара, дзе штрыхі да творчага партрэта Ільі Кургана спалучыліся з аповедам пра новую кнігу, героем якой стаў ён сам. Наша публікацыя прыцягнула ўвагу Ганны Лель, куратара праекта "Кропка адліку" ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Патэлефанаваўшы ў рэдакцыю, падзялілася задумай наладзіць у межах свайго праекта мастацкую праграму, прысвечаную Майстру, там прадставіць і згаданую ў "ЛіМе" кнігу "Залаты голас Беларусі. Ілья Курган". Мы падказалі нумар тэлефона яе аўтара — Дэльфіны (псеўданім Алены Мінчуковай, пісьменніцы, драматурга, журналіста, пазаштатнага аўтара "ЛіМа").



Праз нейкі час атрымалі запрашэнне на імпрэзу, героем якой стаў легендарны Курган, нягледзячы на тое, што з-за спякотнага надвор'я ён мусіў у апошні момант адмяніць свой візіт у бібліятэку. На вечарыне рэй вялі яго вучні. Алена Мінчукова, выпускніца БДУКіМ па спецыяльнасці "рэжысёр дакументальнага кіно", падрыхтавала і невялічкі фільм. Мы бачылі на экране фотаздымкі розных гадоў, а за кадрам гучалі вершы — запіс пранікнёнага залатога голасу... Вядомы дзеяч тэатра Валерый Анісенка і актрыса Алена Унукава распавядалі пра свае стасункі з Майстрам, Настаўнікам, Псіхолагам. У іх развагах з курганаўскай бескампраміснасцю гучала трывога за культуру маўлення ў эфіры і на тэатральнай сцэне, за лёс айчыннай школы акцёрскага мастацтва, за духоўную перспектыву пакаленняў, узгаданых на "ўзорах" масавай культуры. Адказ на пытанне пра сакрэт залатога голасу шукалі ўсе разам, згадваючы культ высокай літаратуры ў бацькоўскім доме І. Кургана, яго ўвагу да кожнага слова, да інтанацыі, да правільнасці націскаў і асэнсаванай паўзы, да ўвядзення ў падтэкст думкі, душы, духоўнасці...

Госці вечарыны адрасавалі гарачыя авацыі герою кнігі, які чуў "апладысменты па трансляцыі" — праз мабільны тэлефон. Шчыра дзякавалі А. Мінчуковай, намаганнямі якой жыццёвы, прафесійны, творчы, духоўны досвед Ільі Кургана, чалавека-эпохі, адлюстраваны ў захапляльнай кнізе і будзе перадавацца ўсім неабыякавым чытачам.

***На здымку: набыўшы кнігу "Залаты голас Беларусі. Ілья Курган", госці вечарыны падыходзілі па аўтограф да пісьменніцы Дэльфіны — Алены Мінчуковай (справа).***

Повязі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА, фота Святланы Панцялеевай

# Каб казка адбылася…

**Прэзентацыя дзіцячай кнігі Наталлі Голубевай "Казкі цётачкі Руф" прайшла ў "Доме Масквы" ў рамках святкавання 1023-й гадавіны Хрышчэння Русі.**

Вось ужо чатыры гады па ініцыятыве і з блаславення Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія ІІ і Блажэннейшага Мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Украіны Уладзіміра праваслаўны люд урачыста адзначае Дзень Хрышчэння Русі. Ён стаў дзяржаўным святам у Расіі і ва Украіне. У гэтым годзе да святкавання далучылася і Беларусь. З блаславення Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта ў Дзень Хрышчэння Русі прайшлі ўрачыстыя мерапрыемствы ў культурна-дзелавым цэнтры "Дом Масквы" ў Мінску.

Арганізатарамі свята выступілі Мінская епархія Беларускага Экзархата, прадстаўніцтва дзяржаўнай аўтаномнай установы Масквы "Дом Масквы" і Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі. Праграма свята арганічна была падзелена на тры часткі: знаёмства з мастацкай выстаўкай, канцэрт і прэзентацыя кнігі.

Выстаўка твораў члена Беларускага саюза мастакоў Галіны Бараноўскай сустракала гасцей свята ў фае. Пейзажы, выкананыя ў тэхніцы акварэлі і алоўкавага малюнка, выклікалі замілаванне і захапленне, бо зроблены яны былі пераважна ў святых месцах Расіі, Украіны, Беларусі.



Канцэрт, распачаты віншаваннем Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла і вітальным словам Уладыкі Філарэта, быў яркім і разнастайным: народная і класічная музыка, самадзейныя калектывы і выканаўцы, а таксама прафесіяналы Беларускай дзяржаўнай філармоніі, Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы, айчыннай эстрады.

У зале ў той дзень прысутнічалі таксама дзеці і маладыя людзі з абмежаванымі магчымасцямі. Менавіта іх вырашыла зрабіць першымі чытачамі сваёй першай дзіцячай кнігі "Казкі цётачкі Руф" вядомая пісьменніца Наталля Голубева. Расказаўшы пра тое, як з'явілася задума напісаць казкі з беларускім гістарычным антуражам, аўтарка запрасіла ўсіх жадаючых у падарожжа па дарогах казкі. А пасля дзеці-інваліды атрымалі ад аўтаркі ў падарунак па кніжцы. І ў кожнай з іх — найлепшыя яе пажаданні і асабісты подпіс Уладыкі Філарэта. "Я ўдзячная Уладыку за тое, што ён зразумеў мае імкненні і падтрымаў іх, — выказалася Наталля Аляксандраўна. — Падумаць толькі, нягледзячы на сваю вялікую занятасць, ён палічыў неабходным вылучыць час, каб падпісаць кожны экзэмпляр, які сёння быў падараваны дзецям!" І яшчэ пісьменніца ў той вечар сказала: "Усе мы ў душы застаемся дзецьмі і ўсе жадаем, каб казка адбылася. І трэба, каб мары нашы збываліся".

***На здымку: кніга ад Наталлі Голубевай — удзячным чытачам.***

З-пад пяра

Мемарыяльная дошка знакамітаму артысту-коласаўцу Фёдару Шмакаву адкрылася ў Віцебску на доме па вуліцы Урыцкага, дзе ён пражыў разам з сям'ёй сорак гадоў. Аўтар дошкі — віцебскі скульптар Аляксандр Гвоздзікаў. На адкрыцці прысутнічалі мэр горада Віктар Нікалайкін, дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Рыгор Шыцько, народная артыстка Беларусі Святлана Акружная і самы малодшы нашчадак артыста — яго ўнук Андрэйка. Дарэчы, падчас адкрыцця дошкі з вуснаў прысутных прагучала прапанова аб перайменаванні вуліцы Урыцкага ў вуліцу Тэатральную, паколькі менавіта тут жылі знакамітыя і любімыя гледачамі артысты-коласаўцы.

**Святлана ДАШКЕВІЧ**

Унікальная выстаўка сапраўдных дакументаў па гісторыі беларускай дыпламатыі адкрылася ў цэнтры гісторыі Міністэрства замежных спраў і беларускай дыпламатычнай службы. Тэматычна выстаўка прысвечана 90-годдзю ўтварэння Паўнамоцнага прадстаўніцтва БССР пры СНК РСФСР і зацвярджэнню Палажэння аб Народным камісарыяце па замежных справах БССР. Экспазіцыя ўключыла ў сябе каля 1,5 тысячы дакументаў. Яна ўжо прыцягнула ўвагу даследчыкаў.

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

Спалучыць на першы погляд неспалучальнае — класічны твор Аляксандра Пушкіна "Граф Нулін" і вершы сучаснага паэта Мікалая Шыпілава — удалося Сяргею Трахімёнку ў монаспектаклі "Развітанне з дваранствам", прэм'ера якога адбылася на сцэне Тэатра рускага раманса. Лаканічная дэкарацыя — крэсла і гітара, пад якую Сяргей Аляксандравіч выконвае творы Шыпілава. І больш як гадзіна неаслабнай увагі глядзельнай залы… Агульны кантэкст розных па часе стварэння вершаў дазволіў гледачам прасачыць сыход дваранства з гістарычнай сцэны ў віхуры рэвалюцый, рэпрэсій і іншых выпрабаванняў. Выверaная інтанацыя давяральнай размовы з гледачом стварыла непаўторную атмасферу разважанняў пра высакароднасць, гонар, здольнасць ахвяраваць уласным жыццём дзеля інтарэсаў Айчыны.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Музей сучаснага выяўленчага мастацтва запрашае на фотавыстаўку "Адлюстраванне". Свае эмоцыі, перажыванні, стаўленне да жыцця нашы сучаснікі-фотамастакі пастараліся выказаць, выкарыстоўваючы найноўшыя тэхналогіі і самыя выразныя спосабы ўздзеяння на гледача. Міхаіл Баразна (серыя "Беларусь"), Сяргей Торбік (серыя "Лесвіца"), Аляксандр Вафік (серыя "Мужчыны не плачуць"), Кацярына Кёнігсберг (серыя "Адлюстраванне"), Юрый Пеўнеў (серыя "Перарыў") — кожны фотамастак па-свойму цікавы, кожны варты ўвагі і ўхвалы.

**Дар'я ШОЦІК**

У Лепельскім раёне аматарам экстрэмальнага турызму прапануюць трохдзённы "адпачынак" у закінутай вёсцы. Праект "Домік у вёсцы" задуманы як своеасаблівае спаборніцтва за званне лепшых рабінзонаў. Першыя пяць сем'яў ужо спрабавалі наладзіць быт ва ўмовах адсутнічання звычных утульнасцей, магазінаў і нават грошай. Арганізатары праекта спадзяюцца, што ён будзе запатрабаваны.

**Лізавета БАГАДЗЯЖ**

# У згодзе з прыгажосцю

**Галіна ДРУК,**
**дацэнт кафедры беларускай філалогіі і сусветнай літаратуры БДУКіМ**

**Адным з кірункаў развіцця літаратуры для дзяцей і юнацтва з'яўляецца прыродазнаўчая літаратура, якая апошнім часам пашырае прастору свайго бытавання за кошт літаратурнай казкі. Гэтая цікавая з'ява вымагае згадаць добра вядомыя радкі Якуба Коласа: "Ёсць дзве важныя часціны, з якіх складаецца жыццё і яго сэнс і хараство — чалавек і прырода. Прырода — найцікавейшая кніга, якая разгорнута прад вачыма кожнага з нас". Класік беларускай літаратуры падаў прыклад "прачытання" жывой прыроды, пра якую ў прадмове да "Казак жыцця" сказаў: "Не ў адной толькі нашай душы // Зерне ёсць хараства — // Аб ім казку складае ў цішы // Колас, нівы, трава...". Міфалагічная ў сваёй аснове коласаўская ідэя прыроды, якая мысліць, жыве паводле гарманічных законаў, знаходзіць водгалас у сучасных пазнавальных кнігах, такіх, як "Карона на дне віра, альбо Казкі з хутара Юстыны" Людмілы Рублеўскай.**

У гэтым зборніку змешчана 16 казачных сюжэтаў, кожны з якіх прэзентуе пэўны від расліны, занесенай у Чырвоную кнігу. Па-мастацку падаюцца асобныя навуковыя звесткі, гэта складае пазнавальны аспект твораў.

Аднак казачныя творы Л. Рублеўскай распавядаюць не толькі пра рэдкія расліны, але і пра ўменне чалавека спазнаваць жыццё прыроды. Зазначыўшы, што "...у кожнай жывой істоце схаваная прыгажосць і дзівосная гісторыя", аўтар падае думку-матывацыю: "трэба толькі ўмець убачыць, умець пачуць". Вобраз бабулі-зялейніцы Юстыны ў ролі апавядальніцы ўводзіцца аўтарам з мэтай завязаць адносіны "чытач-герой-твор".

Кветкі, якія "калісьці былі людзьмі", — галоўная рыса вобразнай карціны казачнага быцця ў зборніку "Карона на дне віра...". Гэта адначасова характэрны для казкі літаратурны прыём антрапамарфізму, сутнасць якога, як вядома, у ачалавечванні жывой і нежывой матэрыі пры дапамозе ўяўлення. Дзякуючы назіральнасці і фантазіі нашы продкі далі кветкам надзвычай вобразныя імёны. У выніку спасціжэння сэнсу незвычайных назваў раслін з'явіліся цікавыя гісторыі Л. Рублеўскай.

Навуковая кніга для дзяцей павінна мець адметную кампазіцыю. Калі матэрыял падаецца такім чынам, што дзіця знаходзіцца ў працэсе назірання за развіццём жыццёвых заканамернасцей, мае магчымасць самастойна здабываць вопыт, то гэта творчая ўдача аўтара. Рублеўская праз сюжэты сваіх твораў далучае падлеткаў да аналізу сацыяльных сітуацый, з'яў духоўнага і гістарычнага існавання чалавека, дазваляючы ім самім шукаць парадак, гармонію ў свеце, выяўляць стваральныя і разбуральныя сілы жыцця. Творы Л. Рублеўскай вымагаюць ад чытача вобразнага і лагічнага мыслення.

Адкрывае зборнік рамантычна-трагічная гісторыя жыцця, у аснове якой няпростая сітуацыя чалавечага выбару паміж каханнем і грамадзянскім абавязкам. Вялікае пачуццё кахання да княскай дачкі Галены пазбавіла мечніка Ярмола разважлівасці і пільнасці. Начное спатканне з князёўнай у час варты дазволіла ворагам князя ажыццявіць захоп: незаўважна прыплыўшы на чаўнах і прабраўшыся за мураваныя сцены, яны забілі князя і многа рыцараў-ахоўнікаў. Мужнасць і адвага Ярмола не ўратавалі каханую, якая выкінулася ў возера, каб пазбегнуць гвалту ці ганьбы палону. Кульмінацыйны момант мае казачную развязку: "Няма апраўдання мне... Няма меры віны маёй... Дык няхай, Госпадзе, у выкупленне буду я вечна абараняць гэты бераг...". Моц вартаўніка берагоў замкавага возера — меч-травы, у якую ператварыўся Ярмол, — ведае кожны неасцярожны чалавек. Па сутнасці, ідэя пададзеная ў творы абсалютна выразна: занядбанне доўгу воінам-мечнікам прывяло да страты асабістага шчасця. Але аўтар праз каментарыі-сцвярджэнні, каментарыі-пытанні, непасрэдны зварот да чытача ў заключным абзацы стварае поле падтэксту для роздуму пра галоўныя чалавечыя каштоўнасці. Канфліктнасць сітуацыі, лінейнасць дзеяння, прытчавасць кульмінацыі робяць аповед запамінальным.

Тэма Радзімы паўстае таксама ў казках пра валяр'ян двухдомны, луннік ажываючы, сармацкае кадзіла і інш. Прырода — прыгожае аблічча роднай зямлі — здольная абудзіць (хоць на імгненне!) сляпую душу чалавека, нават самага чэрствага, абсалютна бездухоўнага. Уладны скнара з казкі "Скарбы зельніцы Магды...", што любіў больш за ўсё на свеце золата, быў аднойчы здзіўлены, калі пабачыў "нашу прыўкрасную зямлю, як з вышыні птушынага палёту — яе замкі, палацы і храмы, бярозавыя гаі і цёмныя пушчы, чыстыя азёры і магутныя рэкі... І такой цудоўнай была гэта карціна, што ў князя ўпершыню ў жыцці варухнулася нешта падобнае да захаплення...". Але праўда жыцця ў тым, што прывідны дождж золата затуманьвае ў вачах душэўна неразвітага чалавека сапраўдную прыгажосць.

Зварот да мінулага Беларусі дадае нацыянальнага каларыту расповедам бабулі Юстыны. У сістэме вобразаў дамінуе рамантычна-казачны характар. Аўтар актыўна ўводзіць у тэкстуальную прастору разнастайныя факты духоўнага жыцця нашых продкаў з мінулых эпох. Згадкі пра дзяржаўны і шляхецкія гербы, Грунвальдскую бітву, сарматаў, Статут ВКЛ, каханне князя Ягайлы і Соф'і, вандроўныя тэатры, кірмашы і лірнікаў, ведуноў-траўнікаў — усё гэта і многае іншае стварае пазнавальна-гістарычны аспект. Акцэнтуецца ўвага на драматычным лёсе Беларусі: "Вайна — гэта заўсёды гора. Каму пра гэта ведаць, як не нам, што жывуць на скрыжаванні дарог, у сэрцы буры..."

У казачных сюжэтах абгрунтоўваецца думка пра цесную сувязь прыроды і мастацтва: прыгожая зямля ўзгадавала людзей з незвычайным талентам ("Праўда лірніка Венанцы...", "Пракляты сад...").

Заслугоўвае ўвагі твор "Апошняя песня скрыпкі, альбо Валяр'ян двухдомны", у аснове якога — гісторыя пра таленавітага вясковага хлопчыка. Вобраз музыкі-самародка на этапе сюжэтнай экспазіцыі падаецца паводле фальклорна-літаратурнай традыцыі, за выключэннем аднаго моманту: бацькам-вяскоўцам сынава гранне на саматробных музычных інструментах здавалася "прыгажэйшым за гранне ўсіх на свеце музыкаў, у якіх бы вялікіх гарадах свету тыя ні навучаліся". (Сымон-музыка з аднайменнай паэмы Якуба Коласа ці Сцяпанка з "Велікодных яек" З. Бядулі, пэўна, маглі б у гэтым пазайздросціць Валяр'яну!).

Завязкай праблемы стала рашэнне пані забраць Валяр'яна з сабою ў падарожжа па далёкім замежжы, каб вывучыць яго, у выніку чаго хлопец пазбавіўся магчымасці бачыцца з бацькамі. Праз дзесяцігоддзі Валяр'ян вяртаецца дадому прыгожа апранутым і вучоным, але не застае жывымі бацьку і сястру. Чакае яго толькі старэнькая, прыкутая хваробай да ложка маці, якая з падзякай Богу за магчымасць убачыць сына памірае. Валяр'ян, складаючы ёй рукі на грудзях, убачыў, што маці туліла пад коўдраю драўляную скрыпачку, зробленую ім у дзяцінстве. "Чалавек, надзелены талентам, звычайна надзелены і чуйнай душой", — такі аўтарскі каментарый вытлумачвае пераліты душою героя боль у апошнюю, ці не самую лепшую мелодыю, сыграўшы якую, ён памірае.

> *"Рублеўская праз сюжэты сваіх твораў далучае падлеткаў да аналізу сацыяльных сітуацый, з'яў духоўнага і гістарычнага існавання чалавека, дазваляючы ім самім шукаць парадак, гармонію ў свеце, выяўляць стваральныя і разбуральныя сілы жыцця. Творы Л. Рублеўскай вымагаюць ад чытача вобразнага і лагічнага мыслення.*

Развязка твора — у канстатацыі істотнага факта: ніхто не прынёс на магілу Валяр'яна — "таленту, выратаванага ад забыцця" (так любіла пахваляцца за мяжою пані) — кветкі, ніхто не спамянуў добрым словам…

Вяртаючыся да выяўлення ў зборніку тэмы прыроды і Радзімы, неабходна згадаць казку "Меч у магіле, альбо Кадзіла сармацкае". У ёй вельмі добра перададзена ментальная арганізацыя свядомасці маладога сучасніка. Па словах знаўцы народнага фальклору А. Цітаўца, праз традыцыйную казку, у якой "паслядоўнае, лінейна накіраванае дзеянне", дзеці засвойваюць формулы жыццядзейнасці працоўнага чалавека. Разумовая ж дзейнасць сучасніка атручана думкай пра імгненнае здабыванне шчасця, славы і да т.п. Казка з сімвалічнай назвай "Меч у магіле..." знаёміць чытача з Канстанцінам Гарэшкам — адзіным нашчадкам збяднелага шляхецкага роду Гарэшкаў, якія свята зберагалі веру пра сваё паходжанне ад старажытнага ваяўнічага племені сарматаў. Ад самага пачатку тэкст напоўнены прыхаванай ironіяй, якая нясе ў гэтым творы галоўную ідэйную нагрузку. Калі Кастусік стаў юнаком, бацька ўручыў сыну радавы меч для здабывання славы і княскае ласкі. Згодна з парадкам дзеяння ў народных казках, гэта быў момант сцвярджэння асобы на новым вітку часу, у новым пакаленні. Меч выступае сімвалам рыцарскага кодэксу гонару (у прыватнасці, абароны сваёй зямлі і адказнасці за яе лёс), які пачэсна нёс стары Гарэшка. Канстанцін "рваўся ў лепшы, цікавейшы свет, здзяйсняць подзвігі". Але, трапіўшы ў княскае войска, хутка зразумеў, што на вайне "трэба было не толькі ўмець хвацка махаць шабляй, але і цярпець змору, голад і сцюжу" і што "не заўсёды сапраўдны подзвіг бачны і ацэнены". Заняўшы пазіцыю "няма дурных", ён цішком пакінуў поле бою і збег дадому.

Бацька, чалавек гонару, сынавы паводзіны не ўхваліў і з горкай ironіяй канстатаваў факт страты духоўных ідэалаў маладым пакаленнем: "Хіба шляхціц ваюе не дзеля волі свае зямлі і ўласнага гонару, а дзеля ўзнагарод?". Народны ідэал, згодна з якім дзеці працягваюць традыцыі сваіх бацькоў, не рэалізаваны. Л. Рублеўская паказвае, наколькі істотна змяніўся светапогляд сучасніка, як збяднелі яго душа і розум.

Да тэматычных аспектаў "прырода-Радзіма" і "прырода-мастацтва" далучаецца новы — "прырода-каханне". Свет інтымных пачуццяў — надзвычай складаная з'ява. У казачных гісторыях змадэліраваныя розныя сітуацыі: "трохкутніка", кахання "з першага погляду", "рыцарскага", узаемнага, нешчаслівага кахання і інш. Уважлівы чытач знойдзе прыклады расчаравання і самагубства ("Чужыя ветразі..."), пажадлівасці ("Залатыя косы..."), вялікай самаахвярнасці і мужнасці пры абароне сваіх пачуццяў ("Вяселле ведзьмака...").

Ва ўсіх названых творах сцвярджаецца, што каханне — сапраўдная каштоўнасць, якую набывае чалавек, што гэта вялікая сіла тварэння.

Няцяжка заўважыць, што ў кожнай казцы гаворка ідзе пра пачуццё любові — да ўлады, дукатаў, гульні на грошы ці да прыроды, бацькаўшчыны, праўды, прыгажосці і інш. Кантраст каштоўнасцей становіцца відавочным у выніку сістэмнага ўспрымання зместу мастацкіх твораў. Кампазіцыйна зборнік пабудаваны так, што заключная казка, якая і дала назву кнізе, ёсць апошнім вянцом у пабудаванай мастацкім уяўленнем прасторы нашага агульнага "зялёнага дома", дзе ўсё павінна існаваць у гармоніі, як было гэта спрадвеку. Ідэйны змест казкі пра белы гарлачык датычыць так ці іначай кожнага твора: неабходна жыць з пачуццём любові, з прыгажосцю ў згодзе. Вызначэнне любові і творчасці як сэнсу і пафасу чалавечага жыцця з'яўляецца звышідэяй мастацкага зборніка.

Шукаць у штодзённым жыцці новае, незвычайнае запрашае сучаснага падлетка не толькі Л. Рублеўская, але і Р. Баравікова ("Казкі з гербарыя"), В. Гардзей ("Малая дзіцячая Чырвоная кніга"). Імкненне гэтых аўтараў расказаць пра віды беларускай флоры і фаўны, якія знікаюць, перарастае ў займальную і, разам з тым, сур'ёзную размову з чытачом пра духоўна-сацыяльныя асновы жыцця. Варта згадаць, што "Чырвоная кніга ў вершах і казках" (укладальнік — Р. Баравікова), прысвечаная Году дзіцяці, якім у Беларусі быў абвешчаны 2007 год, уключае творы названых і іншых беларускіх пісьменнікаў. Такія кнігі ўяўляюць цікавасць не толькі для дзяцей, але і дарослых. Менавіта бацькі, бібліятэкары, педагогі павінны дапамагчы дзецям асэнсаваць змест мастацкіх твораў пра прыроду.



*Ілюстрацыя да казкі "Скарбы зельніцы Магды, альбо Луннік ажываючы". Мастакі Мікалай Казлоў, Наталля Сустава.*

# Гісторыя навукі — гісторыя цывілізацыі

Таццяна ШАМЯКІНА

**Выйшла ў свет кніга Уладзіміра Навумовіча "Універсітэт — феномен цывілізацыі". Гэтае выданне не толькі пра БДУ, але пра жыццё навукі ўвогуле. Кніга рэдкая, неардынарная, таленавітая і беспрэцэдэнтная.**

Такую кнігу з задавальненнем прачытаюць і вучні, і настаўнікі, і шматлікія аматары прыгожага пісьменства, і краязнаўцы, кожны, хто захоча дакрануцца да гісторыі навукі, развіцця чалавечай думкі ў свеце, прачытаць пра самабытнасць і непаўторнасць роднага краю, увайсці ў гістарычную плынь слаўнага летапісу станаўлення народнай асветы, вышэйшай адукацыі, узбагачэння культуры на вялікіх прасторах Еўропы і любімых гонях роднай Беларусі.

У. Навумовіч доўгі час працуе ў БДУ, куды паступіў у 1961 годзе пасля заканчэння Ярэміцкай сярэдняй школы Карэліцкага раёна. Ва ўніверсітэце скончыў аспірантуру, абараніў кандыдацкую дысертацыю, загадваў кафедрай, з'яўляўся саветнікам рэктара БДУ і цяпер плённа супрацоўнічае з рэктаратам, з'яўляючыся дацэнтам кафедры беларускай літаратуры і культуры.

У чым жа арыгінальнасць і беспрэцэдэнтнасць кнігі? Найперш, гэта цікавае навуковае даследаванне, але разам з тым і мастацкі твор, выданне з мноствам гісторыка-практычнага матэрыялу, фактаў, падзей, з жанрава-стылёвай разнастайнасцю, з цікавымі знаходкамі і сучаснымі формамі падачы багацейшай гісторыі чалавечай цывілізацыі.

Распачынаецца выданне раздзелам "З гісторыі сярэдневечных універсітэтаў". Тут мы знойдзем шмат цікавага, займальнага, каштоўнага пра першыя ўніверсітэты свету, іх назначэнне, ролю ў развіцці грамадскага прагрэсу. "Студэнт — гэта той, хто абпальвае бровы", — казалі пра навучэнцаў у старыну, бо сядзеў школяр над кнігай у келлі,схіляючыся над свечкай, якая ўсё дагарала і дагарала. "Alma mater" — маці-карміцелька,




так жартоўна называлі студэнты свае ўніверсітэты ў Сярэднявеччы. Універсітэты ў сівую даўніну давалі клятву роднаму гораду, бо калі ўніверсітэт пакідаў горад (а было і такое), горад прыходзіў у заняпад.

Вялікая заслуга даследавання У. Навумовіча ў тым, што ён прадставіў "мадэлі", тыпы, стылі навучання ў розных краінах свету, вылучаючы чатыры асноўныя формы падрыхтоўкі спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі ў свеце: нямецкую, французскую, брытанскую і амерыканскую, як найбольш ярка выяўленыя.

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт — старэйшы на прасторах роднай краіны — шчасліва аб'яднаў шматлікія тыпы і формы навучання студэнтаў, па праве ўваходзіць у сусветную адукацыйную прастору як адзін з лепшых. Паводле рэйтынгу Webomefries, сусветна вядомага агенцтва ў навуковым асяроддзі, БДУ ўваходзіць у лік 10 працэнтаў лепшых навучальных устаноў свету.

У кнізе раскрываецца багацейшая і цікавая, але адначасна надзвычай драматычная, складаная і яркая гісторыя станаўлення першага ў Беларусі ўніверсітэта, гаворыцца пра навуковыя школы, унітарныя прадпрыемствы, навукова-даследчыя інстытуты, навуковыя цэнтры, студэнцкія клубы, арганізацыі, альманахі, выданні, традыцыі. Даюцца акадэмічныя прыярытэты, спектр навукова-інавацыйнай дзейнасці, перспектывы развіцця факультэтаў і БДУ ў цэлым. Асобна адзначым факталагічную частку: факультэты, спецыяльнасці, кірункі, спецыялізацыі — усё тое новае, што з'яўляецца сёння ў падрыхтоўцы і выхаванні спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі.

Шырокаму колу грамадскасці ўпершыню становіцца даступнай "Храналагічная табліца ўзнікнення ўніверсітэтаў свету", якую У. Навумовіч прывёз з Оксфарда (Вялікабрытанія), дзе яна ўпершыню была надрукаваная ў 1936 годзе і з таго часу амаль нідзе не перадрукоўвалася. Сапраўды рарытэтны дакумент.

Гаворка пра выданне была б няпоўнай, калі б мы не згадалі тэматыку работ для самастойнай працы студэнтаў і навучэнцаў, а таксама "тэсты" па вучэбным курсе "Універсітэтазнаўства", які па ўласнай ініцыятыве і распрацаваў Уладзімір Аляксандравіч і які ўведзены ў праграмы, чытаецца на ўсіх факультэтах усіх форм навучання ўпершыню толькі ў БДУ.

Кнігу выдатна дапаўняюць эсэ Уладзіміра Навумовіча пра "Універсітэцкі арэапаг" — асветнікаў зямлі беларускай, помнікі якім адкрыты ў дворыку БДУ: Ф. Скарыну, Е. Полацкую, К. Тураўскага, М. Гусоўскага, С. Буднага, В. Цяпінскага. Не абдзеленыя ўвагай і лірыка вагантаў-школяроў Сярэднявечча, і аўтар першага верша "Беларускаму ўніверсітэту", напісанага ў гадавіну адкрыцця ўніверсітэта ў 1922 годзе, але "забытага", "рэпрэсіраванага". Запамінальнае эсэ пра адкрыццё помніка загінулым у гады Вялікай Айчыннай вайны выкладчыкам і студэнтам універсітэта, да гэтай падзеі меў прамое дачыненне і сам аўтар.

Кніга "Універсітэт — феномен цывілізацыі" У. Навумовіча мае выключнае значэнне. Яна сцвярджае, што мы — нацыя цывілізаваная, адукаваная, якая ўмее самастойна думаць, працаваць і развівацца, у якой слаўная гуманістычная будучыня. У сценах alma mater ідзе фарміраванне новай цывілізаванай эліты прафесіяналаў.

"Вы можаце прымусіць чалавека паступіць ва ўніверсітэт, але вы ніколі не прымусіце яго думаць", — заўважаў мысліцель Файнлі Пітэр Дан.

Кніга У. Навумовіча "Універсітэт — феномен цывілізацыі" дазваляе зазірнуць у мінулае, сённяшняе і будучае ўсіх нас і нашай краіны, дапамагае станаўленню грамадзянскай супольнасці, дазваляе зразумець і адчуць правільнасць аднойчы абранай і захаванай у нашай краіне стратэгіі і тактыкі развіцця вышэйшай адукацыі, убачыць "плады асветы" на роднай ніве, усвядоміць адказнасць новых пакаленняў цывілізаванай эліты грамадства перад будучым краіны.

Выданне кнігі У. Навумовіча "Універсітэт — феномен цывілізацыі" — выдатны падарунак аднаго з яго выхаванцаў, старэйшага работніка, актыўнага і няўрымслівага нашага калегі да юбілею Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

# У добры час!

Ася ПАПЛАЎСКАЯ

Вы хацелі б пажыць у часы маладосці сваіх бацькоў? Я — вельмі. І не толькі таму, што часта чую: маўляў, тады і вада была смачнейшай, і трава зелянейшай, і людзі дабрэйшымі… Хочацца даведацца: якое яно, жыццё без камунікатараў, без Інтэрнэта? Ці сапраўды наш час бяжыць імкліва, а раней быў запаволены? Высвятліць: у часы СССР ці ў ХХІ стагоддзі цікавей жыць, альбо зразумець, што ўсе часы — добрыя.

Беларускія пісьменнікі Андрэй Жвалеўскі і Яўгенія Пастэрнак нібы падслухалі мае думкі і напісалі кнігу "Час заўсёды добры". Кніга, арыентаваная на падлеткаў, будзе цікавай і дарослым: як хораша ўзгадаць гады сваёй маладосці, пазнаць сваіх "камп'ютарызаваных" дзяцей (хутчэй, маладзёнаў будучыні — дзеянне адбываецца і ў 2018 годзе).

Галоўныя героі — Воля (Сінічка) і Віця, жывучы з розніцай у 38 гадоў, адначасова захворваюць (Віця — ад таго, што мусіць выключыць з піянераў сябра, які прынёс у школу велікодны куліч, Воля — таму, што ў школе ўвялі вусныя іспыты, а дзеці будучыні размаўляць як след не ўмеюць — усё праз "комікі" (камунікатары).

Падлеткі сустрэліся ў сне і… прачнуліся ў новым часе. Піянер Віця апынуўся ў будучыні, сярод камп'ютараў, "комікаў" і мабільных тэлефонаў. Ён дастаткова хутка асвойвае ўсе "фантастычныя" прадметы і вучыць сваіх аднакласнікаў размаўляць.

Сінічка-Воля, апынуўшыся ў мінулым, не разумее, чым можна займацца без камп'ютараў і Інтэрнэта. Яна дзівіцца "суцэльнаму антыквaрыяту", але паспяхова адаптуецца ў новым часе. Пакуль Віця дапамагаў аднакласнікам рыхтавацца да іспытаў, Воля як магла абаранялa ад выключэння з піянераў свайго сябра Жэню Архіпава…

Воля вырашае, што патрапіла ў гульню-"квэст" і, збіраючы падказкі, пераходзячы на новыя ўзроўні, перамажа і зноў апынецца ў сваім часе, а Віця ўпэўнены, што над ім ставяць навуковы эксперымент, і шукае калег-падвопытных сярод сваіх аднакласнікаў. Але неўзабаве маладыя людзі пераконваюцца, што яны не ў "квэсце" і не ў эксперыменце…

Усе часы добрыя — разумеюць дзеці. Яны зноў сустракаюцца ў сне і вяртаюцца ў свой час.

Аўтары рамана дастаткова перакануча акрэслілі праблемы росту, з якімі сутыкаюцца ўсе дзеці, раскрылі плюсы і мінусы віртуальнага жыцця і залішняй камп'ютарызаванасці школьнікаў: "Навошта мне запамінаць вершы, калі на Гугле я знайду іх у тры секунды?".

Лёгкая фантастыка з займальным сюжэтам і тонкім гумарам. Ад кнігі не могуць адарвацца ні дзеці, ні іх бацькі. На пытанне, ці пішуць сучасныя беларускія аўтары для дзяцей — каб дух займала, але і падумаць-паразважаць можна было? — я магу цвёрда адказаць: так! А час і напраўду — заўсёды добры.

Школадобрыхпачуццяў

# Свецiць далёкаю зоркаю

Раіса БАРАВІКОВА



Напэўна, гэтак… Ва ўсялякім выпадку асабіста для мяне выдатная паэзія Петруся Макаля заўжды была і застаецца глыбока-агністым святлом.

Мы найчасцей цяпер быццам у нейкім футарале ці чымсьці вельмі пільным занятыя, што не стае часу хаця б раз-пораз згадаць выбітныя імёны тых, з кім сябравалі, каго лічылі сваімі настаўнікамі. Безумоўна, Пятрусь Міхайлавіч для мяне быў літаратурным настаўнікам ад таго самага дня, калі ахвотна пагадзіўся на грамадскіх пачатках быць рэдактарам маёй першай кніжкі паэзіі "Рамонкавы бераг". Тады і пачалася наша літаратурнае сяброўства на многія гады, якое мне цяпер дарагое ўспамінамі. Шмат што магла б успомніць і з таго, калі Пятрусь Міхайлавіч працаваў літаратурным кансультантам у Саюзе пісьменнікаў і калі загадваў аддзелам паэзіі ў часопісе "Маладосць". А які жывы ўспамін, калі ці не Галіна Раеўская — жонка паэта, заслужаная артыстка нашай краіны, чый талент захапляў не адно пакаленне гледачоў ТЮГа, аднойчы запрасіла нас з мужам на Дзень нараджэння Петруся Міхайлавіча, якое мы і адзначалі такім вось вузкім колам. І раптам у нейкі момант ён прапанаваў: "Зойдзем у мой кабінет, я табе нешта пакажу"… Зайшлі. І для мяне было нечаканасцю, калі Пятрусь Міхайлавіч раптам узяў у рукі балалайку і неяк вельмі па-заліхвацку пачаў на ёй іграць. Ды так умела!.. Вось такое было хобі, якое, мяркую, дэманстравалася не кожнаму. А вось да магутнай паэзіі Макаля можа прынікнуць кожны і абавязкова знойдзе там тыя радкі, якія захопяць, уразяць і, безумоўна ж, запомняцца.

Ёсць вельмі роўныя паэты, нібыта і не было ў іх перыяду вучнёўства. Пятрусь Макаль, напэўна, належыць да іх — вельмі яркі творца ўжо з першай кніжкі. Але многія і многія яго выдатныя лірычныя вершы, якія можна назваць школай добрых пачуццяў, як падножжа да вяршыні… А вяршыня гэтая, скажам, для мяне — у радках аднаго з вершаў: "Гісторыя — руплівая пастушка мізэрнасці і велічы людской". Мізэрнасць і веліч! Гэта ўжо глыбокая школа чалавеказнаўства. Чаго варты верш "Маналог сабакі", альбо тая ж "Ода горлу", ды і шмат іншых: "Песня заваднога салдаціка", "Скарга цвіка", "Прас", "Пудзіла", "Тапор"… На жаль, нічога з таго, што ўкладзена ў гэтыя вершы, не засталося ў мінулым стагоддзі, яно ўсё яшчэ з намі, — дробнае і мізэрнае, што трэба страсаць з сябе і адкідваць… Але ёсць у жыцця і другі полюс — чалавечая веліч. Учытайцеся ў радкі, прысвечаныя Янку Купалу: "Сумным плачам жалейкі прарэзаўся ты, боль народа — Купала… Дол і высь абручыліся з імем тваім, лёс народа — Купала… Мы нясём пакаленням наступным цябе, скарб народа — Купала". Ці радкі пра Салдата мінулай вайны ў вершы "Школа": "Будынка гмах, што тут узняўся ўвысь, на ўласныя прыняў гвардзееў плечы: на гэтым месцы ён упаў калісь, каб у падмурак будучыні легчы". Альбо прысвячэнне другому нашаму класіку — Цётцы:

*…Нас у сталасці, як і змаладу,*
*Выпрабоўвае лёс без літасці,*
*Не памерла я там ад голаду,*
*Не памрыце вы тут ад сытасці.*
*Я свячу вам далёкаю зоркаю —*
*У бязбоязнай праўдзе чэрпайце*
*Слоў гаючых пілюлі горкія*
*Ад бяздушнасці і ад чэрствасці…*

Некалькі дзесяцігоддзяў прайшло з моманту напісання гэтага верша, і вось ужо яго ўласная паэзія, як святло далёкай зоркі, што можа быць для новых пакаленняў школай добрых пачуццяў. Пра што і сам Пятрусь Макаль напісаў у адным з вершаў у кнізе "Поле": "…Наступнік мой — шчаслівы чалавек, я перадам табе не скарб, а смагу, якой хапіла б мне яшчэ на век". Смагу… Пякучае жаданне бачыць зямное чалавечае жыццё не ў мізэрнасці, а ў поўным яго харастве. І жыць… жыць гэтаю красою.





Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ "Залатая Ліцера"

## Слова краязнаўцы



**Людміла Рогач са Смаргоншчыны распавядае пра адметныя моманты гісторыі беларускай карчмы:**

— Немагчыма ўявіць старажытны беларускі горад, мястэчка, нават вёску без карчмы. Само слова "карчма" паходзіць ад слова "карэц" — коўш, якім зачэрпвалі спіртныя напоі. Так называлі і моцны спіртны напой, а яшчэ — само п'янства. Гэтыя ўстановы вядомыя славянам яшчэ з XI ст. Здаўна існавалі яны на беларускіх землях, але XVI стагоддзе стала перыядам актывізацыі іх дзейнасці. У часы, калі беларускія землі адышлі Расійскай імперыі, сфера карчмарства падпадае пад строгі кантроль: вызначаюцца жорсткія правілы адкрыцця піцейных устаноў, санітарныя нормы, патрабаванні да інтэр'еру і работнікаў.

На працягу ўсяго перыяду існавання карчма была асяродкамі грамадскага, эканамічнага, культурнага жыцця нашых продкаў. Корчмы звычайна стаялі пры дарогах, каля перавозаў, ля млыноў, бровараў, мастоў. У гарадах і мястэчках — пры гандлёвых плошчах. Так павялося, што нават кожная вёска мела сваю карчму. Падарожны пільна ўглядаўся ў цемру, ці гарыць дзе-небудзь карчомная лучынка. Часта гаспадар разводзіў вогнішча ля карчмы, каб яе было лягчэй прыкмеціць.

Корчмы падзяляліся на заезныя (накшталт гасцініц) і шынковыя (тыпу харчэўняў). Тагачаснае меню не было багатым. Піва, мёд, квас, гарэлка-сівуха — традыцыйныя напоі беларускай карчмы. Елі рэпу, капусту, бабовыя культуры, кашы (проса і грэчка), селядцы. Сацыяльны і нацыянальны склад наведвальнікаў надзвычай стракаты: заходзілі і баяры, і галота, і возніцы, і казакі, і царскія салдаты. Асабліва частыя госці — гандляры і люд вандроўны. Але ўладарамі корчмаў былі пераважна яўрэі. Звычайна карчму арандавалі ў багатага пана, бо шляхце закон забараняў займацца гандлем і мець у доме шынок.

Жыццё тут ішло бурлівае, мітуслівае, напоўненае таямніцамі і загадкамі. У карчме чалавек мог выгаварыцца, адвесці душу, як на споведзі, выказаць свае думкі, часам паспрачацца і зняць напружанне. Можна было патанчыць, паслухаць ігру музыкаў на скрыпачцы, цымбалах, дудзе. У карчме праходзілі і местачковыя сходы, судовыя пасяджэнні, тут выспявалі антыпрыгонніцкія ідэі. З гэтым будынкам заўсёды звязвалася дзейнасць нячыстай сілы, духаў, ведзьмакоў, таму карчма ахутана містыкай і цудамі.

У пачатку XX ст. дзейнасць корчмаў паступова згортваецца, ім на змену прыходзяць буфеты і сталовыя.

## Свята з гісторыяй

**Алена ЦІШЭЎСКАЯ**

Сёлета канцэртна-асветніцкае мерапрыемства для моладзі, прысвечанае Дню хрышчэння Русі, упершыню аб'яднала Кіеў, Маскву і Мінск. У 2006 годзе дзея адбылася ў Кіеве, дзе на Пеўчым полі выступілі вядомыя музыканты і грамадскія дзеячы. У 2009 годзе да Кіева далучылася Масква, а ў гэтым годзе — Мінск. На думку арганізатараў, агульны канцэрт павінен нагадаць пра духоўную блізказць трох краін, бо ідэя дабра і міру, багатая сістэма духоўных каштоўнасцей аднолькава блізкая для ўсіх людзей.

Так, на Паклоннай гары ў Маскве моладзь вітала гурты "Воскресенье", "UMA2RMAN", "ДДТ", а Кіеў наведала Алена Ваенга.

## Музейны ўнікат

# І для люду, і для панства

**Журботная мелодыя ліецца ў паветры. Старац прамёрзлымі рукамі трымае інструмент кшталту скрыпкі. Націскае на клавішы, варочае ручкай — і нараджаецца музыка. Здаецца, што не дзіўны інструмент так спявае, а жабрак у лахманах жаліцца на свой няшчасны лёс… А вось гжэчны пан стаіць перад вялікім люстэркам. Разглядае свой прыгожы ўбор, які служкі доўга на яго апраналі. Але пояс ён ім не даў завязаць — не халопавых рук справа. Шыкоўны слуцкі пояс павязвае толькі сам пан…**
**Ліра была багаццем для жабрака, а пояс — для пана. Ліра належала і старым, і малым. Пояс — толькі свайму пану. Так было раней. Цяпер колавая ліра — такі ж скарб Мінскага абласнога краязнаўчага музея, што ў Маладзечне, як і слуцкі пояс.**

**Алена ЦІШЭЎСКАЯ, фота аўтара**

Колавая ліра — струнны смычковы інструмент, па форме падобны да скрыпкі. Ролю смыка ў ёй выконвае кола. Большасць колавых лір мае некалькі бурдонных струн (ад 3 да 8), што даюць асноўны тон у час ігры. Колавая ліра часта выкарыстоўваецца разам з дудой ці замест яе, напрыклад, у французскай і венгерскай фольк-музыцы. Каб атрымаць мелодыю, у ліры ёсць і шэраг клавіш (ад 8 да 11), якія зацiскаюць дадатковыя струны. У X — XIII стст. колавая ліра была вялізным інструментам, які меў назву арганіструм. На ім ігралі два чалавекі: адзін круціў кола, другі цягнуў за клавішы. На арганіструме выконвалася толькі павольная, пераважна царкоўная музыка. Пазней арганіструм стаў меншым па памеры, што дазволіла выконваць песні аднаму музыку.

У Беларусі колавая ліра з'явілася ў XVII ст., але шырокае распаўсюджанне набыла ў XIX ст. Беларускія лірнікі былі асаблівай групай прафесійных старцаў — вандроўных спевакоў, якія выконвалі духоўна-рэлігійныя вершы. Іх спевы прыносілі вясковаму насельніцтву духоўную і эстэтычную асалоду, само ж рамяство спевакоў лічылася пачэсным заняткам. З гэтай прычыны лірніцкая традыцыя пусціла глыбокія карані ў народнай культуры. Але ўжо ў 1930-я гг. сустрэць лірніка было амаль немагчыма — кіраўніцтвам дзяржавы яны былі прызнаныя непажаданым сацыяльным элементам і масава знішчаныя. Цяпер цікавасць да колавай ліры пачынае адраджацца. Дарэчы, упершыню на сцэне ліра з'явілася ў "Песнярох". У замежнай музыцы колавую ліру можна пачуць у некаторых кампазіцыях гуртоў In Extremo, Metallica.

Ліра, што захоўваецца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі, датуецца канцом XIX ст. і з'яўляецца найстарэйшай колавай лірай у Беларусі. У фонд музея яна трапіла ў 1969 годзе з Любанскага музея народнай славы. Майстар, які выканаў ліру, невядомы. Але адразу бачна, што папрацаваў ён шчыра — час амаль не пашкодзіў інструмент, захаваліся нават 4 струны. Гэтая ліра мае 10 клавіш, яны таксама знаходзяцца ў добрым стане. Здаецца, замяніць струны, пачысціць кола — і ажыве музейны экспанат, заспявае сумныя песні-жальбы…

А вось слуцкаму поясу, што таксама захоўваецца ў музеі, пашчасціла менш. Рэстаўратары літаральна "сабралі" яго па кавалачках: ён сшыты з 9 частак. Адзін з канцоў і бахрама страчаны. Выраблены пояс быў у 60—70-х гг. XVIII ст. на Слуцкай мануфактуры — пра гэта сведчыць метка "SŁUCK" на канцы пояса. У музей пояс паступіў у 1968 годзе з тагачаснага Дзяржаўнага гістарычнага музея, куды ў сваю чаргу трапіў з калекцыі купца Пятра Шчукіна.



Справа ў тым, што купец Пятро Шчукін вельмі цікавіўся ўсходнімі рэчамі. Аднойчы, шпацыруючы паміж шэрагаў Ніжагародскага кірмашу, ён заўважыў тканіны дзіўнай работы і вырашыў, што яны турэцкія. Таму і набыў. Цяпер у Нацыянальным гістарычным музеі захоўваецца 80 цэлых і 60 фрагментаў слуцкіх паясоў. Усе яны раней належалі Шчукіну, а пасля яго смерці па спадчыне перайшлі музею.

Пояс з музея ў Маладзечне, нягледзячы на шматлікія "траўмы", выглядае сапраўды шыкоўна! Перш за ўсё дзякуючы багатай каляровай гаме — тут ёсць ружовы, блакітны, светла-зялёны, сіні, малінавы, жоўта-залацісты, карычневы колеры. А калі прыгледзецца, можна ўбачыць залатыя і срэбныя ніці, з якіх пояс сатканы.

***На здымку: колавая ліра (канец XIX ст.) з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея.***

## Беларускія прыватныя гербы

# Знакі годнасці і гонару



*Герб "Газдава" зменены*



*Герб "Масальскі" зменены*



*Герб "Нячай"*

### Герб «Газдава» зменены

Гербакарыстальнік: Крупэк-Казакоўскі.

### Герб «Масальскі» зменены

Гербакарыстальнік: Відмалт.

### Герб «Нячай»

Гербакарыстальнік: Анікевіч.

### Герб «Лада» зменены

Гербакарыстальнікі: Гронскі, Лапінскі.

### Герб «Анцута» зменены

Гербакарыстальнік: Спірыдовіч.

### Герб «Прус III» зменены

Гербакарыстальнік: Шавярдкевіч-Кавалеўскі.

**Вядучы рубрыкі — Уладзімір Крукоўскі**



*Герб "Лада" зменены*



*Герб "Анцута" зменены*



*Герб "Прус III" зменены*

Максім ЖАЛЕЗІНКА

# Срэбны ражок узлез на стажок

**Ёсць у Пухавіцкім раёне невялікая вёсачка — Раўчак. Знаёмая і мне з дзяцінства. Калісьці збіраў тут грыбы. Поруч з паселішчам у 1960 — 80-я гады заўсёды лёталі вайскоўцы з Мар'інай Горкі. У бліжнім лясочку — дзве танкавыя гары, дзе вайскоўцы выпрабоўвалі сваё майстэрства, выконвалі практыкаванні на тэхніцы. Ваколіцы заўсёды былі перасечаныя акопамі, траншэямі, лініямі сувязі… І тады, у маленстве, я мала задумваўся пра характар людзей, якія жывуць у Раўчаку, зусім не ведаў, што ёсць там цікавыя песенніцы. І дарэмна… На шчасце, лёс падараваў сустрэчы з адным чалавекам, які аказаўся больш уважлівым.**

Але ж пра ўсё па парадку. Раўчак — паселішча, якое, як і мая родная Зацітава Слабада, належыць да Пухавіцкага сельсавета. У 1930-я тут быў і асобны калгас "Ураджайны край". Пасля раўчацкая палявая брыгада далучылася да калгаса імя Чапаева з цэнтральнай сядзібай у вёсцы Зацітава Слабада. Затым — яшчэ адно аб'яднанне, ужо ў СВК "Пухавічы" (пэўны час нават разам з Пухавіцкай ПВС) з цэнтральнай сядзібай у вёсцы Пухавічы. Працавала ў Раўчаку Навапольская пачатковая школа (па назве суседняй вёсачкі Наваполле), якую зачынілі ў 1971 годзе. Чаму школа называлася Навапольскай?.. Бліжэй да Зацітавай Слабады, калі ісці да колішняй цэнтральнай сядзібы калгаса імя Чапаева, знаходзілася вёсачка Наваполле. Зусім маленечкая, у некалькі хат. Але ж вось і школа там была…

Але, мяркую, цікавымі будуць сведчанні пра пабыт, фальклор насельнікаў Раўчака, якімі з намі дзяліцца ўраджэнец вёскі Станіслаў Крэпскі. Выпускнік філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, падпалкоўнік запаса, ён доўгі час служыў ва ўнутраных войсках МУС, цяпер працуе ў адным з мінскіх каледжаў. Слова — Станіславу Крэпскаму:

— Яшчэ студэнтам філалагічнага факультэта на фальклорнай практыцы, кіраўніком якой у мяне быў Ніл Гілевіч, я запісаў песні, паданні, прыказкі, прымаўкі і нават адну казку маіх землякоў. На шчасце, гэтыя паперы захаваліся — ажно з 1967 года! Захавалася не ўсё, а хутчэй — тое, што я не аддаў ва ўніверсітэт, магчыма, пабаяўся, зыходзячы са зместу запісанага. Памятаю, што было і такое, пра што цяпер і шкадую. Песні-балады Зоні Гуткоўскай, якая даводзілася цешчай майму стрыечнаму дзеду Адасю Луцэвічу, я паленаваўся запісваць. А яна ж ведала іх вельмі шмат, неверагодна шмат! Былі ў яе рэпертуары песні гукання вясны, пасяўныя, песні на касавіцу, жніўныя, асеннія, зімнія, вясельныя. Мне здаецца, што добрую іх частку яна сама і прыдумвала. Яна, зразумела, нічога не запісвала, а ўсё трымала ў памяці.

Прывядзём некаторыя запісы Станіслава Крэпскага, зробленыя ў Раўчаку.

З вясельных песень (відаць, частка агульнага вясельнага абраду):

*Прыехаў на заручыны*
*Конік дарогай змучаны,*
*Бо дарожанька далёкай была,*
*Покуль да Ганулечкі прыехаў.*
*Выхадзі, Ганулечка, выхадзі:*
*Адчыні дзверайчкі, пагляндзі,*
*Ці харошы хлопчык ідзе,*
*За сабой сваточкаў вядзе.*

*Ой як ясны месячык пры зары,*
*Ды харошы хлопчык на двары.*
*Я сватоў, мамачка, прывячу*
*Замуж за Ясіка я хачу.*

Са жніўных песень:

*Ведзьма па полі лятала,*
*У жыцейку куды вязала,*
*У жыцейку куды вязала,*
*Бяду-гора наклікала.*

*Як я маладзіца*
*Востры серпейка вазьму,*
*Кудлы ведзьміны абыйду,*
*Кудлы ведзьміны не зачаплю.*

*А як прыйдзе мой татка,*
*Агнём кудля спаліць,*
*Бяду-ведзьму з поля згоніць.*

А яшчэ ж прыказкі:

*Хітры гаспадар не тужыць, бо і з воўкам дружыць.*

*Ва ўдавы-суседкі смачныя і аб'едкі.*

*Уцякла выдра, а лісу хвост выдаў.*

*З самага рання паліласся баня, без нагляду курэла, а к вечару згарэла.*

*Паехаў Ян у сне за акіян, а як прачнуўся — дамоў вярнуўся.*

*Летам Ганка гнула спінку, а зімою ела шынку.*

*Салавей — не сарока, бярэ нізка і высока.*

*Каго летам цень халодзіць, той зімку босы ходзіць.*

Вельмі цікавымі падаюцца загадкі, запісаныя Станіславам Крэпскім:

*Срэбны ражок узлез на стажок (Маладзік).*

*Калі злосці поўныя косці, дык ён масты мосціць (Мароз).*

*Ляціць без крылаў, раве без рыка (Вецер).*

*Зверху неба, знізу неба, я па ім у чаўне еду (Возера).*

*Ваду бачыць, а піць просіць (Кнігаўка).*

*Прабег праз лес, мордай у торбу ўлез (Конь ессць авёс).*

*Сярдзіты Мірон пусціў у дрэва агонь (Пярун).*

*Хто ўночы ў клубок звіўся, ды ў неба ўзвіўся (Дым).*

*З барадой, ды не дзед, а з рагамі, ды не карова. Сядзіць Ігнат сярод град, кафтан чырвоны, хахол зялёны (Бурак).*

*Хто на носе чарпак носіць? (Жураўель над калодзежам).*

Што да іншых літаратурна-мастацкіх памятак гэтай старонкі, то ў 1970-я наведваў Раўчак пісьменнік Анатоль Бутэвіч, аўтар многіх кніг, адрасаваных, як правіла, юнаму чытачу, гістарычнага рамана "Каралева не здраджвала каралю", перакладчык на беларускую мову твораў вядомага польскага пісьменніка-фантаста Станіслава Лема. Прыязджаў Анатоль Бутэвіч і на вяселле ў Раўчак. Мо з часам нешта і Анатоль Іванавіч напіша пра невялікую лясную вёсачку.




**Два фестывальныя дні, больш як 400 удзельнікаў з Беларусі і Расіі, безліч відовішчаў на любы густ. Адным словам, "Рыцарскі фэст. Мсціслаў-2011" адбыўся.**

Першы дзень фестывалю пачаўся з малебну ў Кафедральным саборы Аляксандра Неўскага і Кармеліцкім касцёле ў гонар воінаў-мсціслаўцаў, якія загінулі за Айчыну на Грунвальдскім полі. У цэнтры горада прайшло тэатралізаванае шэсце прадстаўнікоў рыцарскіх клубаў на чале з гістарычнымі асобамі: Пятром Мсціслаўцам, князем Расціслававічам, княгіняй Анастасіяй Слуцкай і Сцяпанам Палубесам. Падчас фэсту адбылася навукова-практычная канферэнцыя па гісторыі Мсціслава, удзельнікі якой пісьменнік Алег Ждан і прафесар, доктар гістарычных навук Ігар Марзалюк распавялі слухачам шмат фактаў з гісторыі горада, а таксама выказалі заклапочанасць захаваннем гістарычнай спадчыны.

Праграма рыцарскага свята сталася больш разнастайнай і цікавай у параўнанні з мінулым годам. Тут можна было пакаштаваць стравы сярэднявечнай кухні, паўдзельнічаць у экскурсіях па старых мясцінах: Кармеліцкім касцёле, Пустынскім Успенскім манастыры, калегіуме Езуіцкага манастыра. Традыцыйна працавалі гандлёвыя кропкі ў "Горадзе майстроў".

Асноўныя падзеі свята разгарнуліся на Замкавай гары. У гледачоў была магчымасць адчуць дух сярэднявечча і зазірнуць ва ўнутраны быт рыцараў: шатры, сцягі, харугвы, гліняны посуд… Але ж самым яскравым відовішчам сталі турніры, удзел у якіх прымалі як беларускія, так і расійскія рыцарскія клубы. Турнір лучнікаў, мечнікаў, бугурты "Захоп караля", "Штурм маста", "Да апошняга, хто стаіць на нагах", упершыню на фэсце ў Мсціславе прайшоў і конны турнір.

Музычную частку фестывалю ствараў гурт старажытнай музыкі "Стары Ольса", а танцавальную — калектывы сярэднявечных танцаў "Яварына" і "Фламея".

**Яўгенія АЛЕФРЫЕНКА, фота аўтара**

***На здымку: удзельнік фэсту падчас аднаго з турніраў.***

Уладзімір СОДАЛЬ

# Ад Мормаля да Горваля

Цэлы дзень корпаўся ў сваіх паперах. Дзесь гадзіне а чацвёртай закарцела зазірнуць у Нацыянальную бібліятэку Беларусі. Балазе, яна ад майго дому праз дарогу. І найперш зазірнуў у газетны аддзел. А там якраз хтосьці, вельмі падобны да Уладзі Ліпскага, штосьь разам з бібліятэкаркай завіхаўся ля ксеракса. Ён першы да мяне памкнуўся. Тады я ўжо, каб канчаткова пераканацца, кажу запытальна:

— Уладзя Ліпскі?

— Ён, ён! — чую сцвярджальна-радаснае.

— Дык я ж, — кажу, — шукаю цябе, Уладзя, думаю пра цябе ўжо які месяц, каб сцвердзіць, што мы з табой параднёныя. Цябе, найперш, вучыла мая цётачка. Ці не так? Ці ты памятаеш яе імя? Мы з ёй аднаго прозвішча. Ці прыгадваеш?

— Так, мяне ў Вузнажскай школе вучыла Марыя Паўлаўна Содаль. Дык гэта твая цётачка?

— Так, — кажу я. — Гэта родная сястра майго таты. І ўсе яны — Содалі, Содзелі, як і ты, з Шоўкавічаў, з тваіх родных Шоўкавічаў. Там мой дзядуля ў маладыя гады леснікаваў...

— Гм... Дзе ж там была твая леснічоўка? — разважае Уладзя. — Ці не ў Федароўцы?



— Можа, і ў Федароўцы, — гуду я, — пра Федароўку я нешта чуў. У згадках Содаляў калі-нікалі гучаў гэты назоў. Але найбольш, найчасцей згадвалі Шоўкавічы. У дзеда Паўла было дзевяцёра дзяцей: тры сыны — Федзя, Пятро, Ілья і шэсць дачок: старэйшая Даша, Дуня, Насця, Шура, Маруся, Марта. Усе яны нарадзіліся ў Шоўкавічах.

Уладзя Ліпскі запісвае ўсіх маіх цётачак паіменна і кажа:

— Гэтымі днямі патэлефаную сваёй сястры Клаве. Яна ў Калінкавічах жыве. Ёй восемдзесят чатыры гады. Можа, ёй што помніцца пра Содаляў.

Але на гэтым наша гутарка з Уладзем Ліпскім не завяршаецца. Доўжу свой расповед:

— Дык вось. Дзесь у канцы дваццатых — пачатку трыццатых гадоў мой дзядуля ў Шоўкавічах збіў капітальчык і наважыўся будавацца. І дзе б вы думалі? У нашым Мормалі, пры чыгунцы, на пагорку. Гэта за Бярэзінаю, за Шацілкамі. Аблюбаваў у тым Мормалі пры рачулцы пагорак. Пагорак той называўся метафарычна — Жырвонак. Напачатку там збудаваў жытло з пераплаўленага праз Бярэзіну шоўкавіцкага лесу, а затым узяўся за млын-паравік. Але нядоўга ён пакарыстаўся сваім набыткам. Неўзабаве пачаліся калектывізацыя, нэп, пасля канфіскацыя, пераслед дзядулевай сям'і. Лёс параскідаў яе па ўсім свеце. А сам дзядуля прыгадаў свае Шоўкавічы, шоўкавіцкія лясы і дубравы і, каб пазбегнуць пераследу, таемна прабіўся з Мормаля ў шоўкавіцкія пушчы, дзе ён ведаў усе патаемныя закуткі. Колькі ён там пратуляўся, мне невядома і няма ўжо каму распавесці. Але ведама, што туляючыся па шоўкавіцкіх лясах, ён моцна застудзіўся, і яго ўсяго пабіла на свішчы. Гэта мусіла яго з Шоўкавічаў вярнуцца ў Мормаль да сына. Знясіленага і хворага, яго ўжо не чапала ўлада. Дазволіла ціха сканаць...

Калі я пачаў расповед пра дзядулева тулянне па шоўкавіцкіх лясах, Уладзя Ліпскі не стрымаўся і пачаў мне апісваць тамтэйшыя лясы.

— Адны дубровы. Колькі там дубоў было і ёсць! А якія там сосны былі! Адна ў адну, смалістыя. Нядзіва, што твой дзядуля збудаваў у Мормалі дамок з шоўкавіцкага лесу. А гэта ж не так ужо і блізка! Дзе Шоўкавічы, а дзе Мормаль! У маёй метрыцы запісана, што я нарадзіўся ў Шоўкавічах. А папраўдзе, я нарадзіўся ў Горвалі. Там была лякарня.

Уладзя Ліпскі нарадзіўся пятага мая 1940 года. Нарадзіўся, як ён сам сказаў, у Горвалі. Назоў Горваль вядомы і мне, мормальцу, з малых гадоў. Аднаго разу быў сведкам такога дыялогу. Колісь сена дзялілі на пайкі. Дык от адзін у аднаго пытаецца:

— А ці вялікай пайкай цябе надзялілі?

— Вялікай! Ад Мормаля да Горваля, — кажа другі.

І пра што мы толькі не загаворым з Уладзем Ліпскім, у нас усё ў сутучча, суладна. Мы і менталітэтам з Уладзем Ліпскім блізкія. Абодва лагодна чуйныя да ўсіх праяў жыцця.

***На здымку: Уладзімір Ліпскі і Уладзімір Содаль.***

# Паэзія




* * *

*Світае…*
*Хутка дзень…*
*Глядзіць*
*Ружовы позірк небакраю…*
*Ён ні хвіліны не чакае —*
*Спяшае ранне пабудзіць…*
*Так, хутка дзень…*
*Ужо світае…*

## Каханне

*За дзверы — хутка…*
*Да цябе…*
*Ключы і словы —*
*Забываю…*
*Пароль адвечны —*
*Так ці не? —*
*Як заклінанне паўтараю…*
*Блукаю… Доўга… Не паспець…*
*Ну, вось і ты... Мяне шукаеш…*
*З табой... Адным… Хачу… Ляцець…*
*Кахаю я…*
*І ты… кахаеш…*

* * *

*Ступаю крок у восень, нібы ў сон,*
*Бягуць насустрач Перуна раскаты,*
*І час ад часу па-над роднай хатай*
*Раскрые неба зорны парасон.*

*І дождж з вакном наладзіць перазвон,*
*Ускінуўшы за хмары свае шаты,*
*І бусел белы, мой сабрат цыбаты,*
*Апошнім разам адаб’е паклон.*

*Плот абвіла каля дзвярэй лаза,*
*Стаіць рашэтнік, падмачыўшы коп’е...*
*А час паставіць за мяне шматкроп’е,*
*Пакуль я з ім — на вастрыі ляза.*

* * *

*Вецер за вокнамі след замятае,*
*Лістоту рудую нясе са двара.*
*У німбе святочным, быццам святая —*
*Чаканая восень — паэтаў пара.*

* * *

*Смугою нябачнай, ад вільгаці волкай*
*Прашыта прастора, нібыта іголкай.*
*Высокія ў небе з’яднаны арбіты,*
*І я да прасторы, як гузік, прышыты.*

* * *

*Хоць шчасце, кажуць, цяжка адшукаць:*
*Яно падчас яднаецца з нудою.*
*Ды ці не шчасце — вербы над ракою,*
*Зялёны лес і ўвосень сенажаць?*

*І ці не шчасце бачыць краявід:*
*Знаёмы плот і сцежку каля дома?..*
*Каму такое шчасце незнаёма,*
*Той сэрцам і душою інвалід.*

* * *

*Я плыву ўсё далей… без аглядкі*
*Да імглістай прыстані сваёй.*
*А хвіліны пляскаюць у ладкі,*
*Новаю мільгаюць паласой.*

*Ў гэтым свеце я нікім не гнаны,*
*Хоць і незайздросны быў мой лёс…*
*Бы сабака, залізаўшы раны,*
*Невядомы кліча мяне плёс.*

*Вецер абдымаецца там з кручай,*
*Я пайду да рэчкі — на адхон.*
*Закалыша хай вадой гаючай,*
*Мае думкі забярэ ў палон.*

* * *

*Плаціць любоўю за любоў —*
*ці ж гэта нова?..*
*Прыйшла ты ў межы*
*маіх сноў невыпадкова.*
*Не выпадковаю была з табой сустрэча,*
*І светлы ранак, і лагодны цёплы вечар.*

*Цянёты памяці ад нас журбу хавалі,*
*А мы стаялі і людзей не заўважалі.*
*Як тыя прывіды, што,*
*прагнучы спаткання,*
*Змяніць гатовыя былі наканаванне.*

*Прыйшла ты ў межы*
*маіх сноў — ну што такога?..*
*Ды дзве сцяжынкі аб’ядналіся ў дарогу.*
*А ноч прайшла, не абазвалася і словам.*
*І ранкам скончыўся мой сон…*
*Ці выпадкова?..*

## Трыялет

*Сярод аблічча ў і выяў*
*Шукаў вачыма прагна тую,*
*Амаль багіню ці святую…*
*Сярод аблічча ў і выяў.*
*Я многае ў жыцці спазнаў,*
*Ды ўспамін благі катую,*
*Шукаю я вачыма Тую*
*Сярод аблічча ў і выяў.*



Фота Паўла Сапоцькі




* * *

*Час каменні пазбіраць,*
*Не раскідваючы болей,*
*І фундаменты пара*
*Пазакладваць нам з любоўю.*

*Брукаванкаю яны*
*Могуць класціся пад ногі.*
*Ў лазні ім няма цаны,*
*Што ратуе ад знямогі.*

*Час каменні пазбіраць —*
*Не хапаць з нябёсаў зоркі, —*
*Дзецям даць урок дабра,*
*Каб не зналі долі горкай.*

*Лепей поле засяваць, —*
*Каб радзіла нам на шчасце, —*
*Час каменні пазбіраць, —*
*Іх за пазуху не класці…*

## Малітва мамы

*Ў акно глядзела, як на ікону,*
*Дзе зоркі ў небе — святых вачамі,*
*Й шаптала мама малітву, помню,*
*Калі прасіцца на свет пачаў я…*

*І захварэўшы ў дзяцінстве, чую,*
*Як шчыра шэпча малітву мама —*
*І ўжо з пасцелі ўставаць хачу я.*
*Гасподзь малітву пачуў таксама…*

*А як збірала мяне ў дарогу,*
*Мне хлеб астатні дала з сабою,*
*Перажагнала мяне і доўга*
*Глядзела мама мне ўслед з мальбою…*

*Спяшаць імгненні, бягуць няспынна…*
*І ўжо за зорным дажджом, туманам*
*У Бога просіць матуля сыну*
*Паслаць хоць трохі нябеснай манны…*

*Каб не прыйшлося быць жалю вартым,*
*Праз перашкоды імкнуся ўпарта…*
*Дасць Бог міну я — малітвай мамы —*
*Сілкі, капканы і воўчыя ямы…*

## Эмілія Плятэр

*Дзе сонца малую яе цалавала,*
*Дзе кветкі й народныя песні збірала,*
*Дзе танцы народа свайго танцавала,*
*Дзе слодыч і горыч кахання спазнала,*

*Успыхнулі, быццам паходні, каліны,*
*І бачыць нябёсам без слёз немагчыма:*
*Свой люд падымае на бітву дзяўчына,*
*Каб больш не таптаў вораг роднай краіны.*

*Гаворыць: “Ад волі і нашай залежыць,*
*Ці будзе ў нас зноў панаваць Незалежнасць!”*
*За ўласныя грошы набыўшы ім зброю,*
*Паўстанцаў, ёй верных, вядзе за сабою…*

*…Крывёю іх шчодра зямелька паліта,*
*Таму гэтак добра і родзіць тут жыта.*
*Ды горка рабінам на мілай радзіме,*
*Дзе легла касцьмі прыгажуня графіня.*

*Тут вольныя зараз вятрыскі гуляюць —*
*Каліны ў паклоне галовы схіляюць.*
*І неба запальвае свечкі не ў скрусе:*
*Свая Жанна д’Арк ёсць і на Беларусі!*

## Наш масток

*Дзе бруіцца мой выток*
*І такі ж выток твой светлы,*
*Ёсць рачулка і масток*
*У куточку запаветным.*

*Дзе не раз душа мая*
*Замірала ад кахання,*
*Дзе спачатку ў марах я*
*Прызначаў табе спатканне:*

*“Ты прыходзь на наш масток,*
*Зноў ён будзе хваляваццa.*
*Ты прыходзь на наш масток*
*Хуткай плынню любаваццa.*

*Ты прыходзь на наш масток*
*Пад калінавай зарою.*
*Ты прыходзь на наш масток,*
*Шчасце ўжо не за гарою…”*

*Ёсць на свеце наш масток,*
*Што ратуе ад адчаю.*
*Быццам захад і усход,*
*Лёсы ён сабой злучае.*

*Рыпне радасна масток,*
*Як малых, нас пакалыша.*
*Ля яго лужок, лясок*
*Нас прывецяць, як калісьці.*

*“Ты прыходзь на наш масток, —*
*Зноў ён будзе хваляваццa.*
*Ты прыходзь на наш масток*
*Хорам птаства захапляцца.*

*Ты прыходзь на наш масток*
*Пад рабінавай зарою.*
*Ты прыходзь на наш масток*
*Хоць у сне цяпер парою…”*

*У журбе ў чужых краях*
*Ля мастоў падчас вялікіх*
*Наш масток убачу я —*
*Да сябе ён стане клікаць.*

*Дзе не раз душа мая*
*Замірала ад кахання,*
*Дзе спачатку ў марах я*
*Прызначаў табе спатканне:*

*“Ты прыходзь на наш масток…”*




З Таццянай Атрошанкай я напачатку пазнаёміўся завочна — мне паказалі яе зборнік вершаў “Не я...”, што выйшаў у выдавецтве “Кнігазбор”. Нарадзілася Таццяна 17 ліпеня 1976 года ў пасёлку Вялікі Мох Буда-Кашалёўскага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Ф. Скарыны. Падчас вучобы надрукавала ў газеце “Гомельскі ўніверсітэт” першы верш “Маладосць мая”. Многія вершы Таццяны пакладзеныя на музыку, у тым ліку і такімі вядомымі кампазітарамі, як Л. Захлеўны, У. Сарокін, А. Атрашкевіч.

Анатоль ЗЭКАЎ

## Паэзія

*Заглянула ў маю душу —*
*І самоты маёй не стала…*
*Ты іграй і іграй, прашу,*
*На збавення майго цымбалах…*
*Няхай сэрца маё дрыжыць*
*І табе падпявае ўпотай.*
*Кажуць струны, што трэба жыць,*
*Калі чуеш ласкавы дотык…*

## Крокі

*Крокі…*
*Адзін за адным…*
*Ля дома майго,*
*За домам маім —*
*Лёгкія крокі*
*Гучаць недалёка…*
*Крокі*
*Не могуць маўчаць —*
*Нібыта крычаць*
*У горкім адчаі,*
*Што пульс не змяшчае —*
*Забыць і не знаць…*
*Крокі…*
*Адзін за адным…*
*Ад сэрца да сэрца —*
*Ці сон, ці здаецца?*
*Імгненне смяецца:*
*Каханне ці дым?*

* * *

*Чаму птушкі імкнуць у аблокі?*
*Не стрымаць іх ніякай сілай…*
*Як той птах, трапяткі і лёгкі,*
*Я хачу безнадзейна ў вырай…*
*Не стрымаць іх ніякай сілай,*
*Калі вабіць палёту слодыч,*
*Я хачу безнадзейна ў вырай,*
*Каб з табой быць заўсёды побач…*

## Адцвітае вясна

*Адцвітае вясна,*
*Сыпле ў вочы чаромхавы снег,*
*Дзьме-гуляе за вокнамі*
*Бэзавы сонечны вецер…*
*Адцвітае вясна,*
*Зноў спыніўся гадзінніка бег,*
*Ён спяшаўся, а тут —*
*Заблудзіў у вясновых суквецця х…*
*Адцвітае вясна —*
*Ціха-ціха пялёсткі шасцяць,*
*Ды з самотай маёй ціха шэпчуць,*
*Спяваюць дуэтам…*
*Адцвітае вясна…*
*Яна будзе датуль адцвітаць,*
*Покуль сэрца сваё не саграэ,*
*Сустрэўшыся з летам…*

## Дождж

*Сумуе дождж, і кропель пошчак*
*Крыху праспешвае хаду…*
*Сцякаюць кроплі, плача ноч,*
*Змяшаўшы зоры і ваду…*
*Ён крышыць ціхія хвіліны,*
*У наваколлі — сумны звон…*
*Сцякае дождж з душы маўклівай,*
*Змывае ледзь улоўны сон…*
*Сумуе дождж — не можа выткаць*
*Ён зараз сонца прамяні,*
*І, нарадзіўшыся ў нябёсах,*
*Ён памірае на зямлі…*

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара

# Гандлёвыя інавацыі Брэста

**У цэнтры горада Брэста, побач з кніжным магазінам “Іскра” ААТ “Белкніга”, размешчаны яшчэ тры крамы — “Планета” (вул. Пушкінская, 1), “Сябрына” (вул. К. Маркса, 21) і “Прэса” (вул. А. Міцкевіча, 17). Яны працуюць у сістэме “Брэстаблсаюздрук”. Здавалася б, што тут дзіўнага — вялікія крамы са свежымі газетамі і часопісамі ў цэнтры горада. Але не ўсё так проста. Побач з перыядычнымі выданнямі тут — кнігі (і не толькі танныя брашуры, але і каштоўныя падарункавыя выданні). Зайшоўшы ў такую краму, пакупнік мае магчымасць не толькі пасядзець за столікам ці на канапе і пачытаць кнігу ці газету, але і выпіць кавы — усяго за 1500 рублёў. Не ўсе сталічныя кнігарні могуць пахваліцца такім узроўнем сэрвісу, ды і асартымент кніг тут досыць вялікі. Каб высветліць адметнасці працы “Брэстаблсаюздруку” ў галіне продажу кніг, варта зазірнуць у крамы і наведаць некаторыя павільёны.**

### 15 год пашыраных продажаў

З самага пачатку свайго існавання “Брэстаблсаюздрук” займаўся гандлем кнігамі — а гэта ўжо больш як 90 год. Але ў закрытым кіёску размясціць вялікую колькасць выданняў досыць праблематычна, ды і скіравана дзейнасць кіёскаў больш на імпульсныя пакупкі. Таму асартымент кніг тут быў адпаведны — дэтэктывы, любоўная літаратура, танныя кнігі для дзяцей.

Аднак у 1996 годзе ўсё змянілася — кіраўніцтва прыняло рашэнне нарошчваць абарот менавіта ў кніжных магазінах. Спачатку зрабілі капітальны рамонт у “Планеце”, набылі паліцы-“кубы”, што дало магчымасць адвесці больш месца для кніг. Тады ж і продаж газет перайшоў у фармат самаабслугоўвання (дарэчы, таваразварот адразу павялічыўся ўдвая). Тое самае адбылося і з кнігамі: пакупнікі іх таксама сталі выбіраць самі, і аб'ёмы продажу пайшлі ўверх. Тое, што крама “Планета” размешчана каля корпуса БрДУ імя А. Пушкіна, садзейнічала павелічэнню продажаў, фарміравала асартымент і навуковы ўзровень літаратуры, што павінна быць у наяўнасці. “Да нас людзі прыходзяць не проста за кнігай, а за пэўным выданнем, — распавядаюць прадаўцы “Планеты”. — І гэта не танныя брашуркі, а каштоўныя, досыць дарагія кнігі”.

Самая старая крама сеткі — “Прэса”, гэта першы магазін “Брэстаблсаюздруку”, традыцыйны па сваёй сутнасці. Ён невялікі па плошчы, але штодзень мае вялікую колькасць наведвальнікаў, таму і ўзровень продажаў заўсёды на вышыні. Крама “Сябрына” — самая маладая, ёй не так даўно споўнілася 3 гады. “Нам першапачаткова было вельмі складана раскруціць “Сябрыну”, але менавіта кнігі дапамаглі, — гаворыць Ала Бахарава, намеснік начальніка аддзела арганізацыі гандлю “Брэстаблсаюздрук”. — Спачатку прывабілі пакупнікоў таннай кнігай, за імі прыйшлі іншыя кліенты”.

Часта кнігарні наведваюць і замежныя турысты. І, як адзначаюць прадаўцы, цяпер іх стала намнога больш. Расіяне, палякі, ды і госці з іншых дзяржаў, у дадатак да звыклага магніціка на халадзільнік як сувенір бяруць газету, кнігу ці буклет пра Брэст на беларускай мове.

### Творы нашых землякоў

У кожнай з кнігарняў “Брэстаблсаюздруку” прысутнічае беларускі куток. На паліцах з надпісам “Беларусь у маім сэрцы” — краязнаўчая літаратура, альбомы. Міні-аддзел “Кнігі нашых землякоў” дапамажа знайсці выданні аўтараў-ураджэнцаў Берасцейшчыны (дарэчы, тут былі і кнігі з аўтографамі аўтара — некалькі асобнікаў зборніка “Новы дзень”, падпісаныя Георгіем Тамашэвічам, прадаліся надзвычай хутка).

— Радуе, што выходзіць усё больш і больш кніг на беларускай мове, ёй удзяляецца больш увагі з боку пакупнікоў, але і кліенты ў сваю чаргу становяцца надзвычай патрабавальнымі. Аднойчы малады бацька нават скаргу хацеў напісаць, што ў нас няма беларускамоўных размалёвак, — распавяляла Ала Бахарава. — Мы актыўна супрацоўнічаем з беларускімі выдавецтвамі: “Беларусь”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”, “Мастацкая літаратура”, “Современная школа”, “Знание”, “Харвест”, Брэсцкай друкарняй. Добра, што цяпер айчынныя выдавецтвы прапануюць багаты асартымент як мастацкай, так і спецыяльнай літаратуры. Год пяць таму ўсё выглядала менш паспяхова. У сувязі з абставінамі, што склаліся ў эканоміцы краіны, маем праблемы з пастаўкамі танных кніг з Масквы.



Але ад гандлю кнігамі адмаўляцца не збіраемся ні ў якім разе: маем ужо шмат сталых кліентаў, якія цікавяцца кнігай.

### Кавярня і выстаўка — разам

Выстаўка-продаж кніг па даступных цэнах працуе ў канферэнц-зале “Сябрыны” з сакавіка 2010 года. Першапачаткова асартымент прадукцыі тут быў больш шырокі, асноўнай мэтай выстаўкі быў продаж кніг па даступных цэнах — у асноўным танных выданняў твораў сусветнай класікі. І, прызнацца, вопыт аказаўся станоўчым: за год толькі на выстаўцы рэалізавалі прадукцыі на 100 мільёнаў рублёў. Ад фармату выстаўкі-продажу ў “Сябрыне” не адмаўляюцца і цяпер, але працуе толькі асобны яе “філіял”, дзе прадстаўлена дзіцячая літаратура. Дарэчы, асобна тут размешчаны беларускія выданні.

Побач са столікамі з кнігамі — міні-бар, ці, як яго называюць супрацоўнікі, інфарм-кафэ, дзе можна выпіць кавы, паглядзець кнігу, пачытаць газету. “Тут нават дзелавыя сустрэчы прызначаюць”, — заўважае Ала Міхайлаўна.

### Альтэрнатыўны гандаль і рэклама

Гэта новы аспект працы, што распрацоўваецца ў “Брэстаблсаюздруку”. І, дарэчы, паспяхова. Выстаўка — адзін з хадоў. Флаер — таксама інавацыя прадпрыемства. Спецыяльны флаер выпускаецца раз на тыдзень і распаўсюджваецца па ўсіх кіёсках сеткі. Ён інфармуе пакупнікоў пра новыя паступленні літаратуры, а таксама пра акцыі, што праходзяць у крамах сеткі. Наяўнасць вялікай колькасці кіёскаў дазваляе ахапіць увесь горад, што, натуральна, павышае аб'ёмы продажаў. Калі адкрывалася выстаўка-продаж, публікаваліся аб'явы ў абласных газетах. Мае “Брэстаблсаюздрук” і сваю штоквартальную газету “Сябрына-інформ”, дзе супрацоўнікі, ды і пакупнікі, могуць не толькі пазнаёміцца з навінамі прадпрыемства, але і паўдзельнічаць у абмеркаванні актуальных пытанняў.

***На здымку: Ала Бахарава, намеснік начальніка аддзела арганізацыі гандлю “Брэстаблсаюздрук”.***

---

**Прэзентацыя**

# Год з роднай літаратурай

Вольга ПАЛОМЦАВА

Выдавецтва “Мастацкая літаратура” паруплілася, каб паэтычнае слова ўвайшло ў кожны дзень нашага жыцця. “Каляндар 2012”, які ўбачыў свет у гэтым выдавецтве, — не толькі своеасаблівая партрэтная галерэя класікаў прыгожага пісьменства, што стварылі мастакі Н. В. Барай, В. А. Макаранка, В. І. Сенчанка. (Змешчаны партрэты Івана Шамякіна, Івана Мележа, Кандрата Крапівы, Змітрака Бядулі, Васіля Віткі, Васіля Быкава, Янкі Купалы, Янкі Брыля, Максіма Танка, Францыска Скарыны, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча.) Кожную старонку календара ўпрыгожваюць вершы, радкі якіх прасякнуты любоўю да радзімы: “Мая малітва” Янкі Купалы, “Родная мова” Пімена Панчанкі, “Рукі маці” Максіма Танка, творы Канстанцыі Буйло, Аркадзя Куляшова, Алеся Бачылы, Уладзіміра Караткевіча, Паўлюка Труса, Петруся Броўкі, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча.




Прыемным сюрпрызам для карыстальнікаў будзе не толькі наяўнасць календара на 2013 год — у выданні змешчаны яшчэ і так званы “вечны” каляндар — табліца, па якой можна вылічыць любы год.

---

**У падтрымку чытання**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава

# Сувенір з кнігарні

Польскі пісьменнік, супрацоўнік Інстытута нацыянальнай памяці Яцэк Паўловіч нядаўна прадстаўляў у Мінску сваю кніжку “Ротмістр Вітольд Пілецкі. 1901—1948”, прысвечаную легендарнаму герою Другой сусветнай вайны.

— Вельмі люблю чытаць і задаволены магчымасцю бліжэй пазнаёміцца з беларускай літаратурай. Дарэчы, беларускай культурай і гісторыяй цікавіўся заўсёды, нашы краіны — бліжэйшыя суседзі, да таго ж карані маёй жонкі — з Койданава (цяпер г. Дзяржынск).

Мінск пакідаю з двума вялізнымі пакункамі кніг — набыў сорак выданняў на гістарычную тэматыку на рускай і беларускай мовах. Асабліва цікава вывучаць “белыя плямы” гісторыі сёння, калі зняты ідэалагічныя бар'еры і даследчыкі атрымалі доступ да многіх дакументаў.



## Мастак і кніга

**Размовы з мастаком Марысяй Лось для таго, каб напісаць гэты матэрыял, я, па шчырасці, крыху пабойвалася — ці паспею пра ўсё распытаць. Бо ніколі не бачыла, каб імклівая Марыся затрымлівалася ў выдавецкіх кабінетах больш як на пяць хвілін. Яна заўсёды некуды спяшаецца: здаваць кнігу ў выдавецтва; на занятк; на цягнік, які адвязе яе на нейкі цікавы пленэр ці дударскі фэст. На гэты раз яна забегла ў "ЛіМ" паміж падпісаннем чарговай дамовы ў выдавецтве і набыццём адмысловых пасатыжаў. За некалькі гадоў знаёмства наша размова з Марысяй упершыню зацягнулася больш як на паўгадзіны…**



# Подскакам з Марысяй Лось

**Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ**

У дзяцінстве Марыся палохала сваю творчую сям'ю — збіралася стаць археолагам, хірургам, ну ці ўжо на крайні выпадак лётчыкам-парашутыстам. Але потым падрасла, перайшла з музычнай школы ў мастацкую і больш сумніваў наконт выбару жыццёвага шляху не мела.

*— Мой дзядуля Уладзімір Лось скончыў нашу Акадэмію, спецыяльнасць "Кніжная графіка", і я з дзяцінства бачыла дома аформленыя ім кніжкі. Маляваў ён і для часопіса "Бярозка", з якім я таксама цяпер супрацоўнічаю, апрацоўваў уручную фотаздымкі для "Зорькі". Мне яго руплівая праца вельмі падабалася. І паступаць у Акадэмію я збіралася на спецыяльнасць "Кніжная графіка", але ў пэўны момант перадумала і падала дакументы на кераміку, бо зразумела, што не змагу шэсць гадоў працаваць у двухмернай прасторы "папера-аловак", што для больш глыбокага самавыяўлення мне патрэбна датыкацца да розных матэрыялаў.*

> ***Візітка***
> *Марыся Лось нарадзілася 25 жніўня 1986 года ў Мінску. У 2010 годзе скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, спецыяльнасць "Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва"; у 2011-м скончыла магістратуру БДАМ, спецыяльнасць "Гісторыя і тэорыя мастацтваў". Аформіла дзевяць кніг для выдавецтва "Мастацкая літаратура" і РВУ "Літаратура і Мастацтва". Як мастак-ілюстратар супрацоўнічае з часопісамі "Вясёлка", "Бярозка" і газетай "Літаратура і мастацтва".*

Творчая сям'я, па меркаваннях адных, — гэта вельмі добра: змалку дзіця трапляе ў творчы асяродак і развіваецца ў мастацкім кірунку. Іншыя лічаць, што творчыя бацькі часам такое развіццё стрымліваюць: шмат якія ісціны, да якіх мастак мусіць дабрацца самастойна, аказваюцца адкрытымі адразу, і належнага творчага шляху з выпрабаваннямі не атрымоўваецца… Марыся пагаджаецца і з тымі, і з другімі.

*— Творчы асяродак у сям'і, безумоўна, спрыяе: блізкі доступ да магчымасцей, можна звярнуцца па параду, падказку. Бадай, адзінае, што крыху шкодзіць, — аўтарытэт. Ён уплывае на паступовыя працэсы: зробіш, паглядзіш, схаваеш — нямёка паказваць. Крытыкуюць мяне, дарэчы, жорстка, моцна і сур'ёзна. Маме (мастаку Алене Лось. — **А. М.**) можна паказваць толькі абсалютна завершаныя работы, калі я адчуваю, што зрабіла ўсё магчымае. Некалі маму запрашалі выкладаць у Акадэмію. На прапанову яна адказала: "Я? Студэнтам? Дык я ж іх з'ем, пакуль яны нармальнае што-небудзь зробяць!" Так што мяне перыядычна "з'ядаюць". Але я лічу, што гэта пазітыўная з'ява, бо прымушае расці і самаўдасканальвацца.*

Падчас размовы мы з Марысяй гартаем дзіцячую кнігу Паўла Саковіча "Князь-карась", што не так даўно пабачыла свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва". Гэта дзявятая па ліку кніга, якую аформіла дваццацічатырохгадовы мастак. Дзве асноўныя асаблівасці стылю Марысі Лось, на маю думку, — сакральныя матывы (асабліва ў вывах жывёл: козы, зебры, зайцы, ільвы, коні на старонках кніг, аформленых Марысяй, нагадваюць старажытныя выявы, якім некалі пакланяліся плямёны) і выкарыстанне арнаменту (кветкі, гарошкі, палоскі, кропачкі, рысачкі чаканыя — напрыклад, на падоле сукенкі — і нечаканыя — на вадзе ў рацэ ці іголках вожыка).

*— Самае цікавае і складанае — ілюстраваць кнігі для маленькіх дзетак. У дарослага ўжо склалася светаўяўленне, і ён прыме, альбо не прыме, альбо скарэкціруе штосьці, што бачыць на ілюстрацыі. А дзіця яшчэ толькі фарміруе сваю візуальную базу, і таму адказнасць за свет, які ты ствараеш, вельмі вялікая. Яго трэба зрабіць пазітыўным і ў той жа час даць магчымасць малому паглядзець наўкола як мага шырэй, а не так, што сонца — жоўтае, неба — блакітнае, а елкі — зялёныя.*



Марыся Лось працуе і з кнігамі для дарослых. Больш за ўсё любіць ілюстраваць паэзію. Не выключана, з-за таго, што сама некалі пісала вершы.

*— Я ўвогуле вельмі лёгка ўспрымаю паэтычныя рэчы. Няважна, гэта сур'ёзная лірыка ці дзіцячыя калыханкі. Паэзія для мяне афармляецца прасцей, чым проза. Да прозы павінна быць ці вельмі канкрэтная выява, ці ўмоўны алегарычны малюнак, які ахопіць толькі канцэпцыю твора. Паэзія дазваляе чытачу дадумваць, а мастак павінен толькі скіраваць яго на нейкі дадатковы візуальны вобраз, які дапаможа ўспрыняць вершы.*

Для кожнага творцы ў працэсе працы ёсць свой любімы момант. Марыся любіць атрымоўваць рукапісы ў выдавецтве (жартуе: "Як падарунак на дзень народзінаў!"). І тут жа ўзгадвае:

*— Момант, які захоплівае больш за ўсё, — калі я скончыла чытаць і ўзяла аловак. Альбо калі я чытаю ўжо з алоўкам у руцэ і ў працэсе замалёўваю нешта. Нараджэнне самой ідэі. Мне падаецца, што самыя ўдалыя малюнкі і вобразы створаны ў першую хвіліну чытання. Бывае, да некаторых месцаў трэба вяртацца, спрабаваць, думаць, ізноў вяртацца. Бывае, у апошні момант не хапае малюнка — трэба дамалёўваць. Гэта такія ўкліньванні ў агульную думку. А першыя вобразы, што нараджаюцца ў працэсе чытання, — самыя лепшыя, завершаныя, цэласныя. Я імі задаволена больш за ўсё.*

Гэтыя словы яшчэ раз падкрэсліваюць галоўную рысу характару Марысі Лось — імклівасць. Рыса заўважная і ў лініі, што вядзе рука мастака, і ў яе жыцці.

*— Часам бывае, шкадую, што адразу ўсім займаюся (маляванне, народныя танцы, аўтарскія ўпрыгажэнні). Думаю, можа, лепш узяцца за нешта адно і даводзіць да такога стану, каб звінела. Але я ведаю, што, паспрабаваўшы ўсё, у любы момант я магу ўзяцца за тое, што патрэбна, і зрабіць працу на належным узроўні. Зараз паеду куплю пласкагубцы з сіліконавымі падушачкамі, каб не драпаць металічныя дэталі біжутэрыі. Хачу паспрабаваць рабіць адмысловыя аўтарскія брошкі. Напалеонаўскія планы (смяецца — **А. М.**), галопам і подскакам, але з задавальненнем і любоўю.*

***Ілюстрацыі з кнігі Алены Масла "Як пані Чаротная на госці ў Палангу бегала" і кнігі Паўла Саковіча "Князь-карась".***

## Пад вокладкай

**Юзэфа ВОЎК**




**Зэкаў, А. М. Зязюля Гулюля / Анатоль Зэкаў; маст. Галіна Хінка-Янушкевіч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 128 с.**

Казкі і вершы, што ўвайшлі ў кнігу, распавядуць маленькім чытачам, як на лузе з'явіліся кветкі і чаму сябрoўкі сталі паважаць плотачку, як вожык набыў калючкі і пра што сонейка крычыць, як пячорная ластаўка вяскова стала і чаму чарапаху называюць лянівай, а сароку — манюкай. Кожная казка — своеасаблівая перасцярога ад дрэнных учынкаў, урок дабрыні, спагады, праўды і справядлівасці. Вершы, лічылкі, скорагаворкі, загадкі, што склалі раздзел "Вучоныя вароны", змяшчаюць і вясковыя, і гарадскія гісторыі, стануць для малых добрай забаўкай і навучальнымі задачкамі.




**Карамазаў, В. Мастак і парабкі / Віктар Карамазаў. — Мінск: Медысонт, 2011. — 272 с.**

У беларускай вёсачцы Лыскаўшчына, што на Магілёўшчыне, 3 мая 1904 года застрэліўся выдатны расійскі мастак, блізкі сябра Сурыкава, Паленава, Васняцова — Мікалай Неўраў. Тады газеты Расійскай імперыі паспяшаліся паведаміць, што самагубства адбылося з прычыны абвастрэння нервовай хваробы. Але ці ўся праўда была ў газетах? На гэтае пытанне і спрабуе даць адказ Віктар Карамазаў, які доўгі час вывучаў абставіны жыцця і трагічнай смерці Неўрава.




**Сівіцкая, Н. В. Назвы адзення ў гаворках беларускай мовы / Наталля Сівіцкая; навук. рэд. Л. П. Кунцэвіч. — Мінск: Беларуская навука, 2011. — 215 с.**

Якія звыклыя прадметы адзення хаваюцца за загадкавымі дыялектнымі назвамі *паўрозакі, праерка, забіранка, камлёт, квітла*? У якіх раёнах Беларусі сукенку называюць *сукняй*, а пінжак — *кулько́м*? На гэтыя і многія іншыя пытанні можна знайсці адказ у даследаванні Наталлі Сівіцкай. Думаецца, багата матэрыялу з кнігі станецца новым для чытача, нават спецыяліста-філолага, бо дадзеная манаграфія па сутнасці — першая спроба разгляду назваў адзення з пазіцый лінгвагеаграфічнай дыферэнцыяцыі і паходжання.




**Одинбург / Ирвин Уэлш, Иэн Рэнкин, Александр Маккол Смит, предисл. Джоан Роулинг; пер. с англ. А. Соловьёва. — Москва: Geleos Publishing House, 2010. — 160 с.**

"Калі я прыехала ў Эдынбург у снежні 1993 года, горад быў пакрыты снегам і выглядаў пагрозліва прыгожым і зусім чужым", — піша ў прадмове да зборніка Джоан Роўлінг. Але хутка яна апынулася ў палоне горада кашміру і гарбаты з вяршкамі… І яна не адзінокая ў сваіх адчуваннях. Кніга стала вынікам праекта, арганізаванага самімі аўтарамі ў якасці паслоў Фонду "OneCity" (Адзіны горад) — дабрачыннай арганізацыі, што падтрымлівае ініцыятыву па барацьбе з сацыяльнай няроўнасцю і несправядлівасцю ў Эдынбургу. Усе аўтары розныя, маюць розны стыль і розную чытацкую аўдыторыю, на стварэнне гэтай кнігі іх натхніў адзін горад — Эдынбург.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**

# Навошта зайцу тармазы?


Анатоль Бензярук

**Увазе чытачоў "ЛіМа" берасцейскі празаік Анатоль Бензярук прапануе ўрывак з аповесці "Я цябе бачу". Цалкам твор будзе надрукаваны ў восьмым нумары часопіса "Маладосць".**

…Есць у мяне яшчэ любімая "Лада" — родненькая "дзявятка", чырвоненькая, дагледжаная, якую мне некалі перадаў бацька. Ён быў беражлівым вадзіцелем.

Машынка — клас! Класная машынка ў Марынкі! Хоць і цеснаватая для маіх доўгіх ног. Але, калі шчыльненька прыціснуць іх да вушэй, — ехаць можна. З нейкага часу "мая чырвоная дзяўчынка" стала іншамаркаю, што ўраўняла мае правы на дарозе з усялякімі "кадзілакамі", "лексусамі" ды іншымі "запарожцамі". Мы цяпер усе "ўдзельнікі дарожнага руху"… Паспрабуй мяне драпнуць! Я за сваю "сяброўку" кожнаму выкажу сваё шчырае незадавальненне…

Ну што, ладненькая "Лада", на цябе адну спадзяванне. Выцягвай з крызісу. Зоймемся прыватным возніцтвам! Мужыкі таксуюць. Ім можна, а нам што — толькі шпалы на "шпільках" насіць дазваляецца?!

Як гэта ў іх завецца? "Бамбіць", здаецца. Ну так, так і завецца!

Пачнём з раніцы. Месца дыслакацыі — чыгуначны вакзал. Там заўсёды ходзяць-бродзяць роты ратазеяў... "Бамбіць"!!! Хлапцы-малайцы, з дарогі! Гром-баба запраўляе бак! Баба-бамбавоз набівае цэлыя адсекі сваёй да вас пралетарскай (я ж цяпер пралетарка!) нянавісці і выязджае.

* * *

У раніцу вісеў бялёсы туман. І мая "чырвоненькая" выгодна вылучалася ў асяродку іншых цёмненькіх і шэранькіх таксовак.

Падышоў цягнік. І таксісты, як па камандзе, сталі ўглядацца ў туман. Пасажыраў было няшмат. І сярод іх ніхто не пажадаў куды-небудзь ехаць далей.

Праз хвіліну на пероне засталася толькі бабулька з кошыкамі. Мае "калегі" расчаравана павярнулі да машын, а я падышла да вяскоўкі.

— Я не еду, дочачка, — запярэчыла бабка, калі я падняла адзін з яе кошыкаў.

— Ой, маліны! Самі расцілі?

— А то ж! — усміхнулася старая. — Гэтымі вось рукамі…

Ах, мае мілыя бабулечкі… Некалі, у дзяцінстве, я малявала. Любіла часцей за іншых маляваць сваю бабулю Юлю. У яе і рукі былі такія самыя — патрэсканыя, быццам зямля ў спёку. І малін было шмат у вёсцы. Такія ж духмяныя, як гэтыя.

— Бабулечка, я вас "за так" давязу.

— "За як"?

— Без грошай.

Старая паглядзела недаверліва, а потым ціха спытала:

— А хіба, дзеванька, так у горадзе цяпер бывае?

— Бывае. Яшчэ як бывае! У нас цяпер акцыя аб'яўлена: "Падвязі бабульку да цягніка, і табе будзе шчасце!", — весела сказала я.

— Дык мне да рынку…

Я засмяялася і, падхапіўшы кошыкі, пацягнула старую да "чырвоненькай".

На развітанне гаспадарлівая вяскоўка працягнула пакецік духмяных ягад.

— Не ведаю, якая ў вас там акцыя, але гэта не па-людску — за дабро не аддзячыць. Вось табе ласунак!

Я была шчаслівая: "акцыя" ўдалася!

Другім маім кліентам стаў трохі нецвярозы грамадзянін, якога ўпіхвалі ў "Ладу" двое больш цвярозых выпівох. Яны разлічыліся, усунулі мне ў кішэню адрас "цела беднага Юрыка", блаславіўшы наша падарожжа словамі:

— Юрыка давязі… Юрыку дрэнна. З дастаўкай на дом. Аплочана, як у банку… Юрык, бывай!

Апошняе было лішняе: Юрык нічога не чуў. Ён нават не чуў, калі мы з жонкай цягнулі яго на чацвёрты паверх і ўкладвалі спаць.

На развітанне Ірына (жонка Юрыка) уздыхнула:

— Бяда з ім… п'е, а так працавіты, цудоўны майстар, каб толькі не гэтае паскудства… Вы ўжо на нас не крыўдуйце, Марыначка. Ён жа, Юра, харошы. Не проста штаны ў хаце, а сапраўдны чалавек. З рукамі, з галавой. Каб толькі гэтая гарэлка перасохла! А вы, Марына, такую цяжкую сабе прафесію абралі. Жанчына-таксіст…

— Ды я сёння першы дзень.

— Тады поспеху вам, удачы. Хай вам яна ўсміхнецца.

Удача ўсміхнулася літаральна праз паўгадзіны.

Удача зноў была "пад шафэ", але ўпэўнена трымалася на нагах і, адчыніўшы дзверцы, сказала:

— О!

— Што "окаеш", валжанін?

— У нашым горадзе ўжо завялося "інтым-таксі"? Выконваеце ўсялякія пажаданні кліентаў? — з ходу пачала хаміць "удача".

— Уладзімір Андрэевіч, мы едзем ці стаім?

— О! Ты мяне ведаеш, прыгажуня? Тады едзем…

— Цябе, Валодзька, кожны сабака ў гэтым горадзе ведае.

Воўка доўга лыпаў вачыма, гледзячы на мае ногі. Успомніць мяне па нагах было немагчыма. У сёмым класе яны былі значна карацейшымі. Нарэшце, трохі паразважаўшы, ён вырашыў, што ў жанчыны ёсць таксама галава. Воўка прыцэліўся, спрабуючы злавіць "у кадр" маю галаву. Нарэшце ён здаўся:

— Скажы, хто ты, прыгожае дзіця?!

— Марына.

— О!

— Ты акрамя "О!" нейкія іншыя літары ведаеш?

— Ё!

— Валодзька, ты чаго п'яны з самай раніцы?

— Я з сімпозь-позью-ума, — паспрабаваў ён адсправаздачыцца.

Потым зразумеў, што не асіліць іншаземнае слова і перакладу:

— З афіцыйнай п'янкі, значыцца… Міжнароднай. Былі японцы (тут ён паказаў "японцаў"), палякі, ізраільць… не… і… пілі ўсе!.. А потым гулі-булі… А ты, Марынка, што тут робіш?

— Як бачыш, цябе вязу.

— О!

Ён памаўчаў, нешта прыкідваючы (з арыфметыкай у яго праблемы былі яшчэ ў школе), нарэшце выдавіў:

— Таксуеш?

— "Бамблю".

— Дык табе на жыццё не хапае?

Я разплавалася:

— Не, у нас такая акцыя: "Давязі п'янь да дому! Занясі яго з жонкай на паверх, распрані, кінь на ложак! Хай храпіць штаны ў хаце!".

— Не сярдуй, Марын… Вось ужо даехалі. Трымай грошы. Бывай.

І кінуў сотню "баксаў" на мае калені.

— Забяры свае паганыя грошы! — аж завішчала я.

— Ну, ведаеш… Яны не паганыя, а зробленыя. Вось гэтымі мазгамі, — ён пагрукаў па лысеючым чэрапе. — І сваю "акцыю" на мяне не распаўсюджвай. Сам дайду да дому! Сам распрануся! І сам буду храпець у сваёй хаце!

— Перадавай прывітанне Валі.

— А!

Што за манера гаварыць па адной літары? Я хацела зноў яго падкузьміць. Але спынілася, калі глянула ў Валодзевы вочы.

— Перадам. У нядзелю пайду на могілкі… І перадам, абавязкова… А "стольнік" не выкідвай. Ён табе яшчэ спатрэбіцца. І асцярожней на дарозе…

Як жа я забыла пра Валю? Буду, буду асцярожней на дарозе, Вовік…

* * *

Вось і першыя грошы з'явіліся ў кішэні. Гэта выклікала прылію сіл і жаданне "замарыць чарвячка".

Прыпаркаваўшыся паблізу высокага дрэва, я ўжо збіралася выйсці, калі заўважыла, што не маю выхаду! За спінай прыстроіўся нейкі моцны дзяцюк, загарадзіўшы мне выезд сваім белым "мерседэсам", а побач, тым часам, пад'ехала вялікае чорнае аўто ўнушальных памераў і невядомай мне "пароды". Я быццам апынулася на шахматнай дошцы, як нейкая пешка, заціснутая паміж белай і чорнай фігурамі.

Акенца ў чорным аўто няспешна адсунулася. Цыбаты мужчына, чыста паголены і пры гальштуку, спытаў, пазіраючы на мяне зверху ўніз:

— І чым мы тут займаемся?

— Выконваем пажаданні кліентаў.

— Ты хто, Залатая Рыбка?

Ён гаварыў амаль ласкава, але было бачна: такі можа "прылашчыць"…

— Ты плыла б адсюль, маленькая. Табе лепей "выконваць пажаданні" ў іншым месцы.

— Ды і ў іншых месцах канкурэнцыя.

— Во, правільна, канкурэнцыя. А мне хіба ты канкурэнт, Рыбка?

Так, наезд, здаецца, гэта так у іх завецца? Гэты не паглядзіць, што ты кволая былінка — возьме і пераломіць. І маленькай птушачцы пер'е павышчыпвае…

— Бачу, што ты не нахабная. Зусім яшчэ ў нашай справе "зялёная". Акрамя таго, у мяне ёсць правіла: кожны мае права на памылку… Нельга караць за адну памылку. Трэба ўрокі засвойваць. Ты памылілася, дарагуша, заехала на чужую тэрыторыю без дазволу. А паколькі ты дзяўчына, табе, Рыбка, і дзве памылкі даравацъ можна, не псуючы пакуль касметыкі.

— Можна спытацца?

— Спытацца можна. Толькі адказ добры не гарантую.

— Вы не пажадаеце трохі адсунуцца, каб я магла выехаць?

— Чаму ж не. Пытанні ў нас бясплатныя, а справы — па рынкачнай цане: метр праехаць — чырык згубіць, два — з дваццатнікам развітацца, тры — ужо на паўціннік пацягне, чатыры — цэлы стольнік каштуе… і гэтак далей.

— Гэтак далей — не трэба. Вось табе асабісты партрэт амерыканскага прэзідэнта Франкліна. І адмер, калі ласка, мае чатыры метры, калі такая такса.

Мужчына ўсміхнуўся.

— Зноў памылачка. Ужо другая, апошняя. Трэба табе ведаць, мая выпадковая каляжанка, што ў Амерыцы ніколі не было прэзідэнта з такім прозвішчам. Заяўляю аўтарытэтна, як колішні ваенны, што быў абавязаны дасканала ведаць патэнцыяльнага ворага. Аднак містэр Бенджамін Франклін быў настолькі паважанаю асобаю, што ўдзячныя нашчадкі змясцілі ягоную фізіяномію на вельмі паважанай купюры. Прынамсі, Франклін стаў вынаходнікам грамаадвода… Ты адчула, Рыбанька, як наблізілася бура? Але грамаадвод Франкліна спрацаваў, адвёўшы ад цябе бяду… І прашу, не памыляйся на далей. А каб табе, Залатая Рыбка, не было гэтак сумна ад нашай размовы, дазваляю прыхапіць з сабою яшчэ аднаго кліента. Гэта, так бы мовіць, бонус ад фірмы. Ну, не вяртацца ж табе дамоў зусім без грашовых знакаў і з дрэннымі думкамі?

Акенца павольна зачынілася, і чорны аўтамабіль (а за ім і белы) ад'ехалі, саступаючы мне дарогу.

Дзесяць секунд я прыходзіла ў сябе. Ногі калаціліся. Відаць, цяпер нервы былі там… Нарэшце я выехала.

І амаль адразу "злавіла" кліента.

Ну, хоць на развітанне "бамбану" па поўнай! Навошта зайцу тармазы?! Бонус дык бонус!

…Ён нічога не сказаў, толькі грымнуў дзвярыма так, што шыбы задрыжалі.

— Э! Таварыш, асцярожней! Машына імпартная і мая. Сёння на яе ўсе квапяцца.

Ён грозна павярнуўся ў мой бок, хвіліну здзіўлена разглядаў, пачынаючы ад руля й да самай педалі тормазу, і нарэшце сказаў… не — прарычаў, як леў, якому надакучыла есці траву, ды хочацца мяса:

— Во прэ сёння! Толькі ад адной дуры выйшаў, як адразу да другой падсеў!

— Едзем?

— Едзем.

— Куды?

— Туды…

Ён махнуў рукой. І мы паехалі "туды".

Нейкі час маўчалі, пакуль ён не спытаў:

— Як цябе зваць?

— Дура Сяргееўна.

— Як?

— Забыўся? Сам так ахрысціў, а мама кліча Марынай, што значыць, "марская". Можа, таму і мора люблю, хоць бываю там зрэдку. Былыя саслужыўцы называлі Марынкай Сяргееўнай.

— Можна я цябе буду называць па імені?

— Гэта значыць, Дурай?! — я пачынала ўскіпаць, як чайнік на пліце.

— Ну, прабач… абставіны… з языка сарвалася. Цяпер назад у глотку не запіхнеш. Але прабачэння прашу. Я ж афіцэр, палкоўнік — цяжка мне з сантыментамі ўсялякімі.

— Што ж мне на вас, залатапагоннікаў, гэтак шанцуе. Адзін даў пад зад "са слязамі на вачах", другі ледзь рэбры не пералічыў, трэці дурай абазваў…

— Я ж прабачэння папрасіў.

— А ўсё правільна. Дуры мы бабы, дуры. Хіба наша справа хамут на шыю вешаць? БАМы падымаць, у кузні стаяць, на чыгунцы таксаваць?.. Ты верыш у забабоны?

— Хто быў на вайне — усе вераць… Мой дзед ваяваў у Айчынную, а калі я збіраўся на свой фронт, сказаў: "Запомні правіла: "Трафеяў не браць!". Я паслухаўся: з Афганістана не прывёз ніякіх "сувеніраў". Затое сам жывы застаўся. А тых, хто прыхопліваў сабе нешта, шмат не вярнулася. Узяў пярсцёнак — рука пакалечаная ці ўвогуле не жывы…

Неўзабаве ён спыніўся і спытаў:

— Ты пакінеш свой тэлефон?

Я раптам закрычала:

— Ды калі ласка! Тэлефон, грамафон, саксафон… Іграй на мне, музыкант! Якія ж вы ўсе аднолькавыя…

Стала нейк не па сабе. Нешта сцюдзёна зрабілася. Нервы… Я выскачыла з машыны. Праз імгненне ён быў побач. Абняўшы за плечы, спытаў:

— Так цяплей?

— Адвязі мяне дамоў. Дрэнны з мяне таксіст. За дзень уся выручка — мех непрыемнасцей… А сам не заходзь. Мо калі-небудзь пазней… не сёння.

…Не было сіл, каб распрануцца. Нават не запаліўшы святла, я паваліласяна канапу. У трывожным сне змяшаўся ўвесь клапотны і стракаты дзень.

Раптам прыснілася дзяцінства: хатка ў вёсцы, бабулька Юля на лавачцы, чыстая рэчка з драўлянай кладачкай. Ад яе бегла сцяжынка на ўзгорак, адкуль было бачна наваколле бы на далоні. А яшчэ вышэй узносілася старажытная царква з высокай званіцаю. Было свята, было светла. І я бегла басанож па траве. А здалёк гучаў меладычны царкоўны звон: дзінь-дон-дзінька-дон-н-н…

… Настойліва званіў тэлефон. Я ўзяла трубку.

— Марына?

Цэлы дзень хацелася раўсці. І слёзы не раз былі побач, а заплакала толькі цяпер. Ох, і дура ты, Марынка, хоць і Сяргееўна.

— А ты мне пакажаш свае зоркі? У зорках на пагонах я не разбіраюся…

— Навошта табе на пагонах? Паглядзі на неба — вось дзе зоркі!

Я падышла да акна. Млечны Шлях, прыгожы і бязмежны, разліўся над галавою.

— Бачыш? Бачыш?! — крычала трубка.

Я ўжо не глядзела на неба. Са сваёй "галубятні" я глядзела на зямлю.

— Бачу. Бачу! Я цябе бачу…

# Сезон завяршыла... «Шлюбная ноч»

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Сяргея Сулая
і Віктара Кавалёва

Пачаліся летнія вакацыі ў Беларускім Дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры Беларусі. Пад заслону ён парадаваў сваіх прыхільнікаў прэм'ерай: імпрэзай з арыгінальным жанравым вызначэннем "музычны феерверк" і прывабнаю назвай "Каханне па-італьянску". А пад гэтай назвай — два досыць розныя аднаактовыя спектаклі, аб'яднаныя пранікнёнасцю пачуццяў, рамантыкай любоўных інтрыг, яскравым гумарам і вынаходлівай відовішчнасцю. Такім чынам, першая дзея новай імпрэзы ўяўляе сабой класічную камічную оперу Гаэтана Даніцэці "Званочак, або Шлюбная ноч аптэкара" ў пастаноўцы рэжысёра-дэбютанта Ганны Матарнай. Пасля антракта дзеянне пераносіцца ў XX стагоддзе, і на сцэне разгортваецца захапляльнае музычнае рэвю "Шлягеры неапалітанскага квартала", прыдуманае і ўвасобленае галоўным рэжысёрам тэатра Сусанай Цырук паводле вакальных твораў італьянскіх кампазітараў розных эпох... Зрэшты, гаворка пра гэтую прэм'еру ды пра іншыя новыя работы тэатра ў нас яшчэ будзе. Пакуль жа згадаем набыткі сезона, які прайшоў ва ўмовах істотных арганізацыйна-творчых змен, і зазірнём у планы.





Як вядома, летась, з інтэрвалам у некалькі месяцаў, у БДАМТ прыйшлі новыя кіраўнікі: дырэктар Аляксандр Пятровіч, мастацкі кіраўнік Адам Мурзіч, галоўны балетмайстар Уладзімір Іваноў, галоўны рэжысёр Сусана Цырук, галоўны дырыжор Алег Лясун. Яны ўпэўнена павялі тэатральны карабель па творчым курсе, вызначаным самім статусам калектыву: дзяржаўны, акадэмічны, музычны. Не пералічыць усіх падзей, якія зрабілі творчы год незабыўным для гледачоў і для саміх артыстаў. Працягваліся канцэрты сімфанічнай класікі з гасцямі-дырыжорамі ды салістамі і вечары рамансаў, ладзіліся першыя праекты *open air* у Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту ды ля сцен Мірскага замка і новая праграма "Беларускія барытоны спяваюць пра каханне", у разгар сезона праходзілі гастролі ў Смаленску, Брэсце, Гомелі... А па колькасці ды разнастайнасці прэм'ерных спектакляў гэты калектыў, бадай, не мае сабе роўных сярод нашых тэатраў: "Аднойчы ў Чыкага", "Аршын мал алан", "Блакітная камея", "Сільва", "Вечар балета" ("Кармэн-сюіта" і дывертысмент са "Шчаўкунчыка"), "Каханне па-італьянску"...

Што рыхтуецца да пастаноўкі ў новым сезоне? Эксцэнтрычны балет Г. Гладкова "12 крэслаў", мюзікл М. Самойлава для дзяцей і дарослых "Чарадзейная лямпа Аладзіна", цалкам узноўлены "Шчаўкунчык" П. Чайкоўскага, навагодняе мюзік-фэнтазі А. Атрашкевіч "Цётачка Праструда...", тэатралізаваны гала-канцэрт "Навагодняе кабарэ", балет У. Саўчыка "Асоль", рамантычная казка для ўсёй сям'і на тэмы брадвейскіх мюзіклаў "Папялушка", аперэта Ф. Легара "Граф Люксембург", мюзікл Л. Бернстайна "Вестсайдская гісторыя". Уражвае? Дадайце да гэтага некалькі арыгінальных, у тым ліку міжнародных, канцэртных праектаў, падрыхтоўку першага нацыянальнага конкурсу маладых спевакоў імя С. Манюшкі (спадкаемцу колішняй "Убельскайластаўкі" ў Чэрвені), гастрольную дзейнасць...

Адкрыецца ж новы, 42-і сезон 1 верасня мюзіклам К. Брэйтбурга "Блакітная камея". Гэта, зразумела, ні ў якім разе не візітоўка тэатра, але адзін з даволі нашумелых і яркіх новых спектакляў, прыцягальны свежасцю акцёрскіх дэбютаў ды ўзорамі выканальніцкага майстэрства. А годная нацыянальная візітоўка ў Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, думаю, абавязкова з'явіцца. Дайце час!

***На здымках: сцэна з мюзікла "Блакітная камея"; дыпламант міжнароднага конкурсу Сяргей Суцько (Энрыка) і Яўген Глебаў (аптэкар Анібале) у спектаклі "Званочак".***

# Савінкіну ведаюць!

Таццяна КАНАПАЦКАЯ,
г. Лунінец

**Музыкант божай ласкаю... Гэтае вызначэнне — не перабольшанне творчых вартасцей загадчыцы аддзялення фартэпіяна Лунінецкай дзіцячай школы мастацтваў Валянціны Савінкінай. Яшчэ калі яна сама вучылася тут, была ўзорам для іншых. Школьніцай Валянціна акампанавала хору роднай ДМШ. Студэнткай Маладзечанскага музычнага вучылішча была канцэртмайстарам навучальнага харавога калектыву. Удасканальваць прафесіяналізм працягвала ў Лунінцы.**

У 1970-я гады здарыўся выпадак, які ўразіў многіх. Хор Лунінецкай ДМШ запрасілі выступіць у Мінску. Перад выступленнем у сталіцы высветлілася, што кіраўнік калектыву забыў ноты. І Валянціна Савінкіна, канцэртмайстар, усю праграму адыграла на памяць! Не толькі лунінчане — калегі з Брэстчыны ды іншых абласцей Беларусі заўсёды падкрэсліваюць, што Валянціне Іванаўне Бог даў вялікі дар. Савінкіну ведаюць у розных калектывах, у розных краінах. Яна некалькі гадоў працавала ў Барысаве, акампанавала тамтэйшаму хору — аднаму з лепшых у краіне. Цудоўна падбірае на слых, чытае ноты з ліста. І ўдасканальвае выканальніцкае майстэрства!

Валянціна Іванаўна скончыла Беларускую дзяржаўную кансерваторыю — першая з трох на сёння выкладчыкаў Лунінецкай дзіцячай школы мастацтваў атрымала вышэйшую музычную адукацыю, але ніколі не дазволіла сабе публічна падкрэсліць гэта. Некаторыя лічаць яе вельмі строгай і нават жорсткай, але вучням і калегам, якія імкнуцца да прафесіяналізму, імпануе патрабавальнасць настаўніцы. Маральнасць і шчырасць Валянціны Савінкінай прыцягваюць да яе, асабліва калі камусьці трэба падзяліцца набалелым, пачуць аб'ектыўную думку наконт спрэчнай сітуацыі.

Музыканты ўзорнага ансамбля "Канцэрціна" перакананыя, што ім вельмі пашанцавала на канцэртмайстра. Дзеці адчуваюць дакладнасць рытму акампаніятара, і гэта надае ім упэўненасці падчас выступлення. Валянціна Іванаўна спрыяе юным творцам не толькі сваёй выключнай надзейнасцю. На канцэртах яна тонка ўлоўлівае найдрабнейшыя памылкі скрыпачоў і ўмела робіць іх незаўважнымі, дзякуючы свайму фартэпіяннаму майстэрству. Такая зладжанасць і адпаведае сутнасці ансамблевай ігры.

Пры немалой вучэбнай нагрузцы Валянціна Савінкіна паспяхова ўдзельнічае ў народным аркестры народных інструментаў. З часу яго стварэння ў 1978 годзе яна іграе на балалайцы-альт. Музычна адукаваная, можа падказаць важныя моманты выканання дырыжору, даць неабходныя парады маладым аркестрантам. Калегі вельмі цэняць разам з Валянцінай Іванаўнай наконт характару твораў, уключаных у рэпертуар. Яе глыбокае адчуванне музыкі — бездакорны дарадца! Уражвае і адказнасць перад мастацтвам, адданасць справе. Цудоўная піяністка В. Савінкіна дасягнула высокага прафесіяналізму ў ігры на балалайцы. Яе багатая творчая натура напоўніцу ўвасабляецца ў творчасці, для яе зневажальным было б ашчаджаць сябе, працаваць напаўсілы. Прычым яна не лічыць выключальным матэрыяльны фактар. Кожны чалавек можа звярнуцца да Валянціны Іванаўны з просьбай наконт акампанементу — і ніколі не пачуе адмовы. А яе сапраўды энцыклапедычныя веды робяць гэтага музыканта-педагога цікавым і кампетэнтным суразмоўцам на любыя тэмы.

Дзесяць гадоў таму група лунінецкіх настаўнікаў музычнай школы стварыла ансамбль духоўных спеваў "Логас", які па нядзелях спявае ў Свята-Крыжаўзвіжанскім храме. Святары неаднаразова запрашалі ў хор і Валянціну Іванаўну. Але па натуры яна "сава". Улічваючы гэтую асаблівасць, у школьны расклад настаўніцы нават не ўключалі ранішнія першы і другі ўрокі. Ёй трэба было "перастроіцца", падрыхтавацца сябе, каб прачынацца рана — да ютрані. Пяць гадоў таму Валянціна Іванаўна далучылася да царкоўных спеваў. Для яе гэта быў учынак! Цвёрдасць характару выявілася і ў працы над сваімі партыямі. У харыстаў ужо быў пэўны досвед, а яна мусіла не толькі асвоіць вялікі аб'ём новага для сябе музычнага матэрыялу, але і прыняць парады і дапамогу. Цяпер з уласцівай ёй адказнасцю напярэдадні нядзельных літургій заўсёды ўдакладняе, якія песняспевы трэба будзе выконваць. Валянціна Іванаўна і ў гэтым стала ўзорам для пераймання.

Разам з настаўніцай вакалу Наталляй Мурко, адметнай спявачкай, Валянціна Савінкіна стварыла "залаты дуэт" нашага краю. Творчасцю лунінчанак захапляліся гледачы многіх гарадоў Беларусі, у тым ліку — сталіцы, дзе канцэрты ладзіліся ў "Гасцёўні Галубка", у "Доме Ваньковічаў", Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, Доме літаратара, бібліятэцы Цэнтральнага дома афіцэраў. Лунінецкія музыканты прадстаўлялі Беларусь у гарадах Расіі, Украіны, Ірландыі, Германіі.

Мабыць, і небеспадстаўнае меркаванне наконт строгасці Валянціны Савінкінай. Але якраз у гэтым — як слушная, прафесійная патрабавальнасць да ідэальнага выканання, якога можна дасягнуць праз вялікую працу над сабой. Той, хто ўсведамляе яе асабісты прыклад, вельмі цэніць заўвагі і парады Музыканта, побач з якім заўсёды хочацца працаваць і ствараць.

Маладосцю душы і творчай актыўнасцю Валянціна Іванаўна ўразіла і нядаўна, адзначыўшы свой юбілей цудоўным супольным канцэртам са сваёй колішняй вучаніцай і цяперашняй калегай Галінай Яскевіч. У выкананні піяністак гучалі творы Баха, Шастаковіча, Качыанта, Салаўёва, Смірновай...

Калегі ўдзячныя лёсу за творчую садружнасць з Валянцінай Савінкінай і мараць, каб яна доўжылася як мага даўжэй. Такое жаданне і ў шматлікіх прыхільнікаў яскравага таленту лунінецкай настаўніцы.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА,
фота аўтара

Прэм'еры ў разгар лета! Новы спектакль для дарослых "Сабачае сэрца" паводле аднайменнай аповесці Міхаіла Булгакава пастаўлены ў Гомельскім абласным тэатры лялек. А камедыя "Фігаро" паводле п'есы П'ера Бамаршэ "Вар'яцкі дзень, або Жаніцьба Фігаро" ў рэжысуры Сяргея Кавальчыка і мастацкім афармленні Алены Ігрушы папоўніла рэпертуар Сучаснага мастацкага тэатра сталіцы.

Напярэдадні закрыцця сезона Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы наладзіў прэс-канферэнцыю, падчас якой гаварылася пра вядомыя нашым чытачам вынікі творчага года (прэм'еры, гастролі, удзел у фестывалях, ганаровыя ўзнагароды акцёраў) і пра рэпертуарныя планы. У новым сезоне мастацкі кіраўнік тэатра Мікалай Пінігін працягне працу над спектаклем "Ноч на Каляды" паводле аповесці Мікалая Гогаля "Вечары на хутары ля Дзіканькі". Рэжысёр Аляксандр Гарцуеў рыхтуе прэм'еру пастаноўкі "Людзі на балоце" паводле раманаў Івана Мележа. Мікалай Пінігін падзяліўся і сваёй ідэяй пераўвасобіць хрэстаматыйную Купалаву "Паўлінку", маючы на мэце не "ўмяшальніцтва" ў рэжысуру Льва Літвінава, а далікатнае абнаўленне візітоўкі купалаўцаў, бо час вымагае не толькі асвяжыць, напрыклад, сцэнаграфічнае аблічча, але і позірк на сюжэт п'есы, якую сёння, пэўна, трэба ўспрымаць без драматычнага падтэксту, як унікальны і самабытны нацыянальны сувенір.

Не зачынілася ў сярэдзіне ліпеня, а працягвае працаваць IV міжнародная выстаўка графікі "Art-лінія" (куратар праекта — вядомы жывапісец і галерыст Фёдар Ястраб), разгорнутая ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Як вядома, гэтым разам яна арганізаваная Міжнароднай гільдыяй жывапісцаў разам з Беларускай дзяржаўнай акадэміяй мастацтваў. Арганічным дапаўненнем узораў майстроў сучаснага беларускага і замежнага мастацтва сталі вернісаж лепшых студэнцкіх работ і рэтра-праграма — экспазіцыя французскай графікі XIX ст. са збору НББ.



У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь другі месяц працуе выстаўка рускага жывапісу "Італія, айчына натхнення...". Экспазіцыя працягнецца да пачатку верасня. Яна паяднала сапраўдныя скарбы, што захоўваюцца ў фондах музея: творы Фёдара Мацвеева, Сільвестра Шчадрына, Івана Айвазоўскага, Сакрата Вараб'ёва, Пімена Арлова, Івана Рэймерса, Арэста Цімашэўскага, Мікалая Ге, іншых майстроў, якіх натхнялі вобразы сонечнай краіны.

***На здымку: літаграфія беларускай мастачкі Карыны Харанекі "Дзень 2".***

Алесь СУХАДОЛАЎ,
фота Аляксандра Дзмітрыева

# Гамлет эпохі поп-арту

**Беларускі дзяржаўны тэатр лялек зноў і зноў парушае стэрэатыпнае ўяўленне пра сваё выключна "дзіцячае" прызначэнне. І выпускае спектакль "Вянчанне" паводле п'есы Вітольда Гамбровіча для дарослага гледача. І не проста дарослага, а прасунутага інтэлектуала, знаёмага з мадэрновымі плынямі ў мастацтве ХХ стагоддзя.**

На такі смелы крок адважыўся малады рэжысёр Аляксандр Янушкевіч. Але семя яго задумы павінна было трапіць на спрыяльную глебу, якой і з'явіўся звыклая да эксперыментаў трупа лялечнага тэатра. Наш глядач, у сваёй большасці, не падрыхтаваны яшчэ да падобных імпрэз. А прывучаць яго да новай эстэтыкі — задача не з лёгкіх. І вельмі прыемна бачыць, калі калектыў стваральнікаў аб'яднаны аднадушным парываннем — сцвердзіць сваё права на эксперымент. У мяне, прынамсі, гэтая неадназначная пастаноўка выклікала такое ўражанне.

Між тым спектакль разлічаны менавіта на тутэйшага гледача. Паводле сваёй двухгадзіннай працягласці ён не зусім адпавядае фармату, прынятаму на заходніх фестывалях. Гэта пераканальна гаворыць пра пазіцыю пастаноўшчыкаў: прышчэпліваць знаходкі еўрапейскага авангарду тут, а не шукаць удзячнага гледача ў замежжы. Хочацца, каб і масавая беларуская публіка прымала гэты спектакль калі не з прыхільнасцю, то хаця б з разуменнем. А лепей — з імкненнем да самаразвіцця.

Але, з іншага боку, доўгая працягласць імпрэзы крыху абцяжарвае ўспрыманне зместу, расцягвае ў часе карнавальны эфект відовішча. Сучаснае мастацтва вылучаецца якраз дынамікай, імклівымі "кінамантажнымі" пераходамі, насычанасцю падзеямі. Працяглыя артхаўсныя відовішчы, смакаванне стылю маюць права на існаванне ў залежнасці ад таго, на якую аўдыторыю разлічана пастаноўка. Звыклы эстэт умее расцягваць сваю асалоду. Але калі трэба знесці дах "нармальнаму" гледачу, каб ён на хвілінку адарваўся ад свайго штодзённага сноўдання, — дык тут патрэбны "бліцкрыг", імклівая і хуткая атака. Гэтага, мне здаецца, спектаклю якраз не хапае, каб ператварыцца ў сапраўдную падзею.

Майстар высокамастацкай лухты Вітольд Гамбровіч вядомы сваёю прагай да разбурэння архаічных традыцый, заскарузлых стэрэатыпаў, жанравых і стылёвых межаў. Роля гэтага польскага тварцы сугучная Венядыкту Ерафееву ў рускай літаратуры і Уільяму Бероўзу — у амерыканскай. Працэс разбурэння з'яўляецца неабходнай умовай для развіцця мастацтва, бо ён вызваляе энергію, патрэбную для стварэння новых шэдэўраў. Так і спектакль "Вянчанне" накіраваны не на тое, каб пасяліць у галаве гледача духоўнае спусташэнне, а стварыць там прастору для крэатыву, для пошуку новага. Пакуль цяжка сцвярджаць, што імпрэза дасягае патрэбнага выніку. Верагодна, у працэсе яе адаптацыі ў нашым глядацкім асяроддзі такая магчымасць з'явіцца.

Калі ацэньваць працу акцёраў, то найперш трэба заўважыць, што надзвычай складаная роля выпала маладому артысту Цімуру Муратаву, які іграе галоўнага персанажа "Вянчання" — жаўнера Генрыха. Сваёй шчырасцю і непасрэднасцю, неабходнай для чарадзейных імпрэз лялечнага тэатра, акцёр выклікае ў гледача сімпатыю. Уражвае той аб'ём тэкставай інфармацыі, што давялося засвоіць выканаўцу, які літаральна выкладваўся, пранікнёна выконваючы шматслоўныя жартоўна-бессэнсоўныя маналогі. Але ўсё ж Ц. Муратаў, як і большасць іншых акцёраў, занадта сур'ёзна іграў Гамбровіча — відаць, узяла сваё школа псіхалагічнага тэатра. Не было той лёгкасці, што ўласціва пяру пісьменніка, з якой аўтар гуляецца з тэкстам. Але, зразумела, такое выкананне вымагае надзвычайнага майстэрства і здольнасці да імправізацыі, суадносных таленту пісьменніка. У гэтым ключы найбольш пераканальна выглядаў П'яніца ў выкананні заслужанага артыста Беларусі Уладзіміра Грамовіча. Персанаж-трыкстар, ён аб'яднаў шырокі дыяпазон вобразаў, паварочваючыся да гледача самымі рознымі маскамі. То ён дэманструе арыстакратычную і амаль воландаўскую пагарду да натоўпу, то ператвараецца ў юродзівага, што адкрыта выкрывае чужыя заганы. Насамрэч, авангард вымагае ад выканаўцаў высокага ўзроўню прафесіяналізму, г.зн. здольнасці да вольнага абыходжання з разнастайнымі прыёмамі сцэнічнай мовы, якія мусяць быць добра засвоеныя. Тое самае датычыць постмадэрновага мастацтва ўвогуле, якое мае справу з самымі рознымі сродкамі і стылямі. Бачацца своеасаблівыя паралелі паміж авангарднымі пастаноўкамі кшталту "Вянчання" і класічнай камедыяй дэль-артэ, якая вымагае ад акцёраў адмысловай лёгкасці і майстэрства.

Што ўяўляе з сябе сюжэт спектакля? Мне здалося, што гэта пародыя на шэкспіраўскія жарсці, сучасная інтэрпрэтацыя "Гамлета" ў стылі поп-арт. Гамлет-Генрых не знаходзіць сабе месца ў свеце несапраўдных людзей. Замест жывых асоб дзейнічаюць бяздушныя, безаблічныя лялькі — паралонавая сыравіна, з якой яны зробленыя, яшчэ раз падкрэслівае іх пасіўны, маларухавы характар. У стварэнні такога эфекту вялікую ролю адыгрывае мастацкае вырашэнне Таццяны Нерсісян. Яно сумяшчае ў сабе агрэсіўна-кідкую якасць сучаснага мастацтва, яго гратэскавую карыкатурнасць з наіўна-душэўнай цеплынёй лялечнага тэатра.





Бутафорыя, дэкарацыі, касцюмы часам уражваюць мацней, чым існаванне акцёраў на сцэне. Тое самае адносіцца і да іншых знешніх эфектаў — напрыклад, да цудоўнага светлавога афармлення. У чым плюс рэжысёра, дык гэта ва ўменні стварыць адпаведную атмасферу за кошт розных сцэнічных сродкаў.

У аснове сюжэта — абрад вянчання, і ўсё дзеянне носіць адценне нейкага злавеснага рытуалу з яго магічным гучаннем фатальнай непазбежнасці. Наогул, смелая гульня з сакральным з'яўляецца прыкметай сучаснага мастацтва, што звязана з увагай творцаў да таямніц падсвядомасці. Але гэта далёка не вынаходніцтва. У гэтым прыёме я бачу пераемнасць старажытнай карнавальнай традыцыі, звязанай з парадыйным вянчаннем пераапранутых, якое ладзілася на вяселлі і каляндарныя святы. А В. Гамбровіч апраnuў гэты абрад у тканку сучаснай драматургіі, і замест пароды на царкоўны сакрамент, што ладзілася ў народзе, стварыў пародыю на высокія ўзоры класічнага мастацтва, абярнуўшы іх з ног на галаву. Такім чынам, у мастацтве вызваляецца месца для сцвярджэння новых ідэй. Так павінна быць і ў айчынным тэатры, дзе парасткам новага, аднак, не заўсёды лёгка прабіцца.

Асобна варта засяродзіцца на музычным афармленні спектакля "Вянчанне". Яго аўтарам выступіў элітарны кампазітар Аляксандр Літвіноўскі. Можна сказаць, што музыка тут вырашаная ў постмадэрновай плыні. Гэта не проста інструментальная класіка — гэта алюзія на розныя стылі класічнай музыкі, іх цытаванне. Такі ўзровень творчага мыслення кампазітара нячасты на тэатральнай сцэне. Выкшталцонае музычнае і яскравае мастацкае аздабленне надзвычай узбагацілі ўвасабленне п'есы В. Гамбровіча, надаўшы ёй сэнсавую глыбіню і манументальнае гучанне.

Што новага прынесла "Вянчанне" на беларускую тэатральную прастору? Бясспрэчна, што гэтая прэм'ера пасадзейнічала прасоўванню тэндэнцый г.зв. актуальнага мастацтва. Спектакль правакуе непадрыхтаванага гледача, заблытвае сваёй неадназначнасцю. Хапае тут сродкаў відовішчнасці, нейкіх шакіруючых элементаў — тых прыёмаў, што сучасная культура пераняла са сферы СМІ і рэкламы. Асабліва паказальнымі выглядаюць ключавыя эпізоды, звязаныя з пераапрананнем-расчляненнем нявесты Генрыха. Сілуэт дзяўчыны, падобны да антычнай скульптуры, нібыта ўвасабляе сабой прыгажосць-духоўнасць, збэшчаную сучасным чалавекам, які перараблее яе на ўласны густ і, урэшце, знішчае: у фінале імпрэзы замест чаканага вяселля адбываецца хаўтуры. Задума нібыта гуманістычная: паказаць такім чынам крызіс сучаснага чалавека, яго "страх перад будучым светам, у якім ён стане сам сваім Богам і ўладаром", як гэта здарылася з галоўным героем Генрыхам. Але спектакль не больш як толькі ілюстрацыя такога абсурднага становішча — ніякага выйсця ён не прапаноўвае. Ён сапраўды выяўляе адыход чалавека ад Бога і адыход мастацтва ад Бога, што характэрна для сучаснай культуры ўвогуле, якімі б перадавымі сентэнцыямі гэта ні прыкрывалася. А такім чынам творцы свядома… абмяжоўваюць уласны патэнцыял.

*На здымках: сцэны са спектакля "Вянчанне".*

Анатоль ТРАФІМЧЫК

# Касцюшка на айчыннай сцэне

**Доўгі час беларуская драматургія абмінала тэму касцюшкаўскага паўстання. Аднак апошнім часам гэтая ніша пачала пакрысе запаўняцца. Першай ластаўкай сталася драматычная аповесць Яўгена Хвалея "Рэгіна", прысвечаная інсургентам Касцюшкі. Ды сам ён не фігуруе сярод персанажаў, дзеянне якіх абмежаванае заключным перыядам паўстання, калі яго Начальнік ужо знаходзіўся ў палоне.**

Зінаіда Дудзюк у аднаактовай п'есе, упершыню пастаўленай калектывам народнага тэатра Івацэвіцкага РДК у 2005 годзе, узнімае тэму, якая дагэтуль не асэнсоўвалася беларускімі мастакамі слова, хаця фігуре ў выяўленчым мастацтве і распрацавана ў гістарычнай навуцы, — тэму зняволення Тадэвуша Касцюшкі, у ходзе якога ён азіраецца ў мінулае, спрабуе не толькі асэнсаваць яго, асабліва свае памылкі, але і метафізічна вярнуцца да некаторых момантаў. Агульная палітра яго настрояў гэтага часу характарызуецца словамі "горыч", "смутак", "расчараванне"… Касцюшка паўстае перад намі хворым і зломленым, спустошаным чалавекам. Знаходзячыся ў няволі, яму толькі застаецца вяртацца ў перажытае, прычым вяртанне тое знаходзіцца на мяжы мрояў і галюцынацый.

Касцюшка, значэнне якога для гісторыі глабальнае, пакутуе з таго, што самае галоўнае ў яго жыцці засталося недасягнутым. Ён не хоча лічыцца з тым, што жаданае было недасяжным (ці маглі з'явіцца ноткі нейкага апартунізму пасля такіх гучных падзей, як незалежнасць Амерыкі, у што ён зрабіў канцэптуальны ўнёсак?). А самае галоўнае для ліцвіна — доля Радзімы, якую пры ўсіх сваіх здольнасцях і высілках ён не змог выратаваць ад захопніцкай навалы.

"**Касцюшка.** …Мяне заўсёды не столькі цікавіў мой асабісты лёс, колькі лёс маёй Радзімы. <…> **Павел.** Мы зробім усё для таго, каб пра былое Вялікае княства Літоўскае і памяці не засталося. Гэтыя землі назаўсёды ўвайшлі у склад Расіі. **Касцюшка** (з горыччу). Няхай бы лепш мяне забыліся, толькі б Радзіма мая жыла!"

І яшчэ: пакутуючае ранай на ўсё жыццё засталося разбітае каханне Тадэвуша да Людвікі, без якога асабістае жыццё Касцюшкі для яго самога сапраўды страціла вартасць. У выніку атрымалася экзістэнцыяльная драма, непераўзыдзеная па сваёй глыбіні. З аднаго боку, Касцюшка дасягнуў такіх вышынь, якіх дасягаюць адзінкі. З іншага боку, мары і мэты яго жыцця засталіся марамі і мэтамі. У выніку: ні Радзімы, ні шчасця ў асабістым жыцці. І Зінаіда Дудзюк па магчымасці перадае гэты душэўны драматызм, з якім у вязніцы Касцюшка застаўся сам-насам, адкрываючы нам вобраз чалавека, якога абсалютная большасць ведае толькі з геройчнага боку, часам нават не ўсведамляючы, што за гераізмам, данесеным да нас гісторыкамі і мастакамі, знаходзіцца чалавек — са сваімі слабасцямі і пачуццямі, якія не заўсёды адпавядаюць партрэту міфалагізаванай постаці, пратагін якой нярэдка пакутуе больш, чым прапаліты чалавек, з-за больших выпрабаванняў і драматызму, што выпалі на яго долю. Такім прыкладам, пацверджаным гістарычнай праўдай, з'яўляецца Тадэвуш Касцюшка на астатнім адрэзку свайго жыцця. Тым не менш, знаходзячыся ў роспачы, герой не забывае пра гонар і годнасць, пра Радзіму і суайчыннікаў. Яго дух застаецца нескароным і непадуладным волі ніякіх імператараў, адданым той зямлі, якая і ўзгадавала такую асобу.



Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

# Бібліятэчны сшытак

5 жніўня 2011 г.

# Жывое слова шмат значыць

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Кастуся Дробава

**Гутарка з сынам Якуба Коласа Міхасём Міцкевічам пра далучанасць да літаратуры, пра кнігу, кніжныя зборы і іх уплыў на лёс чалавека нечакана пачалася са згадкі пра яго… тэхнічную адукацыю. Але цікавасць да мастацкага слова, пэўна ж, не вызначаецца прафесіяй. Тым больш калі размова — пра беларускае, нацыянальнае.**

— Я ўсё ж такі па сваёй адукацыі інжынер-механік. І карыстаўся больш бібліятэкай тэхнічнай. Самае галоўнае было — кароткая, аператыўная інфармацыя.

**— Як жа вы знаёміліся з мастацкімі творамі?**

— Першае знаёмства было ў дзяцінстве: маёй настольнаю кнігаю была кніга Паўла Шэйна — пра беларускія народныя казкі, прымаўкі, песні. Гадоў з пяці пачаў яе чытаць. А пасля, праз некалькі год, — Майн Рыда… Мне падаравалі “Прыгоды Тома Соера” Марка Твэна і “Айвенга” Вальтэра Скота. Гадоў з дзесяці я пачаў чытаць тое, што было ў бацькоўскай бібліятэцы: Пушкіна, Лермантава, Чэхава. Хаця, канечне ж, тады не зразумеў гумару Чэхава. Гэтаксама прачытаў Гогаля і спатыкнуўся на “Мёртвых душах”. Мне было проста незразумела! Дома абмяркоўвалі мастацкія творы часта, у тым ліку і “Мёртвыя душы”. І толькі праз шмат гадоў, калі ў 9 класе вывучалі гэты цудоўны твор, я яго прачытаў і тут жа перачытаў другі раз. Да таго ж, пачынаючы з маіх гадоў дзесяці, бацька прывозіў, калі лётавалі, літаратуру з бібліятэкі Саюза пісьменнікаў, па сваім гусце. Можа, нешта мне было і ранавата чытаць. А пасля насталі гады выгнання, эвакуацыі — у такі час не да чытання. Трэба было займацца школай, дапамагаць дома, бо хварэла маці. Пазней, калі пераехалі ў Мінск, бацька прывозіў шмат кніг, вылучаных на атрыманне Сталінскай прэміі. Сярод іх былі выдатныя творы. Хаця і не ўсе.

**— Як па вашаму, што значыць кніга для сучаснага чалавека?**

— Ведаеце, я часта выступаю перад школьнікамі і студэнтамі і кажу ім, што самае важнае для чалавека — чытаць! На вялікі жаль, цяпер моладзь вельмі мала чытае. Па-першае, у кнізе змешчана ўся гісторыя чалавецтва. Усе стасункі, якія адбываюцца паміж людзьмі, там занатаваны. І калі чалавек іх асэнсаваў, то ён ужо не будзе рабіць тых памылак, якія рабілі героі. Па-другое, калі чалавек чытае кнігу, ён атаясамлівае сябе з героем



або гераіняй. І перажывае тыя прыгоды, якія адлюстроўваюцца ў кнізе. Ён павінен бачыць, як мастак-дэкаратар, тыя абставіны, якія апісваюцца ў творы. Калі я чытаў у юнацтве “Сабор Парыжскай Божай Маці” Віктора Гюго, звярнуў увагу на асаблівасць: там настолькі ўсё дэтальна напісана, што ў мяне нават выклікала сумненні: падрабязна і нудна! А вось пасля, калі перачытваў, то ўбачыў, як глыбока і тонка ўсё адлюстравана. Бясспрэчна, трэба мець добрую праграму, што чытаць і для якога ўзросту. На вялікі жаль, у школьных праграмах па літаратуры выкінута шмат таго, што трэба чытаць. І нашых беларускіх пісьменнікаў бракуе. У гэтым рэчышчы пра адну кнігу Янкі Маўра хачу сказаць — “Шлях з цемры”. Гэта твор для юнакоў, каб яны ўявілі сабе, як фарміруецца бачанне свету чалавека, менавіта такім поглядам кніжка вельмі карысная. Яна паказвае, як у групе аднадумцаў фарміраваліся іх адносіны да ўсяго навакольнага. Апісанне станаўлення чалавека вельмі важна! Янка Маўр трохі і крыўдзіўся, што яго кніга “ТВТ” была не так прызнана, як пазней напісаная кніга Гайдара.

**— А ў вашым кнігазборы шмат кніг?**

— Калі лічыць маё і тое, што захоўваецца ў сына, — тысячы чатыры тамоў будзе. Мастацкай літаратуры. Сярод іх і падпісныя выданні таксама — некалі за імі ганяліся. І жонка хадзіла на рынак, дзе прадаваліся кнігі, — пасля вайны было вельмі мала літаратуры, і стараліся сабраць усё ў сваю бібліятэку. Дзеці нашы яшчэ чыталі больш-менш, а вось унукі…

Але я люблю гумар, і калі тут, у Беларусі, была вечарына Ігара Губермана, я ўзяў білеты і сваім унукам таксама. Назаўтра пасля канцэрта ўнук прыбег з пытаннем: “Дзед, а ў цябе ёсць яго кніга? Дай пачытаць!”. Жывое пачутае слова шмат значыць! Асабліва вострае слова.

Любоў да кнігі трэба прывіваць з маленства. І бацькі павінны наглядаць, каб дзеці чыталі, пачынаючы з самых простых народных казак. І памаленьку падцягваць да таго, каб яны маглі ўключыцца ў гэты найбагацейшы свет інфармацыі.

## Віншуем!

# Слаўнае Наднямонне

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

**Дырэктар Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага Лідзія Мальцава ўзнагароджана памятным медалём “10 год падпісання Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы”.**

Гродзенская бібліятэка наладзіла шмат міжнародных праектаў. Што да супрацоўніцтва з Расіяй, то найлепшым чынам яно разгорнута з Паўночна-Заходняй адміністрацыйнай акругай Масквы. Да памятных дзён, калі святкавалася 65-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, супольна з расійскімі сябрамі збіралі звесткі пра воінаў, што загінулі падчас Вялікай Айчыннай вайны на Гродзеншчыне і ў сталіцы Расіі. У Маскоўскай цэнтральнай бібліятэцы № 271 была нават арганізавана Сцяна памяці — выстаўляліся адшуканыя рэліквіі, фотаздымкі. Імёны і фотаздымкі абаронцаў разам з інфармацыйнымі нарысамі пра іх занесеныя ў электронную базу дадзеных і цяпер сабраныя на дыску “Успомні салдата, пакланіся герою”. Беларусамі і расіянамі супольна праводзіцца тэматычныя “круглыя сталы”, наладжаны абмен кнігамі.

Ужо 27 гадоў у Гродзенскай абласной бібліятэцы працуе аб’яднанне “Літаратурны чацвер”, якое прапагандуе творы рускіх і рускамоўных пісьменнікаў.

Сама Лідзія Мальцава ў бібліятэчнай сістэме з 1973 года. Скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум і прыехала ў Гродна працаваць у цэнтральную гарадскую бібліятэку. Затым была загадчыкам дзіцячага філіяла гарадской бібліятэкі, галоўным метадыстам, загадчыкам арганізацыйна-метадычнага аддзела гарадской сеткі публічных бібліятэк, чатыры гады — намеснікам дырэктара, а з 1997 года — дырэктарам Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага.

Лідзія Васільеўна — добры сябра і дзелавы партнёр “ЛіМа” цягам многіх гадоў. Віншуючы з узнагародай, мы зычым дырэктару плённай працы і добрага здароўя на доўгія гады.



***На здымку: дырэктар Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага Лідзія Мальцава.***

## Штрых-код

### Што было

**На працягу ліпеня** ў аддзеле мастацтва Гродзенскай абласной бібліятэкі экспанавалася выстаўка лепшых альбомаў з фонду бібліятэкі пад назвай “Музеі свету”.

Усе жадаючыя змаглі здзейсніць завочную вандроўку ў галерэю Уфіцы, музеі Ватыкана, Нью-Ёрка і Лондана, пазнаёміцца з унікальнымі калекцыямі Аружэйнай палаты, Траццякоўскай галерэі, Эрмітажа і г.д. Мастацкую спадчыну Беларусі раскрывалі альбомы Нацыянальнага мастацкага музея, Музея старажытнабеларускай культуры, Веткаўскага музея народнай творчасці.

**На пачатку жніўня** Плотніцкая сельская бібліятэка Пінскай РЦБС правяла прэс-падарожжа “Наша прэса — на ўсе густы”. Наведвальнікі змаглі азнаёміцца з апошнімі выпускамі перыядычных выданняў, пагартаць найбольш цікавыя старонкі газет і часопісаў.

**У Гродзенскай** абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага адбылася прэзентацыя фотаальбома Аляксандра Ласмінскага “Гродзенская зямля з вышыні птушынага палёту”.

### Што ёсць

**Цэнтральная навуковая** бібліятэка імя Якуба Коласа НАН Беларусі выставіла ў online-доступ бібліяграфічную базу дадзеных «Мовазнаўчая беларусістыка».

База ахоплівае матэрыял з 2004 г. і прэзентуе дадзеныя пра дакументы па асноўных тэарэтычных кірунках сучаснай мовазнаўчай беларусістыкі: фанетыцы, марфалогіі, сінтаксісе, лексікалогіі, анамастыцы, тэрміналогіі, стылістыцы, дыялекталогіі, кагнітыўнай і функцыянальнай лінгвістыцы і інш.

Таксама адлюстраваны дакументы па пытаннях моўнай палітыкі, па гісторыі і сучасным стане беларускай мовы, пра дзейнасць беларускіх мовазнаўцаў і працы навуковых устаноў у галіне беларускага мовазнаўства. Раскрываюцца матэрыялы навуковых канферэнцый.

З інтэрнэт-версіі можна даведацца пра публікацыі, у якіх даследуецца мова беларускіх пісьменнікаў і асобных мастацкіх твораў.

**Гомельская абласная** універсальная бібліятэка імя У. Леніна праводзіць міжнародны прафесійны конкурс бібліятэкараў “Мой Багдановіч”. Да ўдзелу запрашаюцца маладыя бібліятэкары і чытачы Гомельскай, Бранскай і Чарнігаўскай абласцей. Падвядзенне вынікаў планецца ў снежні, да 120-годдзя з дня нараджэння паэта.

**Аддзел літаратуры на замежных мовах** Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага запрашае чытачоў наведаць кніжную выстаўку “Fenomen Miłosza”. Выстаўка прымеркаваная да 100-годдзя з дня нараджэння Чэслава Мілаша.

# Адно вялікае захапленне кнігамі

**Аляксандр СЦЕФАНОВІЧ,**
**загадчык аддзела старадрукаў і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі**

**Нават цяпер, у год, калі ўся літаратурная і культурная супольнасць Беларусі адзначае 120-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча, працягваюцца пошукі адказу на пытанне: якім чынам малады чалавек, які большую частку свайго жыцця пражыў па-за межамі Беларусі, стаў адным з найлепшых майстроў беларускай паэзіі? Часам даводзіцца сустракацца з такім тлумачэннем гэтага феномена: у тым, што Максім з самых маладых гадоў адчуваў любоў да роднага слова, да беларускіх народных традыцый і побыту, немалая заслуга ягонага бацькі — этнографа, фальклярыста, гісторыка культуры Адама Багдановіча.**
**Вядомы айчынны літаратуразнаўца Ю. Пшыркоў адзначаў: "А. Я. Багдановіч заўсёды захоўваў глыбокую цікавасць да беларускай літаратуры і этнаграфіі. Гэта дапамагае зразумець, як у яго сям'і, удалечыні ад роднай глебы, сфармаваўся выдатны беларускі паэт".**

Сапраўды, бацькаў уклад у станаўленне выдатнага паэта нельга адмаўляць. Не адмаўляў яго і сам Максім, які ў адным з лістоў да сябра пісаў: "Мяне выхоўваў бацька. Неяк я паказваў вам яго бібліятэку. У ёй усё ёсць істотнае, што з'явілася калі б там ні было ў літаратуры ўсяго свету. Мы з дзяцінства праходзілі гэтую сусветную школу…" Як бачна з гэтых радкоў, паэт побач з уплывам бацькі адзначае і тую ролю, якую аказала на фарміраванне літаратурнага таленту бібліятэка Адама Багдановіча. Аднаго гэтага дастаткова, каб звярнуцца да гісторыі і складу гэтага багатага кнігазбору. Але найперш варта сказаць колькі слоў пра яго ўладальніка.

Адам Багдановіч нарадзіўся 20 сакавіка 1862 г. у мястэчку Халопенічы Мінскай губерні. Бацька яго, Ягор (Юрый) Лук'янавіч, быў кухарам памешчыка Лапы і пры "вызваленні" ад прыгоннай залежнасці зямельнага надзелу не атрымаў. Сям'я, такім чынам, апынулася ў вельмі цяжкім становішчы, была вымушана пераязджаць на заробкі з месца на месца. Здаралася і так, што ў паслугах кухара ніхто не меў патрэбы. Тады вярталіся ў родныя Халопенічы і тут сяк-так перабіваліся.

Беднасць рана пазбавіла хлопчыка дзяцінства. Пачатак яго працоўнай біяграфіі Ю. Пшыркоў апісаў у сваёй кнізе "А. Я. Багдановіч" (Мінск, 1966): "У сем год Адама прызначылі ў маёнтак, а з дзесяці ён ужо — падзёншчык, атрымліваючы напераменку па 10, 15, 20 і, нарэшце, да 13 гадоў па 25 капеек у дзень".

Падзённая праца мела сезонны характар. Узімку Адам вучыўся ў школе. Пра гады яго навучання Ю. Пшыркоў піша наступнае: "У школе не было дзялення на групы. Кожны вучань іншы ад кнігі да кнігі. Адольваў адну, і яму давалі іншую. Багдановіч вылучаўся сярод навучэнцаў асаблівай стараннасцю і дапытлівасцю, а таму хутка абганяў нават старэйшых вучняў".

Асновай эстэтычнага і маральнага выхавання для Адама Ягоравіча з'явілася сям'я. Маці Анэля і асабліва бабуля Рузэля пазнаёмілі хлопчыка з народным жыццём і народнай творчасцю, адкрылі яму прыгажосць беларускіх песень, казак і легенд. Дзякуючы бацьку і дзядзьку па маці ён набыў глыбокую любоў і павагу да кнігі.

У 1870 г. сям'я Багдановічаў пераязджае ў Мінск. У гэты час асаблівае ўражанне на Адама пакінула кніга К. Ушынскага "Роднае слова". "Родное слово", — успамінаў Багдановіч, — мяне, зразумела, прывяло ў новае захапленне спачатку сваімі малюнкамі, затым прывабным зместам. Колькі казачак, вершыкаў, баек, скорагаворак, жартаў і прымавак! Цэлы дзіцячы свет, поўны і весялосці, і сур'ёзнай цікавасці. Незабыўная кніжка, жамчужына педагагічнай літаратуры, адзіная і нікім не пераўзыдзеная. Яна ўпарадкавала ўсе мае разрозненыя ўражанні і прывяла іх у строгую сістэму".

Увосень 1879 г. А. Багдановіч паспяхова вытрымаў экзамен у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. З ліку найбольш здольных і актыўных семінарыстаў Адам Багдановіч арганізаваў гуртток самаадукацыі. Па вечарах у коле таварышаў чыталіся творы класікаў рускай і замежнай літаратуры, якія часта выходзілі за межы праграмных патрабаванняў.

"Семінарская бібліятэка, — згадваў Багдановіч, — давала шмат кніг для мяне новых: і па белетрыстыцы, і навуковых, я іх старанна чытаў, як і кнігі, якія знаходзіў у выкладчыкаў, накшталт твораў Шэкспіра, Гётэ, Шылера, Байрана, Гейне, якіх не было ў семінарскай бібліятэцы. Якраз у гэты час малады прадпрымальны габрэй адкрыў у Нясвіжы букіністычную краму, якая служыла бібліятэкай для чытання. Гэта зрабіла разнастайным склад даступнай літаратуры, а да таго ж у яго ў кватэры пры той жа краме былі кнігі з ліку канфіскаваных са школьных і публічных бібліятэк, як сачыненні Чарнышэўскага, Дабралюбава, Пісарава, Шчалгунова, якія ён выдаваў "з-пад крыса" людзям надзейным, у тым ліку і мне".

Нарэшце вясной 1882 г. А. Багдановіч паспяхова здаў выпускныя іспыты і атрымаў правы выкладаць у пачатковай школе. У гэты час кола яго інтарэсаў было шырокім і рознабаковым. Просты народны настаўнік, пазней радавы банкаўскі службовец, ён самастойна вывучаў нямецкую, французскую, польскую, лацінскую, грэчаскую і старажытнаяўрэйскую мовы, займаўся грамадскай дзейнасцю і праводзіў навуковыя даследаванні. У перыядычных выданнях Мінска і Гродна, а пасля Ніжняга Ноўгарада і Яраслаўля друкаваліся яго артыкулы па гісторыі і этнаграфіі, народнай асвеце і зямельным пытанні, артыкулы пра навінкі сучаснай рускай і заходнееўрапейскай мастацкай літаратуры, рэцэнзіі на літаратурныя творы і тэатральныя пастаноўкі, а таксама нататкі на самыя розныя тэмы.

З дзіцячых гадоў Багдановіч быў неразлучны з кнігай, і, пачаўшы самастойна працаваць, стаў частку грошай з заробку выдзяляць на набыццё кніг для асабістай бібліятэкі, якая вельмі хутка папаўнялася. Як адзначае даследчык жыцця А. Багдановіча, супрацоўніца ЦНБ НАН Беларусі Н. Яфімава, "можна з пэўнасцю сцвярджаць, што да 1896 года, г.зн. да часу пераезду Багдановіча з сям'ёй у Ніжні Ноўгарад, ён меў вялікую і багатую каштоўнымі выданнямі бібліятэку. Сведчанняў гэтаму нямала ў мемуарных нататках Адама Ягоравіча".

Бібліятэка адыграла ролю і ў знаёмстве і ўсталяванні адносін паміж яе ўладальнікам і Максімам Горкім. Багдановіч ва ўспамінах згадваў, што адразу знайсці агульную мову ім дапамагло адно вялікае захапленне кнігамі, магчымасць абменьвацца думкамі па розных літаратурных пытаннях.

Пра кнігазбор Багдановіча пісаў у сваіх успамінах яраслаўскі знаёмы Максіма




Багдановіча А. Залатароў, які назваў бібліятэку цудоўнай: "Яна сярод вельмі каштоўных яраслаўскіх прыватных бібліятэк адрознівалася сваім выключна каштоўным адборам кніг".

Першы кнігазбор, пра які казаў А. Залатароў і з якім быў знаёмы Максім Горкі, не захаваўся. Ён згарэў у Яраслаўлі ў 1918 годзе ў выніку пажару падчас грамадзянскай вайны. Бібліятэка, якая збіралася на працягу 30 гадоў, знікла за лічаныя гадзіны.

У наш час кнігазбор Адама Багдановіча захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай


ПѢСНИ
собранныя
П. Н. Рыбниковымъ.
Изданіе второе
подъ редакціей
А. Е. Грузинскаго.
Въ трехъ томахъ.
Съ портретомъ, біографіей и указателемъ.
ТОМЪ ВТОРОЙ.
Изданіе фирмы „Сотрудникъ Школъ".
Москва
Библиотека Академии Наук БССР

бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Ён уяўляе сабой новую калекцыю, якая была сабрана пасля згаданага пажару; па сутнасці, гэта другая бібліятэка А. Багдановіча. Гэты прыватнаўласніцкі кнігазбор, які налічвае 2 121 адзінку захоўвання, быў перададзены ў бібліятэку ў 1957 годзе. Тэматыка ацалелай кніжнай калекцыі А. Багдановіча, якая дапамагала яму на працягу апошніх гадоў жыцця, а таксама ў навуковай і асветніцкай дзейнасці, надзвычай разнастайная і шматбаковая. Яна ахоплівае самыя розныя сферы чалавечай дзейнасці і ўключае кнігі па гісторыі, правазнаўстве, мастацтве, тэасофіі, мовазнаўстве, філасофіі, псіхалогіі, педагогіцы, эканоміцы, фізіцы, медыцыне, хіміі, матэматыцы, а таксама літаратуру ўніверсальнага зместу і мастацкую літаратуру.

> *"Пра кнігазбор Багдановіча пісаў у сваіх успамінах яраслаўскі знаёмы Максіма Багдановіча А. Залатароў, які назваў бібліятэку цудоўнай: "Яна сярод вельмі каштоўных яраслаўскіх прыватных бібліятэк адрознівалася сваім выключна каштоўным адборам кніг".*

І бясспрэчна, Адам Багдановіч як вядомы беларускі этнограф, фалькларыст і лінгвіст меў у сваёй кніжнай калекцыі шмат кніг, якія адпавядалі колу яго навуковых інтарэсаў. Трэба адзначыць, што частка кніг з гэтай калекцыі пад умоўнай назвай "беларусіка" (кнігі па гісторыі і культуры Беларусі, зборнікі паэзіі або прозы беларускіх пісьменнікаў) была для яго не толькі напамінам пра далёкую радзіму, але і памяццю пра сына Максіма, бо першая згарэлая бібліятэка па беларусіцы лічылася ў сям'і бібліятэкай Максіма.

З кніг па гісторыі Беларусі цікавасць уяўляюць наступныя выданні: "Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквей и по разным предметам" (Мінск, 1848), "Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае" (Вільня, 1866), "Воспоминания о Белоруссии" І. Захар'іна (Пб., 1884), "Очерк археологических памятников на пространстве Минской губернии и ее археологическое значение" Г. Татура (Мінск, 1892) і інш.

Асаблівую навуковую і культурную каштоўнасць для даследчыкаў уяўляюць кнігі па беларускім літаратуразнаўстве і мовазнаўстве, мастацкія творы беларускіх пісьменнікаў. Сярод іх — "Нарысы па гісторыі і беларускай літаратуры. Старадаўны перыяд" М. Янчука (Мінск, 1922), "Беларуская граматыка для школ" Б. Тарашкевіча (Мінск — Вільня — Берлін, 1921), "Вязанка" Я. Лучыны (Пб., 1903), "Курганная кветка" К. Буйло (Вільня, 1914), "Антон: Абразы жыцця" М. Гарэцкага (Вільня, 1919), "Пад родным небам" З. Бядулі (Мінск, 1922), "Спадчына" Янкі Купалы (Мінск, 1922). Уваходзіць у калекцыю і экзэмпляр "Новай зямлі" Якуба Коласа (Мінск, 1923), на якім можна ўбачыць такі дароўны надпіс: "Адаму Юр'евічу Багдановічу на добрую памяць ад аўтара. Мінск, 4/VI 1923".

Захоўваюцца ў бібліятэцы А. Багдановіча і кнігі яго сына-паэта, у прыватнасці, выдадзены ў 1927—1928 гг. намаганнямі Інбелкульта збор твораў у 2 тамах. Цікава, што да гэтага выдання меў пэўнае дачыненне і сам Адам Ягоравіч. Як сцвярджае Н. Яфімава, у чэрвені 1923 г. Багдановіч наведаў Мінск "пасля шматгадовай адсутнасці з тым, каб перадаць Інбелкульту архіў Максіма, выратаваны ім падчас пажару. Архіў уключаў некалькі дзясяткаў вершаў Максіма Багдановіча апошняга перыяду жыцця, тады нідзе не надрукаваных, чарнавікі амаль усіх яго вершаў і іншых твораў, лісты, фатаграфіі і іншыя дакументы". Архіў гэты, а таксама "Матэрыялы да біяграфіі Максіма Багдановіча", напісаныя Адамам Ягоравічам па просьбе выдавецкай камісіі Інбелкульта, і паслужылі падставай выхаду ў свет згаданага двухтомніка.

Кнігазбор А. Багдановіча багаты на кніжныя рэдкасці. У калекцыі ёсць выданні XVIII — першай чвэрці XIX ст.

Кніг XVIII ст. усяго дзве: адзін з першых расійскіх міфалагічных слоўнікаў "Храм древности, содержащий в себе египетских, греческих и римских богов имена, родословие, празднества и бывшие при них обряды…" (2-е выданне, М., 1784) і першы пераклад на рускую мову баек Федра, выкананы Іванам Барковым — "Федра, Августина отпущенника, Нравоучительные басни, с Езопова образа сочиненные, а с латинских, российскими стихами преложенные…" (2-е выданне, Пб., 1787).

Сярод выданняў XIX ст. выклікаюць цікавасць "Письменник, содержащий в себе науку российского языка со многим присовокуплением разного учебного и полезнозабавного вещесловия" (Пб., 1803) і ранні зборнік вершаў Сапфо (Пб., 1808).

Кніжная калекцыя А. Багдановіча ўключае многія прыжыццёвыя выданні рускіх паэтаў і пісьменнікаў XIX ст., такія, як "Подражание и переводы из греческих и латинских стихотворцев" А. Мерзлякова (М., 1825), "Сочинения" У. Адоеўскага (Пб., 1844), зборнік паэтычных твораў Т. Шаўчэнкі "Кобзарь", кніга Д. Мінаева "Разорённое гнездо (Спетая песнь)" (Пб., 1876), "Сочинения" У. Крастоўскага і гд. Меў Багдановіч і першы зборнік вершаў М. Агарова, які выйшаў у Расіі (Масква, 1856). Пазней ён быў двойчы перавыдадзены (у 1859 і 1863 гадах), другое перавыданне таксама прысутнічае ў калекцыі.

Пра ролю кніг у жыцці А. Багдановіча лепш за самога збіральніка не скажаш: "З кнігай я працаваў бесперапынна ўсё сваё жыццё, пры разнастайных абставінах, часам надзвычай цяжкіх, — працаваў і вучыўся, а адначасова і вучыў іншых". Сёння застаецца толькі падзякаваць Адаму Ягоравічу за гэтую працу, за пакінутыя нашчадкам багаты асабісты кнігазбор і за тое, што сярод тых, каго ён вучыў працаваць з кнігай, быў яго славуты сын — Максім Багдановіч.

***На здымках: кнігі з калекцыі Адама Багдановіча.***

Максім ЛАДЫМЕРАЎ




**На гэтым тыдні ў Еўрапейскай зале бібліятэкі Кангрэса ЗША адбылася прэзентацыя беларускай кнігі. Мінскае выдавецтва “Тэхналогія” адправіла за акіян чарговы том з аўтарскай серыі Уладзіміра Ліхадзедава “У пошуках страчанага” — “Тадэвуш Касцюшка на старых паштоўках і ў графіцы”. Варта заўважыць, што да справы выдання рэпрадукцый філакартычных збораў слыннага беларускага калекцыянера ў свой час спрычыніліся і іншыя выдавецтвы — “Рифтур”, “Літаратура і Мастацтва”. У прыватнасці, кнігі РВУ “ЛіМ” “У пошуках страчанага” і “Знічкі Айчыны” знаходзяцца ў зборах бібліятэкі Кангрэса ЗША ў Вашынгтоне.**

# Паштоўка зближае кантыненты

Што ж прыцягнула ўвагу славутай бібліятэкі да новага выдання “Тэхналогіі” і Уладзіміра Ліхадзедава? Дарэчы, у зборах амерыканскай скарбніцы кнігі ёсць і іншыя тамы, што прадстаўляюць паштоўкі мінскага збіральніка — “У пошуках страчанага”, “Знічкі Айчыны”, “Мінск: падарожжа ў часе”.

Адказам жа на пытанне могуць служыць і словы вядомага палітычнага дзеяча Збігнева Бжэзінскага, якія змешчаны на вокладцы філакартычнай кнігі пра Тадэвуша Касцюшку: “Цікавым падаецца пазнаваўчы і інфармацыйна насычаны агляд пра дзіўнага героя двух народаў — палякаў і беларусаў, які змагаўся не толькі за іх свабоду, але і за свабоду амерыканцаў. Адданасць Касцюшкі правам чалавека, сацыяльнай справядлівасці і нацыянальнай незалежнасці з’яўляецца сведчаннем яго гістарычнай велічы”.

Вытокі фарміравання асобы Тадэвуша Касцюшкі — у Беларусі, у фальварку Марачоўшчына, Берасцейскім павеце Вялікага Княства Літоўскага. Гэта паблізу Косава (дакладней, цяпер ужо ў самім Косаве) Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Тут і нарадзіўся будучы герой, будучы генерал арміі ЗША і Рэчы Паспалітай, на пачатку 1746 года (або напрыканцы 1745-га). 12 лютага яго хрысцілі ў касцёле мястэчка Косава. Пасля вучобы ў школе манаскага ордэна піяраў у мястэчку Любешаў (інакш Новы Дольск) Пінскага павета Андрэй Тадэвуш Бенавентура Касцюшка некаторы час жыў у радавым маёнтку. А з 1765-га па 1769 год вучыўся ў Варшаве ў рыцарскай школе. Наш суродзіч, якога вызначалі аскетызм, воля і мэтанакіраванасць, стаў адным з самых паспяховых кадэтаў. Выбраўшы ваенна-інжынерную спецыялізацыю, Касцюшка скончыў школу ў чыне капітана. Да 1770 года ён служыў у навучальнай установе выкладчыкам. Пасля, атрымаўшы каралеўскую стыпендыю, паехаў па вайсковую адукацыю ў Парыж. У прыватнасці, вывучаў фартыфікацыю французскага горада Брэст. У 1774 годзе вярнуўся ў Рэч Паспалітую. Але па нейкіх прычынах месца таленавітаму афіцэру ў войску Рэчы Паспалітай не знайшлося.

Касцюшка пакідае радзіму, едзе ў Гданьск, затым у Францыю, Парыж. У 1776 годзе з Гаўра ён адплывае ў Амерыку, каб змагацца за незалежнасць паўночнаамерыканскіх калоній Англіі. Спачатку служыць як валанцёр, а ў кастрычніку 1776-га Кангрэс ЗША залічвае яго ў армію ў чыне палкоўніка. Адно з першых заданняў, якое паспяхова выканаў Касцюшка, — умацаванне Філадэльфіі, дзе ў той час знаходзіўся Кангрэс. Затым — стварэнне сістэмы ўмацаванняў на берагах ракі Дэлавэр, каб адхіліць магчымасць праходу брытанскіх войскаў. У выніку быў пабудаваны форт Білінгспорт. Увесну наступнага года Касцюшку накіравалі ў Паўночную Армію ў падначаленне генерала Гарацыа Гейтса. Палкоўнік на пасадзе вайсковага інжынера займаўся фартыфікацыяй гарадоў і вайсковых лагераў. Пабудаваў Касцюшка і форт Саратогі, што дазволіла амерыканскай арміі перагрупаваць свае сілы, а пасля атрымаць рашаючую перамогу над брытанскімі войскамі. У 1783 годзе Кангрэс ЗША надаў нашаму суайчынніку званне брыгаднага генерала. Ён быў узнагароджаны ордэнам Цынцыната, атрымаў амерыканскае грамадзянства, пажыццёвую пенсію і зямлю (каля 250 гектараў) у штаце Агаё. Але няўрымслівая душа клікала дадому... Наперадзе ў Касцюшкі — генеральская служба ў Рэчы Паспалітай, арганізацыя і кіраўніцтва паўстаннем 1794 года...








Што ж могуць расказаць паштоўкі пра час і Касцюшку, калі само з’яўленне паштоўкі адносіцца да канца ХІХ стагоддзя? Перш чым адказаць на гэтае пытанне, перагарніце старонкі альбома Уладзіміра Ліхадзедава, дзе прадстаўлены ілюстрацыйны матэрыял толькі з яго ўласнай калекцыі. Кніга складаецца з наступных раздзелаў — “Жыццяпіс героя”, “Шлях у жыццё”, “Пачатак змагання”, “Зноў на Бацькаўшчыне”, “На чале паўстання”, “Слава пераможаным”, “У памяці нашчадкаў”. Выявы падабраны такім чынам, што чытач атрымлівае магчымасць прайсці шляхам свайго героя, пабываць у мясцінах, звязаных з імем Тадэвуша Касцюшкі. Аб’ездзіўшы многія гарады Еўропы, Уладзімір Ліхадзедаў знайшоў тыя паштоўкі канца ХІХ — пачатку ХХ стагоддзя, што набліжаюць нас да часу Касцюшкі. Мы ходзім касцюшкаўскімі вулачкамі Варшавы, Кракава, Парыжа, амерыканскіх гарадоў. На многіх паштоўках, якія, відавочна, знаходзяцца ў Беларусі ў адным экзэмпляры, — рэпрадукцыі графічных работ, звязаных са славутым суродзічам. Цікавымі знаходкамі калекцыянера можна лічыць паштоўкі з выявамі Вашынгтона, Джэферсана і Касцюшкі (канец ХІХ стагоддзя), Касцюшкі, Вашынгтона і Пуласкага (паштоўка 1932 года), патрыятычную паштоўку пачатку ХХ стагоддзя. Іх можна разглядаць гадзінамі.

> *Словы вядомага палітычнага дзеяча Збігнева Бжэзінскага змешчаны на вокладцы філакартычнай кнігі пра Тадэвуша Касцюшку: “Цікавым падаецца пазнаваўчы і інфармацыйна насычаны агляд пра дзіўнага героя двух народаў — палякаў і беларусаў, які змагаўся не толькі за іх свабоду, але і за свабоду амерыканцаў. Адданасць Касцюшкі правам чалавека, сацыяльнай справядлівасці і нацыянальнай незалежнасці з’яўляецца сведчаннем яго гістарычнай велічы”.*

Не меншую цікавасць у чытачоў, захопленых вывучэннем гісторыі нашай Айчыны, выклічуць паштоўкі, што адрасуюць да Марачоўшчыны, дзе нарадзіўся будучы баль... будаўнік ваенных умацаванняў, Косава, Любешава, дзе ён вучыўся (цяпер гэта Украіна)... Віртуальнае падарожжа мясцінамі Тадэвуша Касцюшкі вядзе нас і да згаданых амерыканскіх фартоў, што будаваліся пад кіраўніцтвам ураджэнца Беларусі. Пэўна ж, на выявах канца ХІХ — пачатку ХХ стагоддзя яны мала чым адрозніваюцца ад таго часу, калі фартыфікацыямі апекаваўся амерыканскі палкоўнік Касцюшка. Праўда, ужо праз сто гадоў пасля яго руплівасці частка форта Тыкандэрога ператварылася ў руіны. Але там нават і цяпер ёсць на што паглядзець. Дзейнічае і музей у форце Тыкандэрога, дзе дастаткова месца адведзена і памяці пра нашага земляка. Уражваюць паштоўкі, якія знаёмяць з помнікамі Касцюшку ў Чыкага і Мілўокі, дзе, дарэчы, ёсць парк імя славутага военачальніка.

> *Гісторыка-краязнаўчы, калекцыянерскі пошук Уладзіміра Ліхадзедава звязаны з многімі адкрыццямі. Што мы, напрыклад, ведаем пра помнікі Касцюшку ў Баранавічах ці Кобрыне? Колькі вуліц, названых у гонар генерала і паўстанца, было ў 1920—1930-я гады ў Беларусі, Польшчы, ва Украіне? Як ушаноўваюць цяпер памяць пра Тадэвуша Касцюшку ў швейцарскім Салюры, дзе закончыўся зямны шлях славутага сына зямлі беларускай?..*

Гісторыка-краязнаўчы, калекцыянерскі пошук Уладзіміра Аляксеевіча звязаны з многімі адкрыццямі. Што мы, напрыклад, ведаем пра помнікі Касцюшку ў Баранавічах ці Кобрыне? Колькі вуліц, названых у гонар генерала і паўстанца, было ў 1920—1930-я гады ў Беларусі, Польшчы, ва Украіне? Як ушаноўваюць цяпер памяць пра Тадэвуша Касцюшку ў швейцарскім Салюры, дзе закончыўся зямны шлях славутага сына зямлі беларускай?.. Пытанні, якія ўздымае і на многія з якіх адказвае сваёй унікальнай кнігай мінскі калекцыянер, абуджаюць гістарычную памяць, пашыраюць прастору нацыянальнай культуры і асветніцтва.

З кніг серыі “У пошуках страчанага” (а іх ужо, пачынаючы з 2006 года, выдадзена 11!) сёння можна скласці сапраўдную бібліятэку. Выдадзеныя немалымі для такой літаратуры тыражамі (напрыклад, “У пошуках страчанага”, “Знічкі Айчыны” — па 3000 асобнікаў), яны вядомыя далёка за межамі Беларусі. Сам Уладзімір Ліхадзедаў адзначаны медалём “За вялікі ўклад у развіццё калекцыйнай справы ў Расіі”. З’яўляецца калекцыянер і краязнаўца лаўрэатам прэміі Беларускага саюза журналістаў “Залатое пяро”. Дзякуючы ініцыятыве У. Ліхадзедава ў Мінску двойчы праводзіліся міжнародныя канферэнцыі, прысвечаныя філакартыі, ролі паштовак у вывучэнні гісторыі. А ў многіх гарадах, паселішчах Беларусі створаны пастаянна дзеючыя экспазіцыі рэпрадукцый з паштовак з калекцыі Уладзіміра Аляксеевіча: Полацку, Глыбокім, Мар’інай Горцы, Жыровічах... Грамадская руплівасць знакамітага калекцыянера, нашага сучасніка, для якога словы пра вартасці гістарычнай адукацыі не з’яўляюцца пустым гукам, заслугоўваюць самай высокай адзнакі і пашаны.

***На здымках: паштоўкі з альбома — Вашынгтон, Джэферсан і Касцюшка; цар Павел І наведвае Касцюшку ў турме; помнік Касцюшку ў майстэрні скульптара ў Чыкага.***

# Шчасце быць чытачом

Людміла ЗАХАРЭВІЧ,
метадыст Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева

**Ідэя стварэння імідж-праекта "Далучыць да роднага слова" ўзнікла на Барысаўшчыне яшчэ ў снежні 2009 года. Пры яго распрацоўцы быў зроблены SWOT-аналіз жыццяздольнасці і вызначаны задачы, якія праект павінен вырашыць. Галоўныя з іх: уводзіць дзяцей у свет сучаснай беларускай мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры, абуджаць цікавасць да чытання кніг беларускамоўных аўтараў і, што немалаважна, актывізаваць дзейнасць бібліятэкараў па працы з беларускай кнігай.**

Вынікі дзейнасці па ўкараненні праекта на працягу 2010-га і ў першай палове 2011 гадоў сведчаць: далучэнне дзяцей і падлеткаў да чытання на роднай мове магчыма, але на самай справе пачынаць трэба з сябе, таму што нельга прымусіць іншых палюбіць і зразумець тое, чаго сам не разумееш і не любіш. І хоць лічбавыя паказчыкі выдачы беларускамоўнай літаратуры для дзяцей за першае паўгоддзе 2011 года павялічыліся ўсяго на 2600 экз., тым не менш адчуваецца большая цікавасць да творчасці сучасных беларускіх аўтараў. Маніторынг чытання беларускіх дзіцячых кніг сведчыць пра тое, што найбольшым попытам у дзяцей карыстаюцца творы Р. Баравіковай, М. Пазнякова, У. Мазго, У. Ягоўдзіка, А. Масла, кнігі серыі "Казкі XXI стагоддзя", беларускія народныя казкі. З навукова-папулярнай літаратуры — кнігі "Расліны", "Рыбы", "Малая дзіцячая Чырвоная кніга", зборнік фальклору "Чароўны свет".

У 2010 годзе ў кірмашы творчых ідэй "Падзяліся поспехам сваім" прынялі ўдзел 38 бібліятэк горада і раёна. Кожная з іх падрыхтавала мерапрыемства, прысвечанае творчасці дзіцячых пісьменнікаў. Найбольш адметнымі можна лічыць прэзентацыю кнігі "Крылатая дружына, або Птушкі ў беларускім фальклоры" (гарадская б-ка № 3), "Парад літаратурных герояў" (інтэграваная б-ка в. Хаўхоліца), "Запаведная крыніца непазнанага жыцця" (сельская б-ка в. Зорычы), "Зорка Венера ўзышла над зямлёю" (гарадская б-ка № 6). У Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы падчас тэлепраекта "Час чытаць. Калядныя гісторыі" ўдзельнікі даволі ўдала інсцэніравалі творы сучаснай казачніцы Алены Масла.

На працягу года ў аддзеле маркетынгу створаны банк дадзеных, які ўключае рэкламныя лістоўкі па творах беларускіх пісьменнікаў: "Я — кніжка цікавая". Ім можа карыстацца кожны супрацоўнік сеткі бібліятэк Барысаўскага рэгіёна.

Сустрэчы з пісьменнікамі з'яўляюцца найбольш дзейснай формай папулярызацыі іх творчасці. Для школьнікаў Барысаўшчыны былі арганізаваны творчыя сустрэчы з пісьменнікамі А. Масла і У. Ліпскім, пісьменнікам-земляком В. Гігевічам.

2011 год адзначаны 100-гадовым юбілеем беларускага пісьменніка, казачніка, заснавальніка дзіцячага часопіса "Вясёлка" Васіля Віткі. У бібліятэках Барысаўшчыны, у рамках праекта "Далучыць да роднага слова", на працягу года праходзіць фестываль "Вясёлкавы карагод", прысвечаны юбілею слыннага дзіцячага Казачніка, які вучыў шчыра любіць сваю Айчыну і сваю мову. У межах фестывалю ў бібліятэках ладзяцца літаратурна-музычныя імпрэзы, літаратурныя турніры, паэтычныя святы, прысвечаныя творчасці Васіля Віткі, а таксама творчасці сённяшніх вясёлкаўцаў: У. Ліпскага, М. Маляўкі, А. Зэкава, М. Чарняўскага і іншых пісьменнікаў, што пішуць для дзяцей.

Цудоўнае літаратурнае свята адбылося ў гарадской дзіцячай бібліятэцы № 3 пад назвай "І не знікаць паэтам вечна, у вечнай песні жывучы…", апагеем якога стаў конкурсбаль "Міс Вясёлка", дзе дванаццаць дзяўчынак прадстаўлялі 12 месяцаў года: чыталі вершы на роднай мове, спявалі і нават танцавалі. Не менш цікавае мерапрыемства — літаратурна-музычная кампазіцыя "Чарадзейная краіна Васіля Віткі" — адбылося ў сельскай бібліятэцы в. Чарневічы і шэрагу іншых сельскіх бібліятэк. У Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы імя А. Гайдара, падчас штогодняй акцыі "Шчасце быць чытачом" першакласнікаў, якія ўрачыста прысвячаліся ў чытачы бібліятэкі, віталі разам з іншымі літаратурнымі героямі Вася Вясёлкін. У перспектывах далейшай рэалізацыі праекта — актыўны ўдзел у рэспубліканскай акцыі "Чытаем па-беларуску", стварэнне віртуальных кніжных выставак у рамках раённага прафесійнага конкурсу "Кніжная выстаўка — візітная картка бібліятэкі" і, самае галоўнае, сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі.

## Зачытаныя кнігі

**Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага вядома чытачам "ЛіМа" найперш як скарбніца, у якой выразна акрэслены краязнаўчы кірунак. Гэта хоць і досыць важкая, але не адзіная галіна дзейнасці. У бібліятэцы запатрабаваная самая розная літаратура.**

### Аддзел краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі

1. Брест на перекрестке дорог и эпох / А. М. Суворов. — Брест: Полиграфика, 2009.
2. Літаратурная карта Берасцейшчыны. — Брэст: Брэсцкая друкарня, 2008.
3. В. Мороз. От Берестья до Бреста из века в век / В. Мороз, В. Ежелов. — Брест: Лавров, 2003.
4. Л. М. Несцярчук. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). — Мінск: БЕЛТА, 2002.
5. А. Т. Федорук. Старинные усадьбы Берестейщины. — Минск: Белорусская энциклопедия, 2004.
6. Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego... — Warszawa, 1880.

### Чытальная зала гуманітарных навук

*Кнігі беларускіх выдавецтваў*

1. Гісторыя Беларусі: у 6 т. / рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) і інш. — Мінск: Экаперспектыва, 2000—2011.
2. Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т. / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы. — Мінск: Беларуская навука, 1999—2003.
3. На земле Беларуси: Канун и начало войны: боевые действия советских войск в начальном периоде Великой Отечественной войны / В. В. Абатуров и др. — Минск: БЕЛТА, 2006.
4. Основы идеологии белорусского государства / ред. С. Н. Князев, С. В. Решетников. — Минск: Академия управления при Президенте Республики Беларусь, 2004.
5. Р. С. Немов. Психология: в 3 кн. Кн. 1. Основы общей психологии. — Москва: Владос, 1995.

### Аддзел хатняга абанемента і МБА

*Беларускія аўтары*

1. Н. Н. Батракова. Территория души. — Минск: Кавалер, 2007.
2. Н. Н. Батракова. Площадь Согласия. — Минск: Кавалер, 2008.
3. Т. Г. Лисицкая. Идиотки. — Минск: Регистр, 2010.

*Расійскія аўтары*

1. А. Б. Маринина. Взгляд из вечности. — Москва: ЭКСМО, 2010.
2. Д. И. Рубина. Белая голубка Кордовы. — Москва: ЭКСМО, 2009.
3. Д. И. Рубина. На солнечной стороне улицы. — Москва: ЭКСМО, 2006.
4. Д. И. Рубина. Синдром Петрушки. — Москва: ЭКСМО, 2010.
5. Л. Е. Улицкая. Зелёный шатёр. — Москва: ЭКСМО, 2011.

*Замежныя аўтары*

1. Д. Браун. Утраченный символ. — Москва: АСТ, 2010.
2. Я. Л. Вишневский. Одиночество в сети. — Санкт-Петербург: Азбука-классика, 2011.
3. А. Гавальда. Глоток свободы. — Москва: АСТ, 2010.
4. Э. Гилберт. Есть, молиться, любить. — Москва: РИПОЛ классик, 2011.
5. П. Коэльо. Одиннадцать минут. — Москва: АСТ, 2008.

### Аддзел літаратуры для дзяцей і юнацтва

*Рэйтынг кніг беларускіх аўтараў для дзяцей і падлеткаў*

1. А. М. Бадак. Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2008.
2. А. С. Масла. Першая Прыгажуня. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010.
3. Л. І. Рублеўская. Прыгоды мышкі Пік-Пік. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2008.
4. А. М. Федарэнка. Шчарбаты талер. — Мінск: Юнацтва, 1999.
5. Я. І. Хвалей. Прынцэса тусоўкі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2008.

*Рэйтынг кніг для дзяцей малодшага школьнага ўзросту*

1. Б. Джейкс. Клятва воина. — Санкт-Петербург: Азбука-классика, 2007.
2. Т. Ш. Крюкова. Ровно в полночь по картонным часам. — Москва: Аквилегия-М, 2005.
3. Е. Матюшкина. Носки врозь! / Е. Матюшкина, Е. Оковитая. — Санкт-Петербург: Азбука-классика, 2005.
4. К. Матюшкина. Ага, влипли! Влипсики и Древесный призрак. — Москва: Астрель, 2008.
5. Э. Н. Успенский. Всё Простоквашино. — Москва: АСТ, 2002.

*Рэйтынг кніг для дзяцей сярэдняга і старшага школьнага ўзросту*

1. Д. А. Емец. Мефодий Буслаев. Третий всадник мрака. — Москва: ЭКСМО, 2005.
2. Д. А. Емец. Таня Гроттер и магический контрабас. — Москва: ЭКСМО, 2003.
3. С. Майер. Сумерки. — Москва: АСТ, 2009.
4. Д. К. Роулинг. Гарри Поттер и философский камень. — Москва: Росмэн, 2005.
5. М. Фрай. Наваждения. — Санкт-Петербург: Амфора, 2007.

## Штрых-код

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

### Што будзе

**11 жніўня** Клімавіцкая дзіцячая бібліятэка запрашае ў віртуальнае падарожжа "Па вуліцах роднага горада", прысвечанае 430-годдзю г. Клімавічы.

**На 12 жніўня** ў Асіповіцкай цэнтральнай бібліятэцы запланаваны Дзень беларускай кнігі "У свеце сучаснай беларускай прозы".

**13 жніўня** адбудзецца гадзіна цікавага чытання "Беларуская кніга — духоўнае святло дзецям" у Дайлідскай сельскай бібліятэцы Іўеўскай ЦБС. Мерапрыемства зацікавіць дзіцячага чытача творамі беларускіх пісьменнікаў Міхася Пазнякова, Міколы Чарняўскага, Уладзіміра Ягоўдзіка, Алены Масла.

**14 жніўня** ў Дэмбраўскай сельскай бібліятэцы Шчучынскай ЦБС пройдзе конкурс чытання "Кніжная мазаіка лета 2011 года". Будуць названы самыя папулярныя кнігі, а таксама імёны лепшых чытачоў.

**16 жніўня** Лідская раённая дзіцячая бібліятэка праводзіць прэзентацыю "Пішуць у часопісе і газеце пра ўсё на свеце". Малодшыя чытачы адправяцца ў падарожжа па старонках беларускіх часопісаў "Вясёлка", "Бярозка", "Лесавік", "Рюкзачок", расійскіх — "Мурзилка", "Ералаш", "Микки Маус", "Дисней", "Тошка и компания" і інш. Падлеткаў зацікавяць газеты "Переходный возраст", "Юный спасатель"; часопісы "Ухтышка", "Мир компьютеров", "Принцесса", "Чудеса и тайны" і інш.

**18 жніўня** ў Чарэйскай сельскай бібліятэцы Чашніцкай сеткі бібліятэк адбудзецца прэзентацыя кнігі пісьменніка А. Марціновіча "Споведзь старых замкаў".

**19 жніўня** наведвальнікі Раклевіцкай сельскай бібліятэкі Дзятлаўскай ЦБС стануць удзельнікамі літаратурнай гадзіны "Падарожжа па краіне беларусаў", прымеркаванай да 110-годдзя з дня нараджэння В. Вольскага.

**22 жніўня** ў Навагрудскай цэнтральнай бібліятэцы пройдзе гадзіна "Бацька беларускага тэатра", якая прысвячаецца 150-годдзю з дня нараджэння І. Буйніцкага, жыццё якога непасрэдна звязана з Навагрудчынай.

**23 жніўня** Пальмінская сельская бібліятэка Гарадоцкай сістэмы бібліятэк запрашае да тэатральнага знаёмства "Заснавальнік беларускага тэатра", прысвечанага юбілею І. Буйніцкага.

**З 23 жніўня па 8 верасня** ў Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна будзе працаваць тэматычная выстаўка, прымеркаваная да Дня беларускага пісьменства — "Люблю цябе, Белая Русь: беларуская лірыка паэтаў-песеннікаў".

**24 жніўня** Аршанская гарадская дзіцячая бібліятэка імя У. Караткевіча праводзіць семінар работнікаў дзіцячых і школьных бібліятэк.

**26 жніўня** ў Каменналогскай сельскай бібліятэцы Ашмянскай ЦБС плануецца правесці завочнае падарожжа "Літаратурнымі сцежкамі роднага краю". Яго ўдзельнікі пазнаёмяцца з мясцінамі, дзе нарадзіліся або працавалі знакамітыя паэты і пісьменнікі-землякі: "завітаюць" у в. Жупраны, дзе пахаваны Ф. Багушэвіч; в. Гальшаны, дзе нарадзіўся В. Адважны; в. Паляны, дзе нарадзіўся Ч. Янкоўскі; в. Мураваная Ашмянка, дзе працаваў К. Дарагастайскі і інш.

**26 жніўня** Ушацкая цэнтральная раённая бібліятэка імя Е. Лось арганізуе вечарыну-сустрэчу з А. Салтуком "На вейцы веку" (да 65-годдзя творцы).

**27 жніўня** Глуская цэнтральная раённая бібліятэка праводзіць літаратурную гадзіну да 105-годдзя з дня нараджэння Сяргея Новіка-Пеюна "Песні жыцця чалавечага".

**У жніўні** Мастоўская цэнтральная раённая бібліятэка сумесна з Саюзам палякаў на Беларусі пры падтрымцы аддзела ідэалагічнай работы райвыканкама плануе правесці мерапрыемства, прысвечанае 170-годдзю з дня нараджэння Элізы Ажэшкі.

**На жнівень** у Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна запланавана гадзіна цікавага паведамлення "Стваральнік гістарычнага рамана" — да 240-годдзя з дня нараджэння англійскага пісьменніка В. Скота.

**30 жніўня** да 120-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча ў Малюшыцкай сельскай бібліятэцы Карэліцкай ЦБС адбудзецца літаратурна-музычная кампазіцыя "Нязгаснаю зоркай ты ў небе Радзімы...". Прысутныя пазнаёмяцца з жыццёвым і творчым шляхам паэта, паслухаюць яго вершы, наведаюць выстаўку "Незабыўны Максім Багдановіч".

**Раіса МАРЧУК,**
**фота Валерыя Міхальчука**

**Калектыву музея народнай творчасці ў аграгарадку Моталь Іванаўскага раёна аднаму з першых у 2001 годзе была ўручаная спецыяльная прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва за шматгранную працу па прапагандзе і папулярызацыі народнага мастацтва і традыцыйных промыслаў. Многія турыстычныя фірмы з задавальненнем уключаюць музей у свае маршруты. А ў 2008 годзе па выніках конкурсу “Пазнай Беларусь” ён быў адзначаны дыпломам першай ступені ў намінацыі “Лепшы турыстычны аб’ект”.**



# Калі рамёствы запатрабаваныя, яны квітнеюць

Яшчэ ў мінулым стагоддзі ў Моталі і акаляючых яго вёсках квітнелі такія традыцыйныя рамёствы, як ткацтва, гарбарства, разьба па дрэве, ганчарства, кавальства. Адны промыслы дажылі да нашых дзён і паспяхова развіваюцца далей, другія па розных прычынах пакуль “прыціхлі”, але гэта не значыць, што зусім забытыя. Усё майстэрства тутэйшых людзей шырока прадстаўлена ў экспазіцыі музея, стварэнне якога пачалося задоўга да афіцыйнага адкрыцця ўстановы ў 1995 годзе. Хаця экспанаты размешчаныя на трох паверхах, плошчы даўно ўжо не ўмяшчаюць усё, што змаглі сабраць супрацоўнікі за працягу шаснаццаці гадоў. Асноўны фонд налічвае 18 тысяч музейных прадметаў, 12 тысяч — у запасніках. Чаму музей стварылі менавіта ў Моталі?

— Наш рэгіён вельмі цікавы, — распавядае дырэктар музея народнай творчасці Вольга Мацукевіч. — Моталь — старадаўняе мястэчка. Калі мы займаліся навуковай працай і камплектаваннем фондаў, дык звярнулі ўвагу на мястэчкі, праз якія ў сярэднявеччы праходзіў гандлёвы шлях — ад Гараднай у Столінскім раёне, дзе былі развіты ганчарныя рамёствы, і да Ружан, дзе выраблялі рэдкую чарнадымленую кераміку. На гэтым шляху раскінулася нямала паселішчаў, якім было нададзена Магдэбургскае права. У кожным з іх праходзіла па восем кірмашоў у год. У 1551 годзе, калі Моталь належаў каралеве Боне Сфорцы, ён таксама атрымаў Магдэбургскае права.

І сёння гэта буйное мястэчка з цікавым і неардынарным укладам жыцця, дзе прысутнічаюць мудрасць і дбайнасць палешукоў пра заўтрашні дзень. Тут жывуць па плыні і ўвесь час стараюцца зарабіць грошы, каб жыць дастойна. Многія ўменні і навыкі мясцовых жыхароў запатрабаваныя гэтак жа, як і некалькі стагоддзяў таму.

— Калі развалiўся Савецкі Саюз, маталяне хуценька зарыентаваліся: унеслі ў дамы варштаты, якія беражліва захоўвалі, і пачалі ткаць прыгожанькія хустачкі, — успамінае Вольга Рыгораўна. — Здаралася, маці выйдзе з хаты, каб па гаспадарцы ўправіцца, а за станок сын-падлетак садзіцца. Вырабы маталян карысталіся вялікім попытам. І цяпер некаторыя знаёмыя з Расіі просяць выслаць тыя хустачкі, маўляў, цёплыя, лёгкія, але іх ужо не ткуць.

Вольга Рыгораўна ўспамінае часы, калі былі ў модзе тутэйшыя кажухі. Гэта сёння іх вязуць з Турцыі, а раней толькі ў Моталі развіваўся гарбарны промысел, дзе спакон вякоў выраблялі скуру на абутак і адзенне. Кажухі шылі амаль у кожнай хаце. Здаралася, за скурай ездзілі ажно ў Сібір. Вось такія маталяне прадпрымальныя. Прыязджалі па абноўкі і з блізкай Польшчы, і з далёкай Аргенціны.

— Цяпер жа рэдка кажухі вырабляюць, звычайна для сябе, — зазначае Вольга Мацукевіч. — На жаль, тых слынных майстроў, якія шылі такія кажухі, што можна было насіць па сто гадоў, ужо няма. Але гарантую: калі б зноў узнік кажушны бум, палова Моталя ўзялася б за гэтую справу. Я і сама ўмею кажухі вырабляць.

Мясцовае паданне сведчыць: калі каралева Бона ехала праз тутэйшыя землі, у Моталі яе душу кранула тое, што сустракаць італьянку выйшлі людзі ў прыгожай ільняной вопратцы і



скураных чаравіках. Самі ж маталяне заўсёды ганарыліся тым, што ніколі ў лапцях не хадзілі, а абувалі іх толькі на балота.

— Што датычыць ганчарства, яно ў “жывым” выглядзе ў Моталі ўжо, на жаль, не існуе, — гаворыць Вольга Рыгораўна. — Рамёствы жывуць і квітнеюць тады, калі прадукцыя запатрабаваная. Калі ж наадварот — яны паміраюць. Цікавы той занятак, які дае прыбытак і грэе сэрца.

Больш пашанцавала ткацтву, якое і цяпер сілкуецца народнымі традыцыямі. Вяселлі заўсёды суправаджаюцца на Палессі тканымі ручнікамі, абрусамі.

— У дзяцінстве ў мяне была сяброўка — баба Полюшка, вельмі ўдалая ткачыха, — успамінае дырэктар музея. — Аднойчы запытала ў яе: “Навошта ткаць аднолькавыя канцы ў ручніках? Няхай бы адзін быў такі, а другі — іншы? Прыгажэй выходзіла б!”. На што Полюшка адказала: “Ручнік — гэта сімвал нашага жыцця. Першы канец — нараджэнне. Яго даўжыня — наша жыццё. Мы павінны дайсці да другога канца такімі ж чыстымі, як нарадзіліся. Таму і канцы аднолькавыя”.

Супрацоўнікі музея падчас навуковай працы вызначылі, што ў часы каралевы Боны з’язджаліся ў Моталь розныя майстры з Італіі. Адны, напрыклад, прадэманстравалі высокамастацкае ткацтва. Патомкаў тых майстроў так і клічуць — Ткачы.

— Прапраўнучка аднаго з іх, можа, у дзясятым калене, нек прынесла мне фрагмент абруса, які ткаў на шырокім варштаце яе далёкі прадзед у паноў, — расказвае Вольга Мацукевіч. — Уявіце сабе абрус шырынёй амаль у два метры, даўжыня — яшчэ большая. Майстра працаваў, седзячы на лаве са спецыяльнай калясачкай: укіне чаўнок, адпіхнецца і хуценька пераедзе на другі бок, каб схапіць там чаўнок. Сучасныя ткачыхі круцілі-круцілі гэты лапік, ды так і не даўмелі: як можна было выткаць такія адмысловыя ўзоры!

Мабыць, у часы каралевы Боны італьянскія майстры паспрыялі нараджэнню ў Моталі яшчэ аднаго рамяства — разьбы па дрэве. Сведчанне таму — італьянскія прозвішчы, якія з невялічкімі змяненнямі дайшлі да нашых дзён.

— Падчас экспедыцый мы ўбачылі ў адной царкве разны драўляны іканастас з подпісам: “Рабілі майстры з Моталя — Кузюры”, — паведала Вольга Рыгораўна. — Гэта дакладна нетутэйшае прозвішча. Мы лічым, што майстэрства італьянцаў, якіх выпісала каралева Бона, лягло на добрую глебу, удала злілося з уменнямі палешукоў і паспрыяла росквіту тутэйшых рамёстваў.

— Калі музей ствараўся, гучала і такое меркаванне: маўляў, каму ён патрэбны і хто ў глыбінку паедзе? — далучыўся да нашай размовы начальнік аддзела культуры Іванаўскага райвыканкама Уладзімір Шэляговіч. — Цяпер сюды ахвотна едуць турысты з усіх куткоў Беларусі, з блізкага і далёкага замежжа, у якіх вочы блішчаць ад задавальнення і атрыманых уражанняў! Безумоўна, радуе і тое, што зробленае ў Моталі застанецца на стагоддзі.

***На здымку: рэканструкцыя мястэчка Моталь; ткацкі станок.***

## З глыбінкі

### Шклоўскі «жаваранак»

Магілёўскае гарадское таварыства беларускай мовы рэгулярна ладзіць экскурсіі-вандроўкі па літаратурных мясцінах Беларусі. Чарговая была прысвечана 70-годдзю з дня нараджэння выдатнага беларускага лірыка Анатоля Сербантовіча, таму галоўным акцэнтам яе стала наведванне радзімы паэта, вёскі Ордаць Шклоўскага раёна.

У ролі экскурсавода выступаў член Магілёўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Віктар Арцем’еў. Ён падрабязна пазнаёміў гасцей з біяграфічнымі і творчымі набыткамі паэта, які сышоў у нябыт, не маючы і трыццаці гадоў. Між іншым, Арцем’еў паведаміў, што ім укладзены зборнік успамінаў, рэцэнзій і вершаў, прысвечаных “шклоўскаму жаваранку” — “Вянок Анатолю Сербантовічу”.

У Ордаці каля будынка школы, у якой вучыўся Сербантовіч, экскурсію сустрэлі настаўнікі. Яны запрасілі турыстаў у школьную бібліятэку і паказалі створаны тут куток паэта. На кніжную паліцу быў пастаўлены і “Вянок Анатолю Сербантовічу” з аўтографам укладальніка.

Пасля шчырай і цікавай гутаркі ў школе экскурсійны аўтобус рушыў уздоўж рэчкі Басі, якую вельмі любіў Сербантовіч, да таго месца, дзе калісьці стаяў дом паэта. Цяпер на гэтым месцы стаіць стол і абапал яго — лаўкі. Да раскідзістай бярозы прымацавана мемарыяльная дошка. Прысутныя ўшанавалі памяць паэта хвілінай маўчання. Гучалі вершы Сербантовіча і добрыя словы пра яго талент, які, на жаль, не паспеў у поўнай меры рэалізавацца.

У дарозе “літаратурныя турысты” разважалі, што яшчэ можна зрабіць дзеля ўшанавання памяці Анатоля Сербантовіча. Вырашылі, што, безумоўна, мемарыяльныя дошкі на будынках школ у Ордаці і Гарадзішчы, у якіх вучыўся паэт, былі б дарэчы.

**Віктар ІВАНОЎ,**
**Шклоўскі раён**

### Песня турызму дапамагае

На Мядзельшчыне даказваюць, што свой уклад у развіццё турызму могуць унесці і культработнікі. Тут ужо не першы год выкарыстоўваюць элементы тэатралізаваных пастановак у правядзенні экскурсійных маршрутаў. А сёлета вырашылі наладзіць супрацоўніцтва з гаспадарамі аграсядзіб.

— Нядаўна патэлефанавалі з Ізраіля, папрасілі прыняць групу турыстаў, — расказвае гаспадыня адной з аграсядзіб Фаіна Лук’яновіч. — Але яшчэ кажуць: “Добра было б, каб цёпла прывіталі”.

Іх пажаданне выканалі, сустрэў гасцей калектыў “Весялухі” Старамядзельскага дома культуры. Артысты ў народных строях прапанавалі турыстам развучыць беларускі танец. І, дарэчы, у якасці сюрпрызу паказалі яўрэйскі танец, які ў даўнія час танчылі ў Мядзельскім краі.

— Для нас такая сустрэча — вялікі сюрпрыз, — выказаліся яны. — Самае вялікае задавальненне ад паездкі атрымалі тут. Бо мы ўвесь час падарожнічалі з сумнай місіяй: наведвалі мемарыялы, магілкі. А тут пачулі прыгожыя песні, паглядзелі народныя танцы.

У аддзеле культуры лічаць, што супрацоўніцтва з гаспадарамі аграсядзіб — гэта цікавы напрамак работы. Тым больш, для Нарачанскага краю ён асабліва актуальны.

**Алесь ВЫСОЦКІ,**
**Мядзельскі раён**

## Афарызм

*Кожны чалавек хоча кахаць і быць каханым, народжаны для кахання, шукае яго ўсё жыццё, моліцца яму і памірае з думкамі аб ім...*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”
Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ



Юрыдычны адрас: 220034, Мінск, пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны: галоўны рэдактар — 284-84-61; намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы: публіцыстыкі — 284-66-71; крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04; прозы і паэзіі — 284-44-04; мастацтва — 284-82-04; навін — 284-44-04; аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры перадруку просьба спасылацца на “ЛіМ”. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку” г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2856
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 04.08.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3701
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686